ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 ВЕРАСНЯ 1995 г. № 38 (3810) Кошт 2 000 руб.

## ДЫК ЦІ АДБЫЎСЯ РЭФЕРЭНДУМ?

***Анатоль ВЯРЦІНСКІ: "Прайшоў час. Мінула лета. Мінулі ўсе тры Спасы. І разам з іншымі пладамі народ пажынае горкія плады рэферэндуму..."***



## У ТУПІКУ САМАПАДМАНУ

***Алесь АРКУШ: "Узнікла сітуацыя няведання: што маем (нават на нацыянальным узроўні), якія працэсы дамінуюць, куды скіраваны раўнадзеючы вектар руху. Сёння папросту не хапае суб'ектаў, якія б заняліся літаратурай..."***



## ФАНТАМАС

***Апавяданне Віктара СУПРУНЧУКА.***



## "ВЯРНУЦЦА ЗНОЎ І ЖЫЦЬ..."

***25 верасня — 230 гадоў з дня нараджэння Міхала Клеафаса АГІНСКАГА. Пра знакамітага кампазітара расказваюць Уладзімір МАРХЕЛЬ і Наталля СОБАЛЕВА.***



## ІДЭЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ ЖЫЛА ТУТ АДВЕКУ...

***Леанід ЛЫЧ: "Навааградчына — гэта не зрусіфікаваны дашчэнту Мінск, дзе беларускага баяцца больш за ўсё на свеце".***







*...і засталіся каміны*

*і было напачатку людна*
*і было напачатку тлумна*
*і сцежкі перапляталіся*
*і дым падымаўся да зор*
*і засталіся каміны*
*як ідушчыя посахі*
*веліканаў*
*якія нядаўна вымерлі*



*На здымках Анатоля КЛЕШЧУКА — рэшткі цагельняў, якія ў пасляваенныя гады адбудоўвалі Беларусь.*

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***На гэтым тыдні, 19 верасня, споўнілася чатыры гады, як герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг па рашэнні Вярхоўнага Савета набылі статус дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь. Згодна нашай Канстытуцыі, адмяніць рашэнне Вярхоўнага Савета можа толькі сам Вярхоўны Савет — выканаўчая ўлада такім правам не валодае. Так што ўказы пра "новы" герб і сцяг маюць цікавасць толькі як бюракратычны кур'ёз. Нашыя сімвалы — па-ранейшаму — дзяржаўныя.***

## ТЭМА ТЫДНЯ

"Трагедыя ў небе Беларусі. Хто вінаваты?", "Цень паўднёвакарэйскага "Боінга", "Пужаная белая варона ў цэнтры сярэднееўрапейскай узвышанасці", "Гэтая трагедыя павінна перасцерагчы ад далейшых падобных памылак" — гэта загалоўкі публікацый у адной толькі "Белорусской деловой газете" за 18 верасня. Не трэба тлумачыць, пра што ідзе гаворка. Пра гібель двух амерыканскіх грамадзян у беларускім небе паведамілі ўсе больш-менш сур'ёзныя выданні Беларусі. Найбольш сціпла і няўцямна тыя, што пад кантролем урада.

## "ПРАБЛЕМА" ТЫДНЯ

Народны дэпутат Беларусі Генадзь Карпенка, як вядома, падаў у суд на сп. Аляксандра Лукашэнку пасля інтэрв'ю, у якім прэзідэнт абвінаваціў народнага дэпутата ў зрыве паставак у Беларусь узбекскай баваўны. У суда нечакана ўзнікла праблема: невядома, куды дасылаць павестку, бо невядомы адрас адказчыка. Па адной версіі ён жыве на вуліцы Фрунзе ў Мінску, па другой — у Драздах, на трэцяй — у Шклове...

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўдзельная вага расходаў рэспубліканскага бюджэту на ўтрыманне апарату кіравання павялічыліся амаль у два разы. А калі параўноўваць з 1992 годам (тады фактычна сфармавалася сённяшняя сістэма дзяржаўнага кіравання), дык гэты паказчык павялічыўся ў тры з паловай разы. Пры гэтым трэба адзначыць, што бюджэтная статыстыка не адлюстроўвае сапраўдная карціны памянёных расходаў.

Лічбы ўзяты са справаздачы старшыні рэспубліканскай Кантрольнай палаты сп. Васіля Саковіча на сесіі Вярхоўнага Савета.

## ПУБЛІКАЦЫЯ ТЫДНЯ

"Народная воля" распачала публікацыю раздзелаў з кнігі ангельскага гісторыка Дэніса Мэк Сміта "Мусаліні". Гэта кніга з цыкла "Дыктатары" (выдавецтва "Інтэр Дайджэст"). Публікацыя дае зразумець, якую велізарную ролю адыгралі папулізм і сацыяльная дэмагогія ва ўсталяванні фашысцкіх рэжымаў.

## УДЗЯЧНАСЦЬ ТЫДНЯ

На афіцыйным адкрыцці ў Празе штаб-кватэры радыёстанцый "Свабода" і "Свабодная Еўропа" прэзідэнт Чэхіі Вацлаў Гавел заявіў: "Я не ўпэўнены, што не сядзеў бы зараз у турме, чакаючы выхаду на свабоду гады праз два, калі б не тая ведамасць, якую я набыў, дзякуючы гэтым радыёстанцыям".

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

18—19 верасня Мінск наведалі прадстаўнікі Сусветнай канфедэрацыі працы і Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў. У складзе дэлегацыі — прафсаюзныя дзеячы з Бельгіі, Германіі, Румыніі, Польшчы, Эстоніі. Яны мелі сустрэчы з віцэ-прэм'ерам, міністрам працы, выконваючым абавязкі генеральнага пракурора, старшынёй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Мэта візіту — заявіць падтэкст беларускаму ўраду супраць сур'ёзных парушэнняў правоў прафсаюзаў.

Скарга на дзеянні кіраўніцтва Беларусі падчас страйку будзе разгледжана ў Міжнароднай арганізацыі працы, акрамя таго, адпаведныя прадстаўленні былі зроблены ў прэзідыум Еўрасаюза, у Еўрапарламент. Прадстаўнік Міжнароднай арганізацыі працы сп. А. Улатар сказаў, што рэакцыя беларускіх уладаў на страйк — гэта унікальны выпадак. З пачатку працэсу рэформ ва Усходняй Еўропе гэта першы выпадак забароны прафсаюзаў. "Мы прыехалі сюды, — дадаў ён, каб выказаць свой шок і жах ад такой падзеі. Мы атрымлівалі пісьмы з пратэстамі на гэты конт з усяго свету, уключаючы Папуа Новую Гвінею..."

## "СУБАРДЫНАЦЫЯ" ТЫДНЯ

22 верасня ўрад Беларусі ладзіць справаздачу аб сваёй дзейнасці перад сп. Лукашэнкам. Цікава, што патрабаванне Вярхоўнага Савета зрабіць такую справаздачу на сесіі парламента ўрад праігнараваў.

## ВАЛЮТА ТЫДНЯ

Адміністрацыя Бабруйскага піўзавода, не маючы грашовай наяўнасці, выдае зарплату рабочым спіртам.

## "АДКЛЮЧКА" ТЫДНЯ

У Гродзенскай бальніцы хуткай дапамогі больш за тыдзень не было гарачай вады. За неплацяжы. Бальніцу прыраўнялі да заводаў-даўжнікоў. У такім "ахаладжаным" стане і першая гарадская бальніца Гародні.

## ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

"Багданкевіч, На каго ты нас пакідаеш?"
("Беларуская маладзёжная", N 28)

## "ЭКСПЕРТЫЗА" ТЫДНЯ

Як і чакалася, "эксперты", запрошаныя на судовы працэс "Пазняк супраць Азаронка", зрабілі заключэнне, што Азаронак у сваім скандальным фільме не парушаў этыкі і маралі, што мантаж, калі на тэндэнцыйна падабраныя кадры хронікі часоў Другой сусветнай вайны накладваецца фанаграма палітычнай прамовы лідэра БНФ — "допустим как техническое и художественное средство". Акрамя таго, адвакат Азаронка ў сваёй прамове абразіў лідэра БНФ, паставіўшы пытанне аб ягонай здольнасці адэкватна рэагаваць на падзеі і прапанаваўшы запрасіць на суд урача-псіхіятра. Інакш, як прававы "беспредел", гэта назваць нельга. У гэтай сувязі хочацца прыгадаць словы аднаго бальшавіка з "ленінскай гвардыі", які пасля 1937 года і Калымы пісаў у мемуарах: "Адмяняючы ў Расіі правасуддзе, мы не думалі, што гэта калі-небудзь закране і нас".

*Адгалоскі*

# ТРАГЕДЫЯ АБСУРДУ

Ахоўваючы ядзерныя сакрэты Расіі, сілы супрацьпаветранай абароны Беларусі забілі двух ні ў чым не вінаватых амерыканцаў.

Першае пытанне, якое ўзнікла з нагоды гэтай трагедыі, — навошта? Каму маглі пагражаць грамадзяне ЗША Алан Бернард Фрэнкель і Джон Сцюарт Джэрвіс, якія перад гэтым спакойна, без якіх-небудзь перашкод, распачаўшы палёт у Швейцарыі, перасеклі межы Аўстрыі, Чэхіі і Польшчы? Дарэчы, двое іншых амерыканцаў прызямліліся са сваім паветраным шарам у Зэльвенскім раёне, перапачавалі ў гатэлі, а раніцай без праблем паехалі ў Польшчу. Фрэнкелю і Джэрвісу не пашанцiла. Іхні шар несла ветрам у бок базы ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння. Расійскіх войск, зразумела. Беларусь ракет стратэгічнага прызначэння не мае. А беларускія вайскоўцы, дэманструючы, як пільна яны ахоўваюць расійскія інтарэсы, атакавалі лятальны апарат, які, згодна афіцыйнай версіі, падаўся ім беспілотным. Абсурд нейкі! Тая база, мабыць, сто разоў сфатаграфавана з космасу. Існуе міжнароднае пагадненне аб кантролі наземных аб'ектаў сродкамі авіяцыі. Пры неабходнасці над гэтай базай могуць пакружыць ваенныя самалёты ЗША і НАТО. Адпаведна нашы самалёты (калі нам гэта трэба) могуць палётаць над ваеннымі базамі ўчарашняга "патэнцыяльнага праціўніка".

Тое, што адбылося, немагчыма растлумачыць у адпаведнасці са звычайнай логікай і здаровым сэнсам. Нават паралель з трагедыяй паўднёвакарэйскага "Боінга" тут не падыходзіць. Усё ж такі тое адбылося ў гады "халоднай вайны". Усе ведалі, што нашы субмарыны плаваюць у "іхніх" тэрытарыяльных водах, а іхнія самалёты час ад часу залятаюць у "наша" паветра. Да таго ж, "Боінг" — гэта не паветраны шар, гэта сур'ёзная машына, здольная выконваць шмат якія функцыі. Так што, шкадуючы аб ахвярах, нельга не прызнаць, што ў дзеяннях савецкіх супрацьпаветраных сіл логіка была: быў збіты самалёт, які досыць доўга ляцеў у чужой паветранай прасторы, ніяк не рэагуючы на запыты. "Боінг", нагадваю, — гэта не паветраны шар...

А мо ў Беларусі час спыніўся і мы ўсё яшчэ за "жалезнай заслонай", у акопах "халоднай вайны"?

Як бы тое не было, але прэстыжу нашай краіны нанесены яшчэ адзін моцны ўдар. І сумны прыярытэт у галіне абсурду цяпер належыць Беларусі. Тое, што экіпаж амерыканскага паветранага шара стаў ахвярай любві беларускіх уладаў да Расіі і ўсяго расійскага, у тым ліку і ракет, — зразумела, толькі версія. Аднак вядома і тое, што прымусіць дурня богу маліцца, ён і лоб разаб'е. У дадзеным выпадку — чужы лоб.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ПАКРЫЎДЖАНЫЯ

Памятаеце, як у класіка? Ідуць беларусы і што нясуць? Так, "сваю крыўду". Заўважце — не праўду і не змагарны дух, а — крыўду. І хаця Купала пісаў гэта ў пачатку стагоддзя і меў на ўвазе нешта іншае, але паралель з днём сённяшнім выводзіцца надзіва дасканалая.

Пакрыўджаных у нас усе і ўва ўсіх магчымых сэнсах гэтага слова. Але самым пакрыўджаным у Беларусі — ці не наш прэзідэнт. Гэта ніякім чынам не ёсць спробай абразіць Аляксандра Рыгоравіча, а толькі выснова, якая вынікае з тых фактаў, што добра вядомыя ўсім.

Палітычная кар'ера А. Лукашэнкі (ва ўсялякім разе ягоны ўзыход ад шараговага дэпутата да першай асобы ў дзяржаве) была такой паспяховай не ў апошнюю чаргу дзякуючы таму, што ён штораз чамусьці быў некім пакрыўджаным. І пра крыўду сваю Аляксандр Рыгоравіч не маўчаў, не хаваў яе, а нёс сапраўды "на свет цэлы", шырока рэкламуючыся праз сваю пакрыўджанасць.

Пачнём з таго, як наш прэзідэнт быў старшынёй парламенцкай антыкарупцыйнай камісіі. У той час яго крыўдзіла мафія. Ці так было, ці не, але любая старая кабета нават у самым глухім беларускім хутары напярэдадні выбараў гэта ведала. Ды бяда, як той казаў, адна не ходзіць. А. Лукашэнку крыўдзяць ягоныя калегі-дэпутаты і ліквідуюць камісію. Мала гэтага — яны "забіраюць" у нейкім сэнсе "маёмасць" (апячатваюць рабочы кабінет). Міліцыянеры не пускаюць старшыню камісіі працаваць і нібыта збіваюць (асабліва выціскала слязу тая акалічнасць, што ў гэтай сутычцы быў пашкоджаны адзін з нешматлікіх пінжакоў Аляксандра Рыгоравіча — у цэнтральных газетах нават быў адпаведны фотаздымак). Ну, а потым — самае жахлівае: таямнічы стрэл у Лёзне. А дзіўны, цудоўны ў сваёй пакрыўджанасці голас кандыдата ў прэзідэнты быў увогуле па-за канкурэнцыяй і сапраўды падабаўся людзям, запаўшы ў душу аграмаднай колькасці выбаршчыкаў.

А. Лукашэнку ж у той час палівалі брудам. Вось таму і адказ на пытанне, каго і чаму выбралі беларусы, калі разабрацца, не здаецца дзіўным.

Потым Аляксандр Рыгоравіч стаў першай асобай у дзяржаве. Але працэс працягваўся. Яго заўсёды нехта крыўдзіць: нацыяналісты, банкіры, дырэктары заводаў, Вярхоўны Савет. Ды, атрымаўшы ўладу, прэзідэнт пачаў "аплочваць рахункі". Цяпер і ён крыўдзіць шмат каго: страйкоўцаў, апазіцыю, дэпутатаў, прадпрымальнікаў, а зараз, праз тое, што ў бюджэце няма грошай, — ільготнікаў і пенсіянераў.

Разагналі ў свой час дэпутаты ягоную камісію, не пускалі ў кабінет? А цяпер няма ўжо ў ВС свайго асобнага будынка — усё навокал прэзідэнцкае; адабраны гаражы, машыны, месцы ў "дэпутацкім" гатэлі і г. д.

Але ў гэтае прэзідэнцкае пакрыўджанасці ёсць яшчэ адзін бок. Я, мабыць, скажу дзіўную і парадаксальную рэч, але мне здаецца, што А. Лукашэнка можа паспрыяць беларускай дзяржаве. Калі ў Расіі раптам зменіцца палітыка на адкрыта імперыялістычную з абавязковай умовай далучэння "исконно-русских" земляў шляхам зброі, то А. Лукашэнка з-за сваёй амбітнасці і непрымання таго, што яго крыўдзяць, можа проста паўстаць супраць Расіі. Чаго ніколі не зрабіў бы, я ўпэўнены, В. Ф. Кебіч.

Пра апазіцыю размова ж асобная. Невядома, чым яна крыўдзіла прэзідэнта, але прэзідэнт яе крыўдзіць ад усёй душы і ад шчырага сэрца, "шарсціць" яе на кожным кроку. І гэта не можа не выклікаць рэакцыі ў адказ. Адзін мой сябра ўжо і вітаецца са мною не інакш, як словамі: "Рэвалюцыя — блізкая ды непазбежная!" ... Нацыяналісты пакрыўджаныя, і можа стацца, што сёй-той з іх сапраўды пачне прагнуць рэвалюцыі. Не аксамітнай і не спяваючай, а самай сапраўднай — з гвалтам і тэрорам.

А пакрыўджаны народ, які ўжо стаміўся ад усяго гэтага, можа разлюбіць "бацьку" ды пайсці за кім заўгодна.

**Аляксей ШЭІН**

*Меркаванне*

# А ВІНАВАТЫ — "ПАРШИВЫЕ НАЦИОНАЛИСТЫ"

Апошнім часам усё часцей ахопліваюць мяне настальгічныя думкі. Успамінаецца тое недалёкае мінулае, калі ці не ўся грамадскасць рэспублікі цікавілася палітычным жыццём краіны, калі сродкі масавай інфармацыі ў большай ці меншай ступені прадстаўлялі слова амаль што ўсім палітычным сілам. Пасля ж выбараў і рэферэндуму пачаліся цікавыя змены. Складвалася ўражанне, што апазіцыйныя партыі і рухі пацixу знікаюць, іх палітычная актыўнасць падае, іх амаль што не чуваць. Аднак на самай справе было ўсё інакш. Прэзідэнт у той час святкаваў перамогу і, "дабы не омрачать радость победы", услужлівыя памагатыя рабілі адпаведныя захады. Але...

Але прайшоў пэўны час, мінуўся шок. "Пераможаныя" зразумелі, што не на адных гэтых выбарах "свет клінам сышоўся", і пачалі (а дакладней — прадоўжылі) сваю дзейнасць. І што самае цікавае — тое ж самае зразумелі і "пераможцы". Бачачы, што "паршивых националистов" ніяк "не утихомирить, и вряд ли удастся", у кароткі тэрмін была выпрацавана іншая тактыка. Якая? Паспрабуем высветліць.

У выніку "перамогі" на выбарах была атрымана моцная зброя — падначаленыя вузкаму колу асоб СМІ рэспублікі. Са старонак газет, з экранаў тэлевізараў і з радыёпрыёмнікаў пачаўся масавы наступ на свядомасць людзей з мэтай замацаваць там думку, што "все беды в стране" адбываюцца па віне гэтых самых "паршивых националистов". Не працуюць заводы — вінаваты яны, "Карпенко сорвал нам поставки хлопка в страну" (глядзі ж ты, якая значная фігура ў дзяржаўным апараце!). Страйкуюць тонкасуконшчыкі — гэта "эти бэнээфовцы их подговорили всех сюда придти". Пачала выходзіць "Народная воля" — "это Сорос их кормит". Прэзідэнт "собственноручно" зачытвае тэмы для сачыненняў на ўступных экзаменах у ВНУ, таму што "некоторые "спадары дэмакраты" хотят, чтобы в ВУЗах республики учились только дети элиты, а сын простого тракториста или доярки всю жизнь месил грязь в колхозе". (Цікава, якая "элита" вучыцца ў нашых ВНУ і пра якую "грязь" казаў прэзідэнт?)

Пойдзем далей. "Комсомольская правда" друкуе артыкул "Батька Лукашенко" — і "бацька" ў інтэрв'ю Краснаярскаму тэлебачанню заяўляе: "Вы ж посмотрите, это ж все с этой националистической бульварной желтой газетенки "Свабода" содрано, это же все фразы оттуда". Страйкуе мінскае метро — "опять этот БНФ сюда влез, им, видите ли, денег мало. Да они ж по четыре миллиона получают, и им все мало. Моя зарплата президента и то гораздо меньше". І газеты, акрамя хіба што "Свабоды", "Народнай волі" і некаторых іншых, не зазначылі нават і да гэтае пары, што страйкавалі метрапалітэнаўцы з прычыны нявыплаты заробку і невыканання адміністрацыяй калектыўнай дамовы. (Я ўжо не кажу пра тое,

Вечарыны

# ЖЫВЕ КУПАЛА — ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ

20 верасня ў мінскім Доме літаратара адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 50-годдзю Літаратурнага музея Янкі Купалы.

Са святочнай датай супрацоўнікаў музея павіншаваў тэлеграмай Мечыслаў Грыб. Ад імя Вярхоўнага Савета ён выказаў шчырую ўдзячнасць калектыву музея і пажадаў далейшых поспехаў і плёну ў працы. Пасля супрацоўнікаў музея павіншаваў з юбілеем народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Ён сказаў: "Музей у нашым уяўленні — гэта перш за ўсё рэчы: рукапісы, фотаздымкі, кнігі і іншае. Але на самай справе музей — гэта найперш людзі, якія там працуюць. Гаворачы пра музей Янкі Купалы, трэба ўяўляць людзей, бачыць і гаварыць пра іх, пра тых людзей, якія шукаюць і знаходзяць рукапісы і фотаздымкі, кнігі і лісты, пра тых людзей, якія робяць знойдзенае здабыткам усіх, хто прыходзіць у Купалаў дом, каб духоўна ўзбагаціцца і прасвятлець. Літаратурны музей Янкі Купалы — гэта шлях жыцця і творчасці вялікага песняра, шлях нашае літаратуры, гістарычны шлях нашага народа". Выказваючы падзяку супрацоўнікам музея за іх шчырую і самаадданую працу, Н. Гілевіч заўважыў: "Хочацца верыць, што ў нас будзе дзяржава, якая будзе клапаціцца пра такіх людзей".

Першы намеснік міністра культуры Уладзімір Гілеп у сваім віншавальным выступе падзякаваў "тым людзям, якія, нягледзячы на тое, што дзяржава выдзяляе невялікія сродкі музею, нягледзячы на мізэрныя заробкі, усё ж такі працуюць разам з Купалам". Сп. Гілеп зачытаў віншавальную тэлеграму супрацоўнікам музея Старшыні Кабінета Міністраў Міхаіла Чыгіра.

Віншаванняў у той вечар было шмат, як і падарункаў. Цёплыя і пранікнёныя словы ў адрас купалаўцаў прагучалі з вуснаў Радзіма Гарэцкага, віцэ-прэзідэнта АН Беларусі, старшыні Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Ён падараваў музею знойдзенае ў фондах бацькі запрашэнне на 20-гадовы юбілей творчасці Янкі Купалы. Прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны Адам Мальдзіс падараваў музею лілейку, якую насілі скаўты ў гімназіі імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, чарговы нумар "Беларусікі" з матэрыяламі II Міжнароднага кангрэса беларусістаў, а таксама ўручыў дырэктару музея Жане Дапкюнас дыплом ганаровага сябра МАБ.

З віншаваннямі ад імя Еўфрасіннеўскага фонду да купалаўцаў звярнулася яго прэзідэнт Валянціна Коўтун, паведаміўшы, што супрацоўнікі музея прыняты ў сябры фонду. Віншаванне з юбілеем і паклон ад маскоўскай купалазнаўчай грамадскасці перадаў навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры АН Расійскай Федэрацыі прафесар Аляксей Каўка. Са словамі павагі і шчырай удзячнасці да калектыву музея звярнулася загадчык музея-кватэры Янкі Купалы ў Казані Маргарыта Антонава. Віншаванні і падзяку за працу купалаўцам перадаў калектыў адзінай у рэспубліцы школы імя Янкі Купалы.

Са святам павіншавалі сваіх калег супрацоўнікі літаратурнага музея Максіма Багдановіча, а дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская разам з віншаваннем падаравала музею прыжыццёвыя выданні вершаў Я. Купалы 1913—1940 гг.

Прыемна парадавалі прысутных і юбіляраў акцёры Рускага драматычнага тэатра, якія паведамілі, што калектыў пад кіраўніцтвам Барыса Луцэнкі рыхтуе спектакль па п'есе Я. Купалы "Тутэйшыя", які будзе пастаўлены на мове аўтара.

Свята Купалавага дома сталася не толькі сустрэчай сяброў, але і святам Купалавай паэзіі, Купалавай спадчыны, святам беларускай літаратуры. Здавалася, сапраўды, аўра Купалы, як сказала Жана Дапкюнас, пануе ўсюды, музей Купалаў жыве, а жыве музей — жыве і Купала. А жыве Купала — будзе жыць і Беларусь.

**Я. ВУГЛОВІЧ**

# ПАТРЭБНАЕ СЛОВА — "ДРУЖБА"

У сталіцы нашай дзяржавы адбыліся Дні культуры нямецкай зямлі Шлезвіг—Гальштэйн. Праходзілі яны як акцыя ў адказ на мерапрыемствы, што мелі месца летась, калі гасцінная нямецкая зямля прымала ў сябе гасцей з Беларусі. Тады ў Германіі выступаў танцавальны ансамбль "Белыя росы" з Гродна, аматары мастацтва змаглі пазнаёміцца з творамі А. Марачкіна, прыняць удзел у шэрагу іншых цікавых мерапрыемстваў.

Гэтым жа разам сваё майстэрства паказвалі нямецкія сябры. Адкрыццё Дзён нямецкай культуры адбылося 18 верасня ў памяшканні Мінскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча, а праз дзень у Доме дружбы экспанаваліся творы нямецкай мастачкі Хілке Бергеман. Яшчэ праз дзень для ўсіх жадаючых гасцінна расчыніў дзверы Дом ветэранаў, дзе выступіў ансамбль ветэранаў флоту "Сіла ветру — 10 балаў". У чацвер жа ў зале філармоніі прайшоў канцэрт арганнай музыкі Карла Германа.

Аднак не толькі культурныя стасункі сведчаць аб дружбе беларускага і нямецкага народаў. Жыхары зямлі Шлезвінг—Гальштэйн аказалі мінчанам гуманітарную дапамогу — сабралі 10 мільёнаў нямецкіх марак для закупкі лякарстваў, абсталявання для паліклінік і бальніц. Не абыдзены ўвагай таксама арганізацыі інвалідаў Афганістана, Чарнобыля, Асацыяцыя дзяцей-інвалідаў.

**Н. К.**

колькі ўсё ж атрымліваюць машыністы метро і з чаго складаецца іх заробак).

Ёсць яшчэ адзін аспект гэтай стратэгіі — так бы мовіць, моўны. Падчас свайго выступлення ў БСГА прэзідэнт, асвятляючы "план неотложных мер по выводу сельского хозяйства из кризиса", ужыў, скажам, такую фразу: "И если некоторые спадары думают, что у нас ничего не выйдет, то они очень ошибаются". Цікава, што словы тыпу "спадары" можна пачуць з вуснаў прэзідэнта тады, калі ў яго заканчваюцца (альбо калі ён не можа ўжыць) эпітэты кшталту "паршивых националистов" і інш. І як вынік — у свядомасці людзей са словам "спадары" і да яго падобных фармуецца асацыяцыя з "националистами", "фашиствующими молодчиками от БНФ" і г.д. Такім чынам, калі хто-небудзь ужывае падобныя словы, дый увогуле, любы, хто размаўляе на беларускай мове, — "непременно фашист" альбо "паршивый националист". Вось яны, наступствы рэферэндуму!

Але, відаць, некаму з прэзідэнцкага атачэння падалося, што зроблена мала і эфект невялікі. "Народ нам не верит", — падумаў нехта, і праз некалькі дзён у СМІ з'явілася інфармацыя пра тое, што БНФ збіраюцца аказаць фінансавую дапамогу з Літвы. "Народная воля" з гэтага выпадку змясціла нататку пад назовам "Інфармацыя аб грашовай дапамозе БНФ з-за мяжы не адпавядае рэчаіснасці". Вось як яна пачынаецца: "Днямі ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Беларусі са спасылкай на маскоўскія крыніцы была апублікавана інфармацыя аб тым, што літоўская партыя "Саюз Айчыны"... прыняла рашэнне аб грашовай дапамозе Беларускаму народнаму фронту". Вам гэта ні пра што не гаворыць? Няйначай, за ідэалагічную апрацоўку насельніцтва Беларусі, за фармаванне грамадскай свядомасці ўзяліся маскоўскія калегі нашых "рыцарей круглого стола". А гэта ўжо не можа не выклікаць заклапочанасці, таму што, як вядома, пасля распаду СССР лепшыя кадры засталіся ў расійскім КДБ. Аднак усталяваць у Расіі былы таталітарны рэжым даволі складана, а ў Беларусі ўсе падставы для таго ёсць.

Чаму я пра ўсё гэта ўспамінаю? Адказ просты. Набліжаюцца выбары, а дакладней — давыбары ў Вярхоўны Савет. Не хочацца рабіць прагнозаў, тым больш, што прагназаванне — справа, кажуць, няўдзячная. Але жыццё сведчыць, што прагнозы могуць быць у нечым падобныя. Так, у нас сапраўды ёсць падставы для ўсталявання жорсткага аўтарытарнага рэжыму. І можна ўпэўнена сцвярджаць, што ва ўсталяванні магчымай дыктатуры вінаватымі зноў-такі будуць гэтыя самыя "паршивые националисты". Тады прэзідэнт "шчыра" можа сказаць, што "они просто вынудили меня пойти на крайне жесткие меры". Як бачым, што б ні адбылося ў рэспубліцы, "стрэлачнікам" заўсёды можа стаць Пазняк, альбо Статкевіч, альбо любы другі (нават і М.Грыб, якога, зыходзячы з апошняй заявы ВС, сп.Лукашэнка ў хуткім часе можа таксама далучыць да кагорты "этих паршивых националистов").

Час не дапусціць гэтага ў нас яшчэ ёсць. Магчыма, гэта і ёсць той сапраўды апошні шанц, які дае нам гісторыя для ўратавання нашай Бацькаўшчыны.

Падчас свайго выступлення ў Доме літаратара восьмага верасня Зянон Пазняк сказаў наступнае: "Нашыя продкі заўсёды перамагалі ворагаў меншымі сіламі, таму што рабілі стаўку на розум і інтэлект. Зараз нас таксама мала, але мы таксама робім стаўку на розум і інтэлект". Менавіта розумам і інтэлектам мы зможам супрацьстаяць "бульбашызму", менавіта розумам і інтэлектам гэтых самых "паршивых националистов".

**Тарас КУТНЯК**

# ДАКУМЕНТЫ ЭПОХІ

## ДА 481 ГАДАВІНЫ БІТВЫ ПАД ОРШАЙ

Свет адзначыў 50-годдзе заканчэння Другой сусветнай вайны. Шырока адсвяткавалі дату краіны, якія ў часе той вайны змагаліся ў розных ваенна-палітычных лагерах: Германія, Японія, Італія з аднаго боку, Савецкі Саюз (яго сёння рэпрэзентуе Расія), Злучаныя Штаты Амерыкі, Вялікабрытанія — з другога. Іх погляды на адны і тыя ж прынцыповыя падзеі гэтай вайны бываюць дыяметральна супрацьлеглыя (праўда, гэта не перашкаджае ім падтрымліваць нармальныя стасункі сёння ў сферы палітыкі, эканомікі і да т.п.).

Гэты прыклад выдатна дэманструе тэзіс, што ў кожнага народа **Свая Праўда,** бо ў кожнага народа існуюць уласныя інтарэсы. Мы прыгадалі гэтыя падзеі ў сувязі з чарговай гадавінай Аршанскай бітвы, з той хваравітай напружанасцю вакол яе, абвінавачванні як у русафобіі і г.д. Не лямантуюць жа сёння немцы, японцы пра германафобію і японафобію ў Расіі, Вялікабрытаніі і ЗША. І гэта натуральна, бо кожны народ мае права мець свой погляд на гісторыю. Усе, толькі не беларусы. Можа, таму, што нехта за нас ужо вырашыў, што мы не народ, а насельніцтва "Паўночна-заходняга калідора"?

Гісторыкамі дастаткова сказана пра прычыны ваенных дзеянняў, ход і вынікі Аршанскай бітвы. Нам хацелася б колькі слоў сказаць пра адлюстраванне бітвы ў творах выяўленчага мастацтва той далёкай эпохі.

Першы сярод іх па часе стварэння, мастацкай і гістарычнай значнасці з'яўляецца жывапісны твор, вядомы ў літаратуры як "Бітва пад Оршай". Ён знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве (зараз на



рэстаўрацыі). Яго памеры 1,62 м х 2,32 м. Зверху і з левага боку карціна абрэзана — разам каля 1/5 часткі яе паверхні. Матэрыялы выканання: алей, дрэва. Ініцыятыва стварэння твора выйшла, напэўна, з прыдворнага кола і з'яўляецца выражэннем саспелай у эпоху Рэнесанса праграмы выкарыстання мастацтва на службе ідэі праслаўлення поспехаў дзяржавы, дынастыі і вялікіх палкаводцаў. У Беларусі такая праграма складваецца ў першай чвэрці XVI ст. — часе жыцця і дзейнасці Жыгімонта Старога, Кастуся Астрожскага, Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага і іншых. Дзякуючы ёй з'явіўся твор жывапісу, выключна свецкага характару, цікавы размаітасцю праблематыкі. Мастацкая задума была рэалізавана ў рэчышчы рэнесанснай стылістыкі, хаця і з некаторымі сярэдневяковымі ўмоўнасцямі. Прадстаўляючы адзінства месца, аўтар не пільнуецца адзінства часу падзей, лучыць у адной сцэне фазы бітвы, якія змяняюць адна адну. Гетман Астрожскі, напрыклад, паказаны тройчы ў розных момантах бітвы. Жывапісец дбае аб вернасці паказаных сцэн, тапаграфічнай сітуацыі, элементаў краявіду і тактычных аспектаў бітвы, імкнецца да патрэбнай характарыстыкі найважнейшых асоб і стараецца перад усім да вялікай дакладнасці ў паказе ўбораў і ўзбраенняў, дзякуючы чаму карціна мае вартасць **пластычнага дакумента эпохі.** Гэтыя рысы твора праяўляюцца толькі пры аглядзе яго зблізку. Калі глядзім на яго здалёку, робіць уражанне барвовай тканіны, складзенай з сотні малых матываў, якія толькі праз хвіліны складваюцца ў вобраз шумлівай баталіі. Вялікія масы постацяў, аднак, дастаткова ўпарадкаваны і ўзаемазвязаны. Твор уяўляе сабой адмысловы жывапісны рэпартаж з месца падзеі, у якой удзельнічаюць сотні людзей. Аўтэнтызм усёй сцэны, яе шматлікіх дэталяў указвае, што аўтар быў (!) удзельнікам самой бітвы. На падставе малюнкаў, зробленых на месцы, і накідаў мастак намаляваў пазней карціну ў майстэрні. Магло гэта адбыцца хутка пасля бітвы ў 1514 годзе ці праз некалькі гадоў. Карціна — сапраўдная энцыклапедыя матэрыяльнай культуры эпохі: адзенне, узбраенне, архітэктура (у ніжнім правым куце твора паказаны аршанскі замак,



разбураны ў XVII ст.). Асаблівую гістарычную каштоўнасць твор набывае ў сувязі з тым, што тут упершыню ў колеры (!) паказаны бел-чырвона-белыя сімвалы, якія лунаюць над беларускімі ваярамі.

У іншых творах выяўленчага мастацтва бітва пад Оршай адлюстравана ў гравюры, якая змешчана ў кнізе "Хроніка польская Марціна Бельскага", выданне 1597 г. Гравюра даволі часта рэпрадуцыруецца ў наш час. На ёй паказаны тры фазы бітвы: пераправа праз рэчку, двубой перад пачаткам бітвы, вынік двубоя.

А ці адлюстравана гэтая падзея з маскоўскага боку? Пэўныя дзеячы заяўляюць, што бітва, маўляў, была настолькі нязначная, што пра яе хутка забылі. Якраз аб тым, што яе добра памяталі ў Масковіі, сведчыць мініяцюра "Бітва пад Оршай". Характар твора, яго сціплыя памеры, натуральна, не даюць магчымасці перадаць маштабы бітвы, дзе прымала ўдзел больш за 110 000 чалавек, не выпадкова ж Аршанская бітва была адной з буйнейшых на тэрыторыі Еўропы на пачатку XVI ст. Але "цвік праграмы" — прыхаваныя ў лесе гарматы — не забылі. Мастак дакладна перадае тактычныя прычыны паражэння свайго войска. Мініяцюра змешчана ў Патрыяршым рукапісе, выкананым у другой палове XVII ст., гэта значыць, не меней чым праз 150 гадоў пасля падзеі.

**Генадзь СОКАЛАЎ-КУБАЙ,**
**гісторык мастацтва**

## СЛАВІЎ ГЕРОЯЎ БРЭСТА

**26 верасня спаўняецца 80 гадоў з дня нараджэння вядомага рускага пісьменніка Сяргея Смірнова (памёр 22 сакавіка 1976 года), які першым сказаў свету праўду пра абаронцаў Брэсцкай крэпасці ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Яна загучала дзякуючы вялікай даследчыцка-пошукавай рабоце Сяргея Сяргеевіча, у выніку якой з'явіліся яго шматлікія нарысы, выступленні па радыё, тэлебачанні, а затым выйшлі і кнігі: "Крэпасць на граніцы" (1956), "У пошуках герояў Брэсцкай крэпасці" і "Брэсцкая крэпасць" (абедзве з'явіліся ў 1957 годзе, а ў 1964 годзе пабачыла свет дапоўненае выданне, якое ў 1965 годзе было адзначана Ленінскай прэміяй), "Героі Брэсцкай крэпасці" (1959), "Героі вялікай вайны" (1977, прадмова В. Быкава).**

**Сяргей Смірноў пісаў і п'есы. "Крэпасць над Бугам" была пастаўлена ў 1956 годзе ў тэатры імя Якуба Коласа. "Людзі, якіх я бачыў" атрымалі жыццё ў 1958 годзе на падмостках Брэсцкага і Магілёўскага абласных тэатраў. Акрамя таго С. Смірноў з'яўляўся аўтарам сцэнарыяў дакументальных і мастацкіх фільмаў. Асобныя яго творы на беларускую мову пераклалі А. Бачыла і А. Бажко.**

## ДАСЛЕДАВАЎ МОВУ

**Нядоўгім было жыццё мовазнаўцы Барыса Лапава (1925—1967), тым не менш ён пакінуў аб сабе прыкметны след. Працаваў у рэдакцыі газеты "Калгасная праўда", з 1955 года быў навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, з 1964 — дацэнтам Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.**

**Кандыдат філалагічных навук Б. Лапаў даследаваў праблемы беларускага сінтаксісу, стылістыкі, а таксама пытанні ўзаемадзеяння беларускай мовы з іншымі мовамі. Акрамя таго, выступаў у перыядычным друку з рэцэнзіямі на новыя кнігі, аналізаваў і працы калег-мовазнаўцаў. Б. Лапаў з'яўляецца сааўтарам "Нарысаў па гісторыі беларускай мовы" (1957), "Курса сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Сінтаксіс" (1959), "Граматыкі беларускай літаратурнай мовы ў двух тамах" (1962, 1966).**

## ПЕРШЫ НАРОДНЫ З "ВЕРАСОЎ"

**Ансамбль "Верасы", пра што неадноўчы паведамляў "ЛіМ", адзначае свае 25-ае лета (ці, паводле дакладнага часу на сёння — восень). З гэтай нагоды штодня гучная радыёрэклама заклікае на фантастычнае стадыённае шоу. З гэтай нагоды нарадзілася і больш грунтоўная навіна: за вялікі ўклад у музычнае мастацтва кіраўнік ансамбля "Верасы" кампазітар Васіль Раінчык ганараваны званнем народнага артыста Рэспублікі Беларусь. Салідны падарунак да юбілею!**

**Н. К.**

## ДЗЕНЬ ЗЯМЛІ ДЛЯ ЎСЁЙ ВЁСКІ



**Шмат вопытных культработнікаў працуе ў Іванаўскім раёне. Наталля Селіванава — адна з іх (на здымку). Шаснаццаць гадоў узначальвае Наталля Стрэльненскі Дом культуры. Мерапрыемствы, што праводзіць Дом культуры, заўсёды выклікаюць жывую цікавасць сяльчан. Яны ахвотна прымаюць у іх удзел. Толькі ў апошнія месяцы тут прайшлі свята кветак і свята ўсмешкі, дзень Зямлі, у якіх удзельнічала ўся вёска.**

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

Алесь РАЗАНАЎ

# МЭТАЗГОДНАСЦЬ СВАБОДЫ

Усе ведаюць, што свабода ёсць, але ніхто не ведае, дзе яна ёсць. Калі мы звернемся да спрадвечнага чалавечага дня ці года, дык выявім шмат рэчаў, за якія чалавек трымаецца і якім аддае сваю ўвагу і якія, у сваю чаргу, абгрунтоўваюць і трымаюць чалавечае існаванне. Але ні ў крузе дня, ні ў крузе года, ні ў каляндарна-абрадавым кругабегу не знойдзецца месца, дзе мусіла б і магла б выяўляцца і дзейнічаць свабода. Яна аказваецца як бы нематазгоднаю, і калі пра любога, прысутнага тут, чалавека можна сказаць: гэта — разумны, гэта — заклапочаны, гэта — заможны, гэта — уплывовы, гэта — зняверыны, а гэта — дужы чалавек, і мы пагодзімся з гэтым, бо дадзеныя азначэнні адпавядаюць нечаму таму, што мае месца ў самой рэчаіснасці, то са **свабодным** чалавекам заўсёды атрымліваецца няўвязка. Яго тут няма: наяўная рэчаіснасць не забяспечвае падстаў яго існавання і адмаўляецца станавіцца яму айчынай.

І калі мы ўсё ж такі ў зразумелым чалавечым жаданні быць гаспадарамі становішча паспрабуем увесці з'яву свабоды ў свой жыццёвы абсяг і ўвасобіць яе ў жыццёвых вартасцях, так бы мовіць, асвоіць і прыручыць яе, то з ёю і з намі пачнуць адбывацца пэўныя аберацыі. Яна становіцца блізкаю — тым, што ёсць тут, а мы тымі, хто збірае і беражэ набытае. Не свабода, а якраз як аберацыя, прымушае нас умуроўваць у сваё існаванне і казаць пра свяшчэннае права ўласнасці, і літарай закона адмяжоўвацца ад таго, што нам заўсёды зычыць дабра.

Свабода адпускае набытае, адзіны яе набытак мы самі, і калі нас зачароўваюць нашы разумныя і бліскучыя рэчы, нашы разумныя і выдатныя дзеячы, то свабода — вялікае расчараванне, рачараванне на поўны наш рост.

Гіпертрафіраваная прысутнасць у нашым жыццёвым абсягу адных на справе азначае гіпертрафіраваную адсутнасць другіх, і той, хто становіцца дужа дужым, паказвае іншым, што яны слабыя, той, хто робіцца дужа заможным, нагадвае іншым, што яны бедныя, а той, хто згаджаецца ўвасабляць сумленне і волю нацыі, згаджаецца, няхай на метафізічным узроўні, пакінуць нацыю — і кожнага нацыянальна арыентаванага прадстаўніка — без сваёй асабістай волі і без свайго асабістага сумлення.

Мабыць, аднак, неба метафізікі і зямля фізікі ўсё-такі недзе супадаюць, таму што метафізічнае дзеянне раней ці пазней перацякае ў фізічнае, яно як бы ўвідавочніваецца, становіцца прысутным тут і таму супрацьпастаўленым усім і кожнаму — і тады слабыя пачынаюць ненавідзець дужых, бо гэтая дужасць не іхняя, бедныя жадаюць зла заможным, бо, зноў-такі, яны не маюць сваёй долі ў гэтай заможнасці, а простыя людзі адварочваюцца ад сваіх, увасобленых у некім, сумлення і волі.

Змест свабоды дзейнічаць і выяўляецца ў кантэксце вялікай мэтазгоднасці, такой мэтазгоднасці, кантэкст якой ахопліваe зямлю і неба, блізкае і далёкае, і якая ніколі не зводзіцца да сваволі (**сваёй** волі). Мэтазгоднасць поўная зваротным рухам — рэхам, і калі ты сонца, то тваё прызначэнне не проста "светить всегда, светить везде", як запавядаў пралетарскі паэт, а слухацца зваротнага руху, які табе некалі ціхім голасам скажа, што тваё палымянаеззянне з аб'ектыўнай карысці перарастае ў аб'ектыўную шкоду і што трава, якая спачатку радавалася табе і цягнулася да цябе, вяне, сохне і просіць, каб ты схаваўся за хмары. І калі ты сапраўды ўключаны ў кантэкст вялікай мэтазгоднасці і зацікаўлены ў тым, каб зелянела трава, каб спеў ураджай, а не ў сваёй асабістай праўдзе, ты своечасова пачуеш гэты зваротны рух і своечасова паслухаешся яго.

Мэтазгоднасць свабоды выяўляецца ў тым, што яна здымае канфрантацыю тэзы і антытэзы і, пакідаючы кожную істоту і з'яву на сваім месцы, адкрывае ёй яе ж перспектыву, гэта азначае: не адцурае, не зняважае і не знішчае яе, а робіць яе **перспектыўнай**.

Грамадства пераходных перыядаў туліцца ў несвабоду, як слімак у прастору сваёй ракавіны. Гэта самазахоўны працэс, і бессэнсоўна яго аспрэчваць і з ім змагацца. У сваёй несвабодзе слімак **не** несвабодны, і гэта таму, што марфалогія яго несвабоды найшчыльнейшым чынам адпавядае асаблівасцям яго існавання. Любы прэтэндэнт у прэзідэнты, безумоўна, улічвае гэтыя асаблівасці: ён абяцае грамадству лад, парадак і дабрабыт, тое, што можна намацаць і ўзважыць, але не абяцае свабоды. Свабода валодае пераўтваральнай здольнасцю: яна робіць усіх творцамі і не мае патрэбы ў інстытуце пасрэднікаў і ўпаўнаважаных. Яна ёсць тое далёкае, што прысутнічае тут, адначасова застаючыся далёкім, і, такім чынам, спалучае небакраі бязмежжа з канкрэтнай істотай, з тым, хто здольны расці. Парадокс свабоды якраз і ўлоўліваецца парадоксам росту: расці — гэта азначае змяняцца суадпаведна вектару сваёй перспектывы, застаючыся пры гэтым заўсёды тым самым. Гэта — творчы працэс.

Наогул, у наяўнай рэчаіснасці — рэчаіснасці абмежаванай мэтазгоднасці — пануе знак 2: антытэза знаходзіцца ў апазіцыі з тэзай, зло спадарожнічае дабру, цэнтраімклівы рух ураўнаважваецца цэнтрабежным і дзве дадзеныя нам магчымасці ўзаемавыключаюць адна адну. Мы асуджаны на тое, каб выбіраць. Аднак любы выбар, які мы вымушаны зрабіць, валодае незнішчальнай родавай уласцівасцю: ён заўсёды недастатковы, няпоўны і недасканалы, а то і проста памылковы. Выбіраючы, мы ўводзім сябе ў сітуацыю, дзе пануюць вонкавыя чыннікі і дзе цэласнае мусіць атаясамлівацца з дваістым, а то і з множным. Асабліва тут сказанае тычыцца сітуацыі выбараў, калі на вектар нашага волевыяўлення накладаюцца вектары іншых волевыяўленняў. І гэта, урэшце, было б прымальна і апраўдана розумам, калі б тая сума адзінак, якія ўдзельнічаюць у выбарах, уяўлялі сабой адзінкі адзінага самасвядомага арганізму, што на самай справе ў нашых умовах далёка не так.

У адрозненне ад палітычнага дзеяча, творца выбірае — і мусіць выбіраць — сябе сам. Грамадства будучыні — гэта грамадства не выбаршчыкаў, а творцаў. Але да гэтага трэба дажыць. І даспець.

Прэзідэнт — гэта тое, што выбіраецца намі, а свабода — гэта тое, што выбірае нас.

*Выступленне на II Міжнародным кангрэсе беларускага ПЭН-цэнтра*

# "ДЗЕЛЯ БЕЛАРУСКАСЦІ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ..."

Дзякуючы намаганням Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ў выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыла свет праца Станіслава Станкевіча "Русіфікацыя беларускай мовы ў БССР". Як вядома, яна ўпершыню была змешчана ў "Запісах" Беларускага інстытута навукі і мастацтва (1962, кн. І). У цяперашнім жа выданні (за рэдкім выключэннем) захавана адметнасць таго першага. Самой жа працы папярэднічае прадмова В. Вячоркі "Дзеля беларускасці беларускае мовы", у якой расказваецца пра жыццё і дзейнасць С. Станкевіча.

Не абмінае аўтар і гадоў вайны, зазначаючы: "... захаваліся сведчанні, што гэтыя чалавек, маючы на сваёй цывільнай пасадзе вельмі абмежаваныя паўнамоцтвы, тым не менш рабіў усё магчымае, каб ратаваць мірных грамадзян". Хоць, безумоўна, аснoўная гаворка — пра навуковыя памкненні С. Станкевіча, яго мовазнаўчую дзейнасць.

З чаго складаецца кніга С. Станкевіча?

Ва ўступе "Супраціў русіфікацыйнаму працэсу" аўтар прыходзіць да высновы, што "рэалізацыя бальшавіцкай моўнай палітыкі ў БССР, падобна, як і ў іншых нацыянальных рэспубліках, праводзіцца адначасна ў двух кірунках, якія ўзаемна сябе дапаўняюць і паступова, але паслядоўна вядуць да поўнай ніведяцыі беларускай мовы: 1. у кірунку звужэння сферы ўжывання беларускай мовы ў публічным жыцці рэспублікі й замены яе расійскай, як "другой роднай мовай" беларускага народа; 2. у кірунку ўсебаковае русіфікацыі яшчэ дапушчанай да публічнага ўжывання беларускай мовы С. Станкевіч і ставіць за мэту разгледзець абодва гэтыя працэсы асобна. У раздзеле "Звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы" на канкрэтных прыкладах паказваецца, як прахoдзіў гэты працэс пачынаючы з сярэдзіны 50-ых гадоў. Разам з тым аўтар не праміне згадаць, як у абарону роднай мовы выступалі тыя, хто ніколі не забываў, што ён беларус. Пры гэтым С. Станкевіч спасылаецца на шэраг тагачасных лімаўскіх публікацый.

А пачатак ім быў пакладзены, як вядома, выступленнем тагачаснага студэнта аддзялення журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта, маладога пісьменніка Б. Сачанкі (1957, N 99). Яго артыкул "Шанаваць родную мову" выклікаў шэраг неабыякавых водгукаў, пасля чаго мусіў даваць адказ тадышні міністр асветы БССР, ды, як сведчыла рэдакцыя ў заўвазе, "...адказ т. Ільюшына не паказвае ў поўнай меры сапраўднага становішча з выкладаннем беларускай мовы й літаратуры ў школах і педагагічных ВНУ рэспублікі".

Дарэчы, да згаданай праблемы "ЛіМ" звяртаўся і пазней, у тым ліку і ў 1961 годзе, пра што таксама піша С. Станкевіч, калі склалася трывожнае становішча з выданнем беларускіх кніг... Але ці не назіраецца нешта падобнае сёння?

Наступныя раздзелы "Савецкая беларуская літаратурная мова" і "Мова мастацкае літаратуры" сведчаць, наколькі русіфікацыя сказвалася на мастацкіх якасцях асобных твораў. С. Станкевіч прыходзіў да высновы: "З прычыны агульных русіфікацыйных тэндэнцый, накіданых зверху, канечнасці высцерагання "вузкіх правінцыялізмаў", а з другога боку — з прычыны канечнасці "ўзбагачэння" мовы "з невычэрпных крыніцаў мовы вялікага рускага народа, беларускія паэты і пісьменнікі вельмі абмежаваныя ў сваіх магчымасцях нармальнага ўзбагачэння і развіцця сваёй мовы на базе народнай мовы й дыферэнцыравання яе розныміі семантычнымі адценнямі".

Тым не менш сумленныя літаратары не маглі спакойна назіраць, як паскараецца працэс занядбання роднай мовы. Гэта бачна з раздзела "Пісьменнікі ў абарону мовы". Зноў жа С. Станкевіч звяртаецца да публікацый у "ЛіМе" — меркаванняў Ф. Янкоўскага, Я. Скрыгана, А. Адамовіча, У. Юрэвіча. М. Лужаніна.

У заключэнне кнігі аўтар піша: "...існаванне мовы з'яўляецца раўназначнае з нацыянальным існаваннем беларускага народа й ягонай нацыянальнай культуры".У 1962 годзе напісана, ды, зноў жа, быццам сёння.

**Т. Т.**

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# ДЫК ЦІ АДБЫЎСЯ РЭФЕРЭНДУМ?

## АБО АНАТОМІЯ АДНОЙ ПАЛІТЫЧНАЙ АВАНТУРЫ

ПЫТАННЕ, на першы погляд, рытарычнае і нават несур'ёзнае.

Як гэта, "ці адбыўся?", калі... ну быў, меў месца. Калі людзі прыходзілі на выбарчыя ўчасткі, атрымоўвалі бюлетэні, дзе значыліся чатыры пытанні, і адказвалі на гэтыя пытанні, хто як, хто "за", хто "супраць". Калі потым бюлетэні сартыраваліся і падлічваліся ў выбарчых камісіях і калі потым галоўная, так званая Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў падсумавала ўсе пратаколы і афіцыйна аб'явіла, давяла да ведама ўсёй краіны "вынікі галасавання на рэспубліканскім рэферэндуме 14 мая 1995 года"... Як гэта "ці адбыўся?", калі потым нашага Прэзідэнта горача віншавалі з "выдатнай перамогай", і віншавалі не толькі "інтэгратары" ўсіх масцей — небезвядомы вялікадзяржаўнік, дэпутат Расійскай думы Затулін, першы камуніст сонечнага Крыма Грач, група санкт-пецярбургскіх аднадумцаў нашых "баталістаў і марыністаў", але і... Прэзідэнт Арменіі Левон Тэр-Петрасян (адзін мой знаёмы, выказваючы здзіўленне, пажартаваў: ці не ўваскрэсла гэта армянскае радыё з яго дасціпнымі анекдотамі?).

Як гэта "ці адбыўся?", калі сам А.Р.Лукашэнка ўвесь час спасылаецца на рэферэндум як на ледзь не самае галоўнае дасягненне сваёй дзейнасці...

Усё гэта так. І тым не менш я настойваю на сваім пытанні, на сваім, кажучы інакш, вялікім сумненні. Фармальна, па нейкіх вонкавых прыкметах быў, меў месца, знайшоў адлюстраванне ў сродках масавай інфармацыі і ў памяці. Але сцвярджаць, што "адбыўся", у сэнсе: споўніўся, ажыццявіўся, рэалізаваўся як сапраўдная, натуральная грамадская падзея, — можна толькі з вялікай доляй умоўнасці, пры неадольным жаданні выдаць уяўнае за існае, чорнае за белае.

Прывяду доказы. І дзеля большай пераканаўчасці зраблю спачатку экскурс у гісторыю правядзення рэферэндумаў (галасаванняў, апытанняў, плебісцытаў). Тут мне на дапамогу прыходзіць вопыт працы ў менавіта той дэпутацкай камісіі (па пытаннях галоснасці і правоў чалавека), якая рыхтавала закон "Аб народным галасаванні (рэферэндуме)", прыняты летам 91-га года.

### РЭФЕРЭНДУМЫ: ПЛЮСЫ І МІНУСЫ, ДАБРО І ЗЛО

Трэба сказаць, што ў справе правядзення рэферэндумаў чалавецтва назапасіла немалы вопыт. Як станоўчы, так і адмоўны. Першыя плебісцыты — сведчаць гісторыкі — адбыліся яшчэ ў эпоху Рымскай рэспублікі, калі на сходах плебеяў (адсюль і "плебісцыт") прымаліся рашэнні, абавязковыя для ўсяго гэтага саслоўя. Усеагульным галасаваннем прымаліся рашэнні на вечавых сходах у старажытных славян. У Еўропе прамаці сучасных рэферэндумаў стала, як вядома, Швейцарыя, дзе яшчэ ў 1449 годзе ўлады кантона Берн правялі апытанне сярод насельніцтва з нагоды фінансавага становішча гэтай арыстакратычнай рэспублікі. На нашым кантыненце ў бягучым стагоддзі было праведзена звыш ста рэферэндумаў, прычым прызнаным лідэрам па інтэнсіўнасці іх правядзення з'яўляецца ўсё тая ж Швейцарыя, дзе амаль штогод да іх звяртаюцца ў сярэднім 1—2 разы па пытаннях федэральнага заканадаўства, а па пытаннях заканадаўства кантонаў — яшчэ часцей. (Да слова, менавіта Швейцарыя стала аднойчы ахвярай сваёй улюбёнай традыцыі, уліпла, што называецца, у гісторыю, калі на рэферэндуме, праведзеным у 1985 годзе, большасць насельніцтва краіны выказалася... супраць уступлення ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. З таго часу і па сённяшні дзень швейцарцы, моршчачы лоб, думаюць: трэба ім быць у складзе ААН ці не трэба? Варта было праводзіць той рэферэндум ці не варта?).

Побач з краінамі, дзе рэферэндумы трывала ўвайшлі ў сацыяльную практыку, праводзяцца рэгулярна і маюць пад сабой належную прававую аснову (акрамя Швейцарыі — Францыя, Італія, Швецыя), існуюць у той жа час дзяржавы, дзе народныя галасаванні фактычна не прымяняюцца і не прадугледжваюцца канстытуцыямі (Бельгія, Нідэрланды). Чым гэта можна вытлумачыць?

Рознымі прычынамі. Па-першае, адносіны да рэферэндуму ў многім вызначаюцца адпаведнымі дэмакратычнымі традыцыямі, традыцыямі палітычнай культуры таго ці іншага народа. Па-другое, існуюць два розныя пункты гледжання на суадносіны рэферэндуму як формы прамой, непасрэднай дэмакратыі, дэмакратыі агульнага волевыяўлення і дэмакратыі прадстаўнічай, апасродкаванай, інакш кажучы — парламенцкай. Аддаючы належнае сцверджанню, што "голас народа — голас божы", што сапраўдная дэмакратыя не можа ігнараваць такую рэч, як калектыўнае волевыяўленне грамадзян, прыхільнікі прадстаўнічага характару выбарчай сістэмы ўсё ж лічаць, што рэферэндумы, будучы інструментам прамой дэмакратыі, падрываюць дэмакратыю прадстаўнічую, адмоўна адбіваюцца на парламенцкай дзейнасці, прафаніруюць яе. У гэтым падыходзе размяжоўваюцца паняцці грамадскага інтарэсу і грамадскай думкі. Робіцца спасылка на словы Гегеля, які пісаў: "Нельга аднабакова арыентавацца на грамадскую думку; у ёй — адначасова — змяшчаецца ўсё сапраўднае і ілжывае. Вялікі чалавек той, хто здольны выявіць ілжывае ў грамадскай думцы і пайсці насуперак яе патрабаванням".

Прыводзяцца і іншыя важкія аргументы супраць інстытута рэферэндуму. Напрыклад, адмова ад правядзення яго можа ў пэўнай сітуацыі даць магчымасць прадухіліць рэзкае змяненне палітычнага курсу краіны дзеля папулісцкіх патрабаванняў і зрабіць урад сапраўды адказным за свае дзеянні, за выкананне намечанай ім праграмы. Па-другое, рэферэндумы, як правіла, суправаджаюцца абмежаваннем правоў меншасці і не заўсёды прадугледжваюць працэдуру, якая б дазваляла меншасці эфектыўна адстойваць свае інтарэсы пры ўмове, калі рашэнне, прынятае ў выніку рэферэндуму, прыводзіць да ўшчамлення яе правоў. Па-трэцяе. Як паказвае сусветны вопыт, магчымасць правядзення ўсенародных апытанняў, якія ўяўляюць сабой небяспечную, магутную зброю ў руках пэўных палітычных сіл, звужае прастору для пошуку разумнага кампрамісу, вымушае выбаршчыкаў абмяжоўвацца толькі двума альтэрнатыўнымі пунктамі гледжання (альбо — альбо), што прыводзіць да палярызацыі грамадства, нарастанню ў ім дэструктыўных тэндэнцый, напружанасці. Па-чацвёртае. Не ўсякі раз рэферэндум спрыяе павышэнню ўзроўню правамернасці, легітымнасці прымаемых рашэнняў. Бывае якраз наадварот. Недастатковая інфармаванасць, а таксама адсутнасць спецыяльных ведаў па прапануемай на рэферэндум праблеме, прэваліраванне эмацыянальных аспектаў над рацыянальнымі не дазваляюць прымаць сапраўды правільнае і кампетэнтнае рашэнне. Пра што гавораць і самі выбаршчыкі. Так, напрыклад, 55 працэнтаў удзельнікаў апытання, праведзенага некалькі гадоў таму ў ЗША інстытутам Гэлапа, сказалі, што яны не вераць у тое, што "большасць выбаршчыкаў будзе дастаткова інфармавана для таго, каб аддаць свой голас за дастойнае вырашэнне праблемы". Толькі 38 працэнтаў выказалі ўпэўненасць, што выбаршчыкі атрымаюць дастаткова інфармацыі, каб скласці кампетэнтнае меркаванне па вынесеным на рэферэндум пытанні. (Тут мне прыгадваецца надрукаваны ў "ЛіМе" незадоўга да рэферэндуму артыкул "Заклік да маршу ў нікуды" Віктара Каваленкі, які, у прыватнасці, зазначаў: "Сутнасць праблемы ў тым, што ні дзяржаўнасць мовы, ні змест нацыянальнай сімволікі не належаць да тыпу пытанняў, па якіх можна праводзіць усенароднае галасаванне. Гэта пытанні спецыфічных кампетэнтных ведаў і таму яны не вырашаюцца на ўзроўні масавай свядомасці". І далей: "Але нават у тым выпадку, калі б усе члены грамадства аказаліся высокаадукаванымі, культурнымі, палітычна свядомымі і незалежнымі ў асабістым выбары, усё роўна праводзіць галасаванне па такіх пытаннях нельга, бо іх глыбінная гістарычная сутнасць не прасвятляецца ні ў якой меры праз мадэль масавай свядомасці. Нават не ўсім вучоным па сіле іх аб'ектыўнае вырашэнне, бо для гэтага патрабуюцца асаблівыя нацыянальна-ментальныя веды, калі мінулае народа знаёма не толькі да дробязяў, але і на ўзроўні спасціжэння яго духоўных таямніц". Залатыя, як кажуць, словы і ў час прамоўлены).

Далей. Гісторыкі і палітолагі падкрэсліваюць, што асобным і вельмі складаным, калі не праблематычным, з'яўляецца пытанне аб магчымасці выкарыстання рэферэндуму для вырашэння праблем нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання, міжнацыянальных адносін. Тут асабліва патрэбна звядзенне эмоцый да мінімуму.

Іншыя негатыўныя моманты. Самы непасрэдны ўплыў на вынікі галасавання могуць аказаць сродкі масавай інфармацыі. І калі яны знаходзяцца ў руках тых, хто ініцыіруе, арганізоўвае і праводзіць рэферэндум, то наўрад ці можна гаварыць у такім выпадку пра свабоднае волевыяўленне грамадзян. Тут нават практычна немагчыма вызначыць, наколькі вынік адпавядае сапраўднасці. Наступны момант. Як паказвае суровая сацыяльная рэчаіснасць, рашаючы ўплыў на вынікі рэферэндуму можа аказаць сам яго механізм, тая акалічнасць, хто, зноў-такі, прымае рашэнне аб фармулёўцы пытанняў, аб тым, якія прапанаваць альтэрнатывы і, вядома, у якой унутрыпалітычнай абстаноўцы праводзіцца рэферэндум. Наш XX век ведае дастаткова прыкладаў, калі рэферэндум як інстытут непасрэднай дэмакратыі выкарыстоўваўся яго арганізатарамі яўна не па прызначэнні, а, наадварот, для прыняцця далёка недэмакратычных, часам рэакцыйных, маючых фатальныя наступствы рашэнняў. Найбольш паказальныя ў гэтых адносінах — рэферэндумы ў фашысцкай Германіі па пытаннях выхаду



краіны з Лігі нацый, злучэння пастоў прэзідэнта з пастом рэйхсканцлера і фюрэра, далучэння Аўстрыі да Германіі. Ужо ў нядаўні час, у 1980 годзе, кіраўнік чылійскай ваеннай хунты Піначэт змог шляхам рэферэндуму атрымаць адабрэнне канстытуцыі, згодна з якой стаў бяззменным лідэрам дзяржавы на працягу 9 гадоў.

І апошняе. Па парадку, а не па значэнні. Міжнароднае супольніцтва мае таксама багаты вопыт прававога рэгулявання інстытута рэферэндуму. Распрацавана адпаведнае заканадаўства, згодна з якім рэгламентуецца працэдура правядзення народнага галасавання, вызначаюцца тыпы рэферэндумаў (па спосабе і прадмеце іх правядзення), акрэсліваецца кола пытанняў, якія не могуць выносіцца на галасаванне, устанаўліваюцца органы, якія закліканы кантраляваць законнасць правядзення рэферэндуму. Дзеля эканоміі месца возьмем, да прыкладу, вопыт адной краіны — Партугаліі. Артыкул 118 яе канстытуцыі гаворыць, што: "п.1. Грамадзяне, зарэгістраваныя ў якасці выбаршчыкаў на тэрыторыі краіны, могуць выказаць сваю думку ў ходзе рэферэндуму, які аб'яўляецца прэзідэнтам рэспублікі па прапанове парламента ці ўрада ў выпадках і ў формах, вызначаных канстытуцыяй і законам. П.4. У ходзе рэферэндуму можа разглядацца толькі адна праблема. Кожнае пытанне, якое патрабуе станоўчага ці адмоўнага адказу, павінна быць сфармулявана аб'ектыўна, ясна і дакладна. Закон вызначае максімальна дапушчальную колькасць пытанняў, а таксама парадак арганізацыі і правядзення рэферэндуму. П.5. Рэферэндум не праводзіцца ў перыяд паміж аб'яўленнем і правядзеннем агульных выбараў дзяржаўных органаў, урадаў аўтаномных акруг, мясцовых органаў улады, а таксама дэпутатаў у Еўрапейскі парламент". (Бачыце, колькі прад'яўляецца патрабаванняў. А ў нас рэферэндум нават "наклалі" на выбары, прапанавалі грамадзянам такі вось палітычны "бутэрброд". — **А.В.**). Артыкулы 118 і 225 Канстытуцыі Партугаліі прадугледжваюць таксама стварэнне механізму, закліканага прадухіліць правядзенне рэферэндумаў у парушэнне канстытуцыі і законаў. Прэзідэнт тут павінен у абавязковым парадку перадаць прапановы аб правядзенні рэферэндуму на разгляд канстытуцыйнага суда <u>для вызначэння іх канстытуцыйнасці і законнасці</u> (істотны момант, мы з ім далей сутыкнёмся; падкрэслена мной. — **А.В.**).

Прашу прабачэння ў чытача за такі занадта, можа быць, падрабязны экскурс. Але, па-першае, як мы бачылі вышэй, недастатковая інфармаванасць не спрыяе справе, а, па-другое, сказанае мае, трэба думаць, самае непасрэднае дачыненне да рэферэндуму, які адбыўся (прабачце, меў месца) 14 траўня г.г. Ён па-свойму павучальны, дае шмат інфармацыі для развагі на тэму "Ці трэба праводзіць рэферэндумы? А калі трэба — то як?"

Паралелі напрошваюцца самі сабой. Баюся, што далей мне не-не ды і прыйдзецца адсылаць чытача: глядзі вышэй...

### ХТО І ЯК ІНІЦЫІРАВАЎ РЭФЕРЭНДУМ?

Пытанне, зноў-такі, як быццам рытарычнае. Бо ўсім, ад старога да малога, вядома: хто. Наш першы, усенародна выбраны Прэзідэнт. Ён і сам гаворыць пра гэта з гонарам і глыбокім задавальненнем, лічыць, не без хвальбы, правядзенне рэферэндуму сваёй вялікай асабістай заслугай. Не выказвае жадання дзяліць з кім-небудзь лаўры пераможцы.

Для гэтага ў яго ёсць пэўныя падставы. У нейкім, а дакладней: у фармальна-юрыдычным сэнсе так яно і ёсць. У адрозненне ад Закона "Аб народным галасаванні (рэферэндуме)" глава 2 нашай новай Канстытуцыі першым суб'ектам ініцыіравання рэферэндуму называе Прэзідэнта. Карыстаючыся сваім канстытуцыйным правам, А.Р.Лукашэнка звяртаецца 21 сакавіка г.г. да Вярхоўнага Савета з наступнай прапановай (цытую літаральна): "21 сакавіка 1995 г. N 08-34. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасці з часткай першай артыкула 74 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь уношу прапанову аб правядзенні 14 мая 1995 г. абавязковага рэспубліканскага рэферэндуму. Праект Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па гэтаму пытанню прыкладаецца. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка". Пытанне было ўнесена ў парадак дня бягучай, 16-ай па ліку сесіі Вярхоўнага Савета. Як і трэба было чакаць, прапанова выклікала ў нацыянальна свядомай часткі дэпутатаў рашучае непрыняцце. Што знайшло адлюстраванне і ў дыскусіі (я пра яе скажу пазней колькі слоў). На нейкі момант лёс рэферэндуму павіс у паветры. Згодна з графікам на сесіі быў абвешчаны перапынак. Пасля яго і ў сувязі з меўшымі месца перыпетыямі Прэзідэнт звяртаецца ў Вярхоўны Савет паўторна: "10 красавіка 1995 г. N 08-41. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь. Накіроўваю ўдакладнены праект Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь "Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню". Дадатак: на 2 л. у 1 экз. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка".

Пытанне паўторна ўключалася ў парадак дня сесіі і ўдакладнены праект разглядаўся і ставіўся на галасаванне 11—13 красавіка.

Вонкава сітуацыя выглядае менавіта так.

Ды ўсё ж прэтэндаваць на пальму першынства, на індывідуальнае, так сказаць, аўтарства у Аляксандра Рыгоравіча няма дастатковых падстаў. Не той выпадак, калі "асяніла", калі ідэя прыйшла ў мінуту "азарэння". Як гэта бывае часам у харызматычных лідэраў.

Ідэя рэферэндуму належыць другім.

Прэзідэнт, па яго ўласных словах, падабраў уладу з гразі, дзе яна, маўляў, чакала свайго сапраўднага гаспадара. Не ведаю, наколькі гэта сапраўды так, але ведаю, што там жа, на пыльных плошчах і паркавых пляцоўках, дзе час ад часу збіраліся і мітынгавалі пад чырвонымі, чорна-жоўтымі і якімі там яшчэ? — сцягамі "сторонники коммунистического пути", "товарищи", "гэй-славяне", адстаўныя афіцэры ўсіх родаў войска і перш за ўсё былыя палітработнікі і кадэбісты, — там жа "валялася" і ідэя рэферэндуму. Чакала свайго часу, чакала ініцыятараў.

Яны не замарудзілі з'явіцца. У выглядзе так званай ініцыятыўнай групы па правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму. Гэта група (на чале з нейкім Паўловічам) звярнулася ў верасні 1994 года ў Цэнтральную выбарчую камісію з наступнай заявай (прыводжу на мове арыгінала):

"В соответствии со статьей 10 Закона "О народном голосовании (референдуме) в Республике Беларусь" просим зарегистрировать вопросы, которые предлагаются на республиканский референдум с принятием обязательных решений. Формулировка вопросов следующая:

1. Вы "за" или "против" денонсации (расторжения) Беловежского соглашения?

2. Вы "за" или "против" частной собственности на средства производства, в том числе на землю, неизбежно обогащающие предпринимателей за счет обнищания трудящихся?

3. Вы "за" или "против" введения русского языка в качестве государственного наравне с белорусским?

4. Вы "за" или "против" того, чтобы возвратиться к рассмотрению вопроса о государственной символике, поскольку он был решен без предварительного всенародного обсуждения?

Приложение:

1. Протокол собрания инициативной группы о проведении республиканского референдума с принятием обязательных решений на 1 листе.

2. Список состава инициативной группы по проведению республиканского референдума на 9 листах. Подпись председателя группы. Телефон".

Чаму я мусіў прывесці "дакумент" поўнасцю — чытач зараз зразумее.

Справа ў тым, што ён быў падрыхтаваны сапраўды ў адпаведнасці з законам і Цэнтральная камісія па рэферэндуме абавязана была разгледзець яго і прыняць рашэнне. Старшыня Цэнтрвыбаркама А.М.Абрамовіч у сваю чаргу звярнуўся да некалькіх камісій Вярхоўнага Савета (таксама адпаведна з законам) з наступным лістом: "У адпаведнасці з часткай пятай артыкула

*(Працяг на стар. 12-13)*

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРА КУПАЛУ — ПА-НОВАМУ...

**У першую чаргу настаўнікам беларускай літаратуры адрасуецца кніга Уладзіміра Гніламёдава "Янка Купала. Новы падыход", што пабачыла свет у выдавецтве "Народная асвета". Ды, несумненна, яе з цікавасцю сустрэнуць усе, хто любіць творчасць народнага песняра.**

**Дзякуючы У.Гніламёдаву, упершыню глыбока аналізуюцца, пераасэнсоўваюцца такія творы, як "Адвечная песня", "Магіла льва", "Над ракою Арэсай", "Безназоўнае" і іншыя. Не прамінае даследчык грунтоўна пагаварыць і пра знакамітых на сённяшні дзень "Тутэйшых", бо акурат ідучы ад гэтага твора, можна адчуць, наколькі хвалявала песняра нацыянальнае пытанне, як задумваўся ён над лёсам Бацькаўшчыны, асуджаючы тых, хто забыўся пра сваю беларускасць і адначасова з прыязню ствараючы вобразы сапраўдных беларусаў.**

**Не абыдзена і жыццё Івана Дамінікавіча, паказана, наколькі складанымі былі стасункі ў яго з уладамі, як не прымаў ён крывадушша, як паэтава душа праціўілася ідэалагічнаму дыктату.**

## ...А ДА МОВЫ З ЛЮБОЎЮ

**Кніга Л.Выгоннай "Фанетыка беларускай мовы ў школе", што таксама выйшла ў "Народнай асвеце", папоўніла "Бібліятэку настаўніка беларускай мовы і літаратуры". Гэта ўваходзіны ў непаўторны свет беларускай мовы. Прытым уваходзіны, што дазваляюць пазбавіцца стэрэатыпу. Як вядома, усе асноўныя звесткі, што прыводзяцца ў падручніках па беларускай мове, на жаль, спрыяюць толькі выпрацоўцы навыкаў правапісу. Тым самым як бы забываецца вусная форма мовы, якая з'яўляецца яе першаасновай і зыходзячы з якой вучні авалодваюць мовай пісьмовай, Л.Выгонная ў сваім дапаможніку і ліквідуе падобны "прагал".**

## УСЁ МЕНЕЕ "БЕЛЫХ ПЛЯМ"

**у нацыянальнай гісторыі. Не ў апошнюю чаргу і дзякуючы часопісу "Спадчына". У яго чацвёртым нумары зроблены далейшы крок у гэтым кірунку, аб чым сведчыць раздзел "Дакументы і людзі". Адкрываецца ён нарысам жыцця і рэвалюцыйнай дзейнасці Т.Грыба "Рыцар беларускай свабоды", напісаным А.Лісам. Т.Грыб заслугоўвае, каб пра яго ведалі многія. Тым больш, што і нагода ёсць — спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння таго, хто пастаянна дбаў пра беларускую дзяржаўнасць. А пра Т.Грыба доўгі час "забываліся" таму, што ён належаў да партыі эсэраў, як вядома, праціўнікаў бальшавізму. Увазе чытачоў прапануецца таксама фрагмент працы Т.Грыба "На два франты!", адшуканы ў архівах і падрыхтаваны да друку маладым гісторыкам У.Ляхоўскім. Падзагаловак працы Т.Грыба — "Галоўныя засады (прынцыпы) вызвольнай праграмы беларускага народа". У гэтым жа раздзеле згадваецца яшчэ адзін знакаміты прадстаўнік партыі эсэраў — Я.Мамонька, які, як і Т.Грыб, дзесяцігоддзі калі і згадваўся, дык толькі ў адмоўным плане. Друкуецца даклад Я.Мамонькі, прачытаны ў 1921 годзе на нарадзе замежнай групы партыі і выдадзены ў тым жа годзе з прадмовай Т.Грыба. Прадмова таксама публікуецца. І гэтыя матэрыялы падрыхтаваны У.Ляхоўскім.**

**Зацікавіць многіх і артыкул В.Дадзіёмавай "Нашае першае нотнае выданне". Гаворка ідзе пра асветніцкую дзейнасць Мікалая Радзівіла Чорнага, дзякуючы якому і былі выдадзены першыя ў Вялікім княстве Літоўскім нотныя зборнікі. Асобнік аднаго з іх, так званага "Нясвіжскага канцыянала" захоўваецца ва Упсале (Швецыя).**

**Змешчаны і такія матэрыялы, як "Алег. Князь ці ваявода?" А.Нікіціна, "Віленская выстава 1913 года" В.Лабачэўскай, "Дыярыуш князя Міхала Казіміра Радзівіла..." у перакладзе В.Арэшкі, раздзелы "Інвентарнай кнігі музея І.Луцкевіча", фрагменты артыкула Г.Пікарды "Нябеснае полымя. Дослед пачаткаў беларускага перакладу Новага Запавету і Псалмоў" (пераклад з англійскай Ю.Баўдзей), артыкулы "Мікола Равенскі" (паводле Я.Максімюка), "Беларусы ў Гданьску" Г.Глагоўскай і іншыя.**

**Пад рубрыкай "Літаратурныя помнікі" — "Свяшчэнная гісторыя Старога Запавету", адаптаваная С.Паўловічам для школьнікаў.**

Алесь АРКУШ

# У ТУПІКУ САМАПАДМАНУ

## СТАРОНКІ З КНІГІ "ДЭФЛЯЦЫЯ КУЛЬТУРЫ"

Сённяшні сусветны крызіс літаратуры "аксіямічна" тлумачыцца экспансіяй тэлебачання і відэа, і гэтае ўпартае сутыкненне лбамі робіць іх нібыта ворагамі — выйграе той, хто пераможа! Але так і хочацца ўзгадаць старое ўстойлівае словазлучэнне — няхай пераможа дружба. Бо ніякага антаганізму паміж літаратурай і відэа няма і быць не можа. Хутчэй можна казаць пра спаборніцтва кнігі і тэлевізара за вольны час (любоў) чалавека. Аднак і тэлевізар, і кніга ёсць толькі сродак (механізм) перадачы інфармацыі. Тэлевізар, калі мець на ўвазе інфармацыйную (энцыклапедыі, дакументалістыка і г.д.) і "пацяшальную" кнігу, мае бясспрэчную перавагу. Складаней з мастацкай ды філасафічнай кнігай, якія спрычыняюцца да метафізікі слова і думкі.

Каб разабрацца ў гэтым класічным супрацьпастаўленні, трэба яшчэ раз узгадаць, што такое літаратура. Тлумачальныя слоўнікі даюць сціслае вызначэнне — творы пісьменнасці, якія маюць грамадскае значэнне; і ўдакладняюць — слова пераважна ўжываецца для наймення мастацкіх літаратурных твораў. Тэрмін мастацкая літаратура ў энцыклапедычным слоўніку тлумачыцца больш пашырана. "Худ. Л. хранит, накапливает и передает от поколения к поколению эстетич., нравст., филос., социальные ценности. Будучи средством постижения действительности, Л. выражает мировоззрение и эстетич. идеалы (...) социальных групп, наций, эпох..." Як бачым, місія літаратуры надзвычай сур'ёзная і адказная. Ні тэлебачанню, ні кіно падобныя задачы не ўласцівыя і больш таго — недасягальныя. Адсюль вынікае, што літаратура самакаштоўная, незамяняльная "рэч", супрацьпастаўленне яе з відэа штучнае, яно народжана "грашовым пазітывізмам", у якога галоўны крытэрый — прыбытак. Літаратура была, ёсць і будзе. Чуткі аб яе скананні не спраўдзіліся. Наадварот, можна казаць пра павелічэнне значнасці літаратуры (назапашаны вялікі досвед, пашыраны эстэтычныя далягляды, напрацавана каштоўная спадчына). Праўда, адужаны шлях прынёс не толькі пазітыўны плён. Узніклі (як і ў самога чалавека) праблемы з імунітэтам. Літаратура пачала губляць цэласнасць і індывідуальнасць, актывізаваўся небяспечны працэс унутранай эрозіі. Аб сабе далі знаць вынікі камерцыялізацыі і празмернай ідэалагізацыі літаратуры. Акрамя таго, масавасць літаратуры не стала станоўчай з'явай. Культуралагічныя інстытуты грамадства не маглі своечасова і з неабходнай адказнасцю апрацоўваць навінкі: прачытваць, асэнсоўваць, сістэматызаваць, уводзіць у "банк дадзеных", выкарыстоўваць у эстэтычным будаўніцтве. Узнікла сітуацыя няведання: што маем (нават на нацыянальным узроўні), якія працэсы дамінуюць, куды скіраваны раўнадзеючы вектар руху. Сёння папросту не хапае суб'ектаў, якія б заняліся літаратурай, у выніку чаго пульс літаратурнага працэсу няўхільна слабее. (Трэба зазначыць, што літаратура — бессмяротная. Нават калі спыніцца выданне кніг і ніводзін чалавек на зямлі не будзе творча пакутаваць над сваім рукапісам, усё адно літаратура будзе існаваць у вуснай форме, і нават калі ў свеце не застанецца ніводнага чалавека — яна будзе існаваць у космасе, як каштоўны вопыт жыцця чалавецтва.) Няўвага да літаратуры можа выклікаць небяспечныя наступствы — эстэтычны, светапоглядны крызіс (які ўжо пачынае ахопліваць Беларусь).

Працяглы час мы займаемся самападманам (або шукаем апраўданні свайму лайдацтву і непрафесійнасці). Былі створаны дзесяткі міфаў, з якіх утварыліся міфалагічныя лабірынты. Мы блукаем па іх без ніці Арыядны. Павярхоўнасць нашых развагаў нам здаецца "артэзіянскімі здабыткамі". Дастаткова ўзгадаць нашыя аргументы адносна накладаў кніг і моўных праблем.

Першая праблема тычыцца пераважна камерцыйнага або сацыяльнага поспеху выдаваемых твораў. Некаторыя кнігі з маскультурнага шэрагу выходзяць у свет мільённымі накладамі, але ці мае гэтая акалічнасць хоць якое-кольвечы значэнне для літаратурнага працэсу (нават калі не аспрэчваць эстэтычныя вартасці кніг)?

Другая — мусіць разглядацца ў кантэксце праблем нацыянальнага адраджэння (адукацыя, духоўная сфера, дзяржаўныя інстытуты). Яна мае непасрэдную сувязь з першай, але, зноў-такі, практычна ніяк не ўплывае на літаратурны працэс. (Існуе, аднак, рэверсіўная сувязь — нацыянальная літаратура актыўна ўплывае на нацыянальны светапогляд чалавека, больш таго — фактычна фармуе яго.)

Арганізм беларускай літаратуры, дзякуй богу, паўнавартасны, мае ўсе патрэбныя органы (праўда, некаторыя відавочна дыстрафічныя, асабліва літаратурная крытыка), не хварэе на паралюш і нават адрозніваецца ад суседніх еўрапейскіх сваім юначым узростам (таму, тэарэтычна, павінна мець большую патэнцыю).

Як палітыку робяць палітыкі (а не народ), так і літаратуру робяць літаратары. Таму за ўсе пралікі і няўдачы ў беларускай літаратуры адказваць павінны найперш самі пісьменнікі.

Творчасць — рэч містычная. Асабліва мастацкая творчасць. Ты хочаш заліць вогнішча вадой, а агонь ператвараецца ў камень, ты хочаш разбіць камень кувалдай, а камень ператвараецца ў ваду, ты хочаш набраць вады ў вядро, а вада ператвараецца ў воблака.

Яшчэ больш містычнаю з'яўляецца таямніца творчай асобы. Расійскі філосаф Леў Шастоў на пачатку нашага стагоддзя пісаў: "Мы не умеем воспитывать поэтов и говорим, что поэты рождаются. Разумеется, если мы заставим ребенка изучать различные литературные образцы, начиная с древнейших и кончая новейшими, то этим мы из него не сделаем поэта, точно так же, как никто бы нас не услышал в Америке, как бы громко ни кричали мы в Европе. Чтоб сделать человека поэтом, его вовсе не нужно "развивать" в общепринятом смысле. Может быть, следует от него прятать книги. (...) Что-нибудь вроде проломленного черепа или прыжка из четвертого этажа — и не только метафорически, а нередко и в буквальном смысле этих слов — таково обыкновенно начало деятельности гения, иногда видимое, большей же частью скрытое".

Даваць нейкія парады ў плане творчасці — справа няўдзячная. Аднак ёсць цэлая сфера калялітаратурнай дзейнасці, якая спадарожнічае творчаму працэсу і істотна ўплывае на яго. Яе ўмоўна можна назваць арганізацыяй літаратурнага працэсу, або, як гэта сёння модна, — прадзюсіраваннем літаратурнага працэсу. Даўно ўжо стала відавочным, што напісаць твор мала. Трэба выдаць яму "пасведчанне аб нараджэнні" і выправіць у людзі. Па-першае, надрукаваць. Неабходна ўлічыць — надрукаваць дзе, як і калі. У залежнасці ад іміджу аўтара, жанру твора, эстэтычных задач і г.д. Нават ледзь заўважная драбяза мае ў гэтай падставовай справе значэнне. Па-другое, трэба дапамагчы надрукаванаму твору "адбыцца". Тут мусяць быць аб'яднаны шматлікія задачы ад рэкламавання твора да пасоўвання яго на іншыя нацыянальныя культуралагічныя абсягі.

Ці ёсць на Беларусі людзі або арганізацыі, якія б займаліся комплексам гэтых праблем? Бадай, толькі ТВЛ пачало свае першыя спробы. Адсюль вынікае галоўная задача беларускай літаратуры — пераўсталёўванне арганізацыі літаратурнага працэсу. Ад монаструктурнага трэба перайсці да паліфанічнага, шматнішавага, плюралістычнага. Гэта і стварэнне спецыялізаваных выдавецтваў, і арганізацыя літаратурных аб'яднанняў на глебе эстэтычнага "сваяцтва" (тоеснае стварэнню палітычных партый для запаўнення палітычнага спектра краіны, пасля чаго мусіць запрацаваць механізм палітычнага рэгулявання жыцця грамадства), і заснаванне новых літаратурных выданняў, і арганізацыя літаратурнага менеджменту. Толькі пасля гэткай рэканструкцыі можна будзе ўзгадаць пра спаборніцтва паміж кнігай і тэлевізарам. (Для літаратуры было б лепш з тэлевізара зрабіць саюзніка, які б дапамагаў ёй выконваць сваю адказную місію. Зноў-такі, гэта можа зрабіць не сама літаратура, а той, адсутны пакуль на Беларусі, калялітаратурны спадарожнік-руплівец.)

Безумоўна, і сама літаратура павінна ўлічваць запатрабаванні часу. Зацятае ігнараванне патрэб і пажаданняў грамадства, гэтакі ультрарадыкальны нонканфармізм таксама можа прывесці да самападманнага тупіка. Літаратура павінна стаць больш універсальнай, больш лаканічнай і камунікабельнай. Сённяшні чалавек — ці гэта інтэлектуал, ці просты паспаліты грамадзянін — не мае багата часу на чытанне кнігі, існуе нават няўхільная тэндэнцыя скарачэння гэтага часу. Аўтар, які напісаў раман у 300—400 старонак, рызыкуе застацца адзіным ягоным прыхільным чытачом. Хаця, бясспрэчна, існуюць выключэнні з любых правілаў.

І яшчэ адзін міф, створаны намі апошнім часам, нельга абысці бокам. Мы без стомы паўтараем — наша сіла ў адзінстве. Гэтае адзінства вельмі дзіўна выглядае і нагадвае сабой нейкі атавістычны хвосцік таталітарызму. Нам не трэба адзінства поглядаў, адзінства эстэтычнага арыенціру, структурнага адзінства. Культуралагічная сітуацыя на Беларусі патрабуе сёння вялікай дыскусіі. Але без тэалагічных закідаў і шыльдаў "ворага народа", "жыдамасонскага шпега", "фашыстоўца" ды інш. Мы мусім не пагаджацца адзін з адным, спрачацца, не выходзячы за межы эстэтычнага абсягу, але не займацца шальмаваннем. Наўрад ці гэткая дыскусія адбудзецца ў бліжэйшы час, — большасць беларускіх (ледзь не напісаў савецкіх) пісьменнікаў не ведаюць, якой эстэтычнай глебы ім трымацца, куды рухацца, і часам блытаюць пытанні адраджэння беларускасці з новай эстэтычнай палітыкай Беларусі, што зусім не адно і тое ж. Тыя пісьменнікі, якія абазнаны ў гэтых праблемах, яшчэ не саспелі для дыферэнцыйнага руху. Яны цяпер аб'ядноўваюцца хутчэй на адмаўленні старога, чым на стварэнні чагосьці новага (выключэнняў няшмат). Але калі не пачынаць, дык да гэтай дыскусіі мы ніколі не дарасцем. Каб расці, трэба харчавацца — спажываць новыя ідэі, суседскі вопыт і "прадукт" уласных эксперыментаў.

Для характарыстыкі сярэднестатыстычнага беларускага пісьменніка можна выкарыстаць словы Віктара Шклоўскага: "Искусство явилось для него не отраслью культуры, не суммой знания-умения (...), а расширенной автобиографией". Трэба быць вельмі выбітной асобай, каб пасля першых некалькіх кніжак не страціць цікавасці як чытача, так і літаратурнага крытыка. Не з'яўляецца ратаваннем і зварот да гістарычнай прозы. Новае эстэтычнае будаўніцтва пісьменнікі павінны забяспечыць сучаснымі будматэрыяламі.

Павольная эвалюцыя заходняй літаратуры, здаецца, не прадвяшчае ніякіх нечаканасцей. Сенсацыя, камерцыйны поспех і новы эстэтычны рух — рэчы розных кшталтаў. Не трэба скідваць з рахунка і нашы амбіцыі аўтсайдэра. З гэтай нагоды ўзгадваюцца словы Д.Мережкоўскага: "...может быть, тогда-то именно последние будут первыми, не для того, чтобы надо всеми возвыситься, а чтобы послужить всем".

P.S. Вышэйзгаданыя пытанні будуць разглядацца на міжнароднай канферэнцыі "Літаратурны працэс: рэцэдывы постталітарнай маргінальнасці", якая адбудзецца 4—5 лістапада ў Полацку пад эгідай ТВЛ .

**Ад рэдакцыі.**

Неабходнасць рэарганізацыі літаратурнага працэсу, пра што піша Алесь Аркуш, усведамляецца далёка не ўсімі. Ва ўсялякім разе, на апошнім па часе пісьменніцкім з'ездзе адпаведнае пытанне ўсур'ёз не ставілася. Не вырашаецца яно і практычна, шляхам рэарганізацыі апарату Саюза беларускіх пісьменнікаў. Дзіўны штыль пануе як сярод большасці літаратурна-мастацкіх выданняў, так і ўвогуле ў творчым асяроддзі. Мажліва, што прычыны такой з'явы карэняцца ў грамадскім клімаце і, шырэй, у сацыяльна-палітычным становішчы Беларусі. Так ці інакш — гаворка наспела, і мы запрашаем усіх жадаючых прыняць у ёй удзел.

Уражанне

# "ДЗЕ ПРОДКАЎ ЦЕНІ..."

Цягнік пакідае Полацк. За вокнамі мільгаюць малюнкі ліпеньскай прыроды. Пад перастук вагонных колаў перачытваю новую кнігу паэзіі Навума Гальпяровіча "Востраў душы". Дарога настройвае на роздум.

"Востраў душы" — такая нечаканая, нязвыклая для слыху назва. Дранько-Майсюк, творчасць якога пазначана літаратурнай вытанчанасцю, шчыра прызнаўся, што быў прыемна здзіўлены назвай кнігі, адзначыўшы пры гэтым, што падобнае яшчэ не сустракалася.

Мяне цікавіць, што ж там, на востраве душы паэта?

**На востраве душы маёй ліхтар,**
**Што свеціць праз туман і завіруху,**
**Якому я прыношу на алтар**
**Сваю даўно ўзгадованую скруху.**

Глыбокая, "даўно ўзгадованая" скруха, гэта што — вынік "ума холодных наблюдений и сердца горестных замет"?

Зразумела, рэчаіснасць наша такая, што нам даўно ўжо не да песень. Мы аказаліся ў паласе разбурэння, знішчэння, абвяржэння, непрыняцця, пераасэнсавання, перагляду як старога, так і ўсяго, што было дарагім, святым, вечным. Нехта з вялікіх людзей сказаў, што калі расколваецца свет, трэшчына праходзіць праз сэрца паэта. На зломе часу не проста разабрацца ў хадзе падзей. Сходзяцца два тысячагоддзі. Яны, сутыкнуўшыся, могуць падняцца на дыбы — і тады непазбежны катаклізмы, трагедыі.

Рэаліі дня гнятуць паэта, ён ясна бачыць і добра разумее ўсе недарэчнасці супярэчлівага часу. Але, тым не менш, упэўнены:

**І пакручастыя дарогі**
**Праб'юцца праз бяды дзірван.**

Ды гэта будзе заўтра, а сёння душа паэта настроена на мінорную хвалю.

**Чаму так цягне да сваёй зямлі,**
**Дзе продкаў цені,**
**Якія, можа, як і я, былі**
**Адным імгненнем.**

Паглыбляючыся ў роздумныя радкі паэта, я раптам пачынаю разумець прычыну яго глыбокага і пакуль што непазбыўнага суму. Творца аказаўся на той вышыні ўзросту, калі стаў глыбей пранікаць у свае карані, вытокі, асэнсоўваць вечныя пытанні: навошта мы тут, для якой мэты, якое наша прызначэнне і месца ў сусвеце, чаму чалавек, надзелены Тварцом такім магутным духам, не вечны на зямлі? Адны ўспрымаюць гэтыя пытанні спакойна, другія, больш уражлівыя, не згаджаюцца з суцяшальнымі довадамі царквы, бунтуюць супраць няўмольных законаў быцця. Міма нашай волі адбываецца вечны кругазварот жыцця, што і сцвярджаецца Гальпяровічам:

**Так мы вяртаемся ў існасць і свет,**
**Той, ад якога ўжо бралі пачатак.**

Пытанні жыцця і смерці — яны вечныя, як і сам свет.

**Вечны пошук і адказ,**
**І салодкае трымценне.**
**Вечны позірк, вечны час.**
**Вечнае душы памкненне.**

Нягледзячы на сваю тугу, паэт перш за ўсё зямны чалавек са сваімі турботамі і праблемамі. Яго хвалююць розныя бакі жыцця. Ён балюча перажывае, што "Храмы руйнавалі, а баракі Сімваламі радасці былі". Ён занепакоены тым, што ў адносінах паміж людзьмі мала спагады і дабрыні. Усё было падчас дыскусій, "Толькі месца ў спрэчках не хапіла Для спагады, мудрасці, любві". Пануе стыхія адмаўлення свайго, кроўнага, спадчыннага: "Як у бездань весела імчаць, З грукатам і песнямі чужымі".

А колькі навокал сляпых, якія не толькі не разумеюць, але і не імкнуцца спасцігнуць сутнасць новага жыцця. Ім не да гэтага, яны заняты іншым.

**А сляпыя ў звадах горла раздзіраюць,**
**Скарб багаты дзеляць, п'юць віно заўзята.**

Паэт не "падганяе" сябе пад абставіны жыцця, ён цвёрды ў намеры заставацца самім сабою. Але ж такая пазіцыя не часта даспадобы "сильным мира сего". Вось і даводзіцца

**...даказваць зноў, што маю права**
**Быць такім, якім жадаю быць.**

Вобраз Радзімы, роднай старонкі заўсёды жыве ў душы паэта.

Паглядзіце, з якой сілай творчага ўвасаблення паказана ўзаемная повязь чалавека і радзімы ў вершы "Спявае Данчык":

**Звініць, нібы жаўрук пад небам,**
**Яго астральная туга.**
**Над той далёкай і адзінай**
**Зямлёй таполяў і бяроз...**
**І адгукаецца Радзіма**
**Самотнаю пяшчотай слёз.**

Адметным у "Востраве душы" з'яўляецца і тое, што Н.Гальпяровіч амаль не просіць дапамогі ў Бога, а сам стараецца разабрацца і ў самім сабе, і ў жыцці наогул. Усявышні ўсюдыісны:

**Толькі здалёк пагладае Хрыстос.**
**Ён на дарозе і ён на парозе.**

А колькі нечаканых вобразаў, сапраўдных залацінак у кнізе!

**Ды сцяжынка часам у траве,**
**Нібы часу кволенькая вена.**

Трэба адзначыць і наступнае. Ёсць у кнізе вершы (іх, праўда, няшмат), якія не пазначаны глыбокай філасофіяй, а проста нясуць у сабе пэўную інфармацыю. ("Перапіска", "Папугай", "Асеннія кветкі" і інш.). Парушаецца агульны строй кнігі, на мой погляд, з чым згаджаецца і аўтар "Вострава душы", двума вершамі з цыкла "Паводле цыганскай паэзіі". Але ў цэлым кніга светлая, свежая, прымушае задумацца над прачытаным.

На востраў душы Навума Гальпяровіча прыбываюць першыя паломнікі.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**
*Пастаўскі раён*

Сярод кніг

# ШТО ПАСЕЯЛІ — ЗБІРАЕМ...

За назвай новай кнігі паэзіі Міколы Маляўкі "Ручнічок на крыжы", нядаўна выпушчанай выдавецтвам "Мастацкая літаратура", не даніна модзе, як можа падацца на першы погляд. Гэта душэўная патрэба паэта асэнсаваць пройдзены шлях, дзень сённяшні, паспрабаваць зазірнуць у будучыню. Найчасцей пры гэтым з'яўляюцца матывы самотныя, элегічныя і тым самым вобраз ручнічка на крыжы ўсё болей пачынае ўяўляцца свайго роду сімвалам. Знакам жальбы па страчаным і нязбытным, але адначасова і сімвалам веры ў далейшае духоўнае ўзбагачэнне народа, у яго адраджэнне, вяртанне да каранёў, нацыянальных вытокаў.

Кніга атрымалася аб'ёмнай — больш пяці ўлікова-выдавецкіх аркушаў, аднак аўтар палічыў патрэбным не "разбіваць" творы на асобныя раздзелы, хоць гэта зрабіць было б і не цяжка. Аднак у такім разе знікла б цэласнасць успрымання, а сама споведзь лірычнага героя пазбавілася б нязмушанай паслядоўнасці, калі ад верша да верша ўзрастае сіла эмацыянальнага поля, што ўбірае ў сябе тое, да чаго немагчыма быць абыякавым.

Вершы М. Маляўкі, у якіх закранаецца чарнобыльская тэма, а таксама тыя, што напоўнены роздумам аб лёсе народа, Бацькаўшчыны, мовы, часам маюць і пэўную лозунгавасць, ды яе, у дадзеным выпадку, не трэба баяцца. А як жа інакш прамаўляць, пісаць, калі тыя, хто выступае супраць беларускасці, гатовы, як кажуць, узяць цябе за горла. Яны ж вельмі ваяўнічыя, як і адзін з "народных" выбраннікаў з верша "Сабака":

**Дэпутат на мову брэша.**
**І даўно ад брэху-здзеку**
**Чырванее наша Вежа,**
**Вежа, белая спрадвеку.**

Лагічным успрымаецца і з'яўленне верша "Туман" — такая ўжо наша рэчаіснасць:

**Падман кругом, адзін падман,**
**Блакітны, як вясной туман,**
**І шэры, як туман асенні.**
**І непрыкаяна, як цені,**
**Мы ноч і дзень у ім блукаем.**

І само сабой узнікае запытанне: "Куды ідзём?..", падказваючы назву яшчэ аднаму твору, што таксама — сведчанне неабыякавага стаўлення аўтара да сённяшніх рэалій: "Даўно пара спусціцца з неба // Арлам дзяржаўным. На людзей — надзея: // Глядзець у будучыню трэба // З зямлі, а не з трыбуны Маўзалея".

Хаця, чаму здзіўляцца? Ды і навошта на некага наракаць, навошта шукаць вінаватых збоку — "Тое, што пасеялі, збіраем". А гэта яшчэ адзін верш М.Маляўкі і таксама з тых, што надзіва актуальныя: "Знак бяды над родным краем. // Тое, што пасеялі, збіраем. // Даражэе нават чорны хлеб, шкада. // Дзякуй Богу, што бясплатная вада".

Аднак, бадай, не памылюся — М.Маляўка ўсё ж па складзе сваёй творчасці паэт-лірык. Пацвярджэнне таму і шмат якія творы з яго новай кнігі. Магчыма, яны нават пераважаюць над творамі, у якіх надзённасць вырываецца, так сказаць, на паверхню. Але сённяшняя лірыка М.Маляўкі таксама адметная. Я б сказаў — яна з публіцыстычнай падсветкай. Але публіцыстычнасць гэтая не знешняя, а ўнутраная, падтэкставая, як у адным з лепшых вершаў "Начлег". У ім і вяртанне ў пару маленства: "Хлапчуком-падпаскам я, бывала, лётаў // На начлег сюды, ад вёскі... збоч". Але ў ім і паяднанне дня сённяшняга з учарашнім. У ім жыве ўжо не колішні хлапчук-падпасак, а сталы мужчына, які даўно развітаўся з вёскай, але яна, тым не менш, пастаянна нагадвае аб сабе і прыцягальная сіла яе вытокаў з гадамі не меншае. "Быт патрыярхальны ў век ракет" не адштурхоўвае ад сябе:

**З хлапчуком-падпаскам бачу падабенства,**
**Адчуваю моцна роду карані,**
**Быццам сапраўды ў далёкае маленства**
**Я вярнуўся на чаромхавым кані.**

У М.Маляўкі пераважаюць творы, якія не выклікаюць сумнення ў сваіх высокіх мастакоўскіх вартасцях. Узяць хоць бы верш "Пад небам сінім" (між іншым, упершыню ён быў апублікаваны на старонках "ЛіМа"). Колькі сказана паэтамі пра любасць да родных мясцін, колькі прызнанняў у адданасці вёскам, адкуль пачалася твая жыццёвая дарога, прагучала, але чытаеш гэты твор і быццам нічога значнага да яго не было. Безумоўна, за выключэннем класічнага: "Трэба дома бываць часцей..."

Як пераканаўча (і як хораша) прызнаецца М.Маляўка ў любві да сваёй Мікалаўшчыны (а менавіта так называюць сваю вёску Мікалаеўшчына яе карэнныя жыхары):

**Каб мог, асцярожна ўзяў бы**
**У далоні цябе, пагушкаў,**
**Сагрэў бы дыханнем, азяблую,**
**Як неадлётную птушку.**

Ды і як жа інакш, калі: "І ўся ты, да крайняй сядзібы, // У сэрцы маім умяшчаешся"!

Па-свойму адметна, хораша напісаны М.Маляўкам вершы пра маці ("Мікалаўшчына без мамы", "Жалобны трыпціх", "Родныя вокны" і іншыя). Кожнае слова ў іх дакладна ўзважана і прадумана... Хаця, магчыма, гэта і не той выпадак, каб разважаць пра аўтарскае майстэрства ў творах, якія звычайна не пішуцца, а прамаўляюцца. Душой, сэрцам...

Увогуле, творчая палітра М.Маляўкі ў гэтай кнізе праявілася самымі рознымі адценнямі. Нікольکі не лішнімі ў зборніку выглядаюць і гумарыстычныя творы ("Куцця", "Анекдот", "Гарэм", "Бацяны"...). Хоць, па праўдзе кажучы, бывае і так, што аўтар кладзе ў аснову завельмі хадавы сюжэт. Прыклад — верш "Навіна":

**Прынёс яе пастух Арсен:**
**Мядзведзя бачыў — у аўсе.**

**Суседка навіну пасе:**
**Мядзведзя бачыла ў аўсе.**

**А сёння сведкі ўсе:**
**Мядзведзя бачылі ў аўсе.**

Ды і ў вершах "сур'ёзных" часам вока "чапляецца" за выпадковы радок... Але хіба ад гэтага паслабляецца ўражанне ад кнігі М.Маляўкі? Хіба не хочацца чытаць і перачытваць яе лепшыя творы?

Адначасова з'яўляецца і жаданне вярнуцца і да ранейшых паэтавых кніг — "Едуць маразы", "Жалеза", "Лотаць", "Круг", "Аднавяскоўцы" і іншых. Ладны стос атрымліваецца... А ў зборніках гэтых, як і ў кнізе "Ручнічок на крыжы", творы, якія не пакідаюць абыякавым.

Калі ты любіш паэзію. І калі ты любіш сваю Бацькаўшчыну. А гэтыя паняцці для М.Маляўкі ўзаемазвязаны.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

Памяць

# ГАВАРЫЎ ТОЛЬКІ ПРАЎДУ...

Менавіта так назваў свае згадкі пра Алеся Адамовіча вядомы рускі пісьменнік Леў Разгон. Ён, у прыватнасці, адзначае: "Цяжка было знайсці чалавека больш прывабнага, чым Алесь Адамовіч. Яго някідкая прыгажосць твару, сарамлівая ўсмешка, нейкая старамодная мяккасць у кантактах з людзьмі, дабрыня і імкненне дапамагчы людзям, якія да яго звярталіся... І пры ўсім гэтым ён у пэўных людзей, больш таго — у многіх людзей выклікаў злосць, у лепшым выпадку — няўвагу. І ўсё толькі таму, што вызначальнай рысай гэтага чалавека была здольнасць гаварыць толькі праўду. Многія лічылі яго жорсткім і нават бязлітасным. Мабыць, ён і бываў такім. Бо што можа быць больш бязлітасным, чым праўда".

Згадкі Л.Разгона змешчаны ў шостым нумары газеты "Литературные вести". Гэта газета садружнасці Саюзаў пісьменнікаў, Саюза пісьменнікаў Масквы і Незалежнай Асацыяцыі пісьменнікаў "Красавік", галоўным рэдактарам "ЛВ" з'яўляецца Валянцін Аскоцкі.

Выданне ярка выражанага дэмакратычнага кірунку і, зразумела, перажывае нямала цяжкасцяў. У першую чаргу, безумоўна, фінансавых, таму і не сказаць, каб выходзіла часта. Больш таго, на кожны чарговы нумар даводзіцца, як кажуць, выбіваць грошы.

Што тычыцца згаданага шостага, дык ён прысвечаны гадавіне з дня смерці А.Адамовіча, пра што гаворыцца і ў невялікай "Калонцы рэдактара": "Поруч з публікацыямі аб яго жыцці і творчасці, успамінамі пра яго чытач знойдзе таксама матэрыялы, праблематыка якіх горача хвалявала Алеся Адамовіча як публіцыста і крытыка".

Несумненна, што з падобных матэрыялаў на першы план неабходна вылучыць дыялог Надзеі Жалязновай з Анатолем Прыстаўкіным "Не страляйце ў будучыню", у якім дадзена бескампрамісная (у духу А.Адамовіча!) ацэнка сённяшніх падзей у Расіі, найперш таго становішча, што склалася ў Чачні.

А ў вянок памяці Алеся Міхайлавіча хораша ўпісваюцца самыя розныя матэрыялы. Яму прысвяціў свой верш і Булат Акуджава:

**Вот и дочитана сладкая книжка,**
**Долгие годы в одно сведены,**
**И замирает обложка, как крышка,**
**С обозначением точной цены.**

Роспачна-самотныя развагі Васіля Быкава: "А мы ўсе перажываем яго сярод нас адсутнасць, наша духоўнае сіроцтва. Цяжка змірыцца з думкай, што назаўсёды страчана гэткая неабходная магчымасць хоць зрэдку пачуць яго мяккі, нягучны голас, спасцігнуць няпросты ход яго дапытлівай думкі, параўнаць з яго высокай праватой уласную нашу праўату — у літаратуры, і палітыцы, у жыцці. З сумнай непазбежнасцю мы павінны засведчыць ідэйна-маральны разброд сярод яго нядаўніх аднадумцаў, яго сяброў. Міжволі думаецца часам: магчыма, і лепш, што ён не дажыў да многага і не ўбачыць, што без яго сталася, пазбегне, магчыма, самага вялікага свайго расчаравання ў сябрах — тых, хто гэтак хутка перарадзіўся з прагрэсістаў і дэмакратаў у банальных дзяржаўнікаў. Яго раптоўная канчына адбылася быццам у прадчуванні яго больш цяжкай гадзіны, якой бы ён хутчэй за ўсё не прыняў бы і наўрад ці перажыў бы яе. Хіба што пракляў бы, як праклінаюць сумленныя людзі, вымушаныя несці свой крыж у жыцці — за сябе, за праўду. і за яго таксама..." ("Несці свой крыж").

І яшчэ адзін верш — Уладзіміра Савельева "Ідзі і глядзі", у загаловак якога, як вядома, вынесена назва вядомага фільма, створанага па сцэнарыі Алеся Міхайлавіча:

**Дворы, где фонтанов бетонные миски.**
**Метро, где народищу невпроворот.**
**Неспешно, как будто он все еще в Минске,**
**Москвою связник партизанский идет.**

"У Адамовіча быў не толькі талент тварыць, ствараць, талент чалавекам быць і застацца чалавекам, але і талент грамадзяніна, высокага, які смела, безаглядкава ішоў у атаку. І загінуў у час атакі" — гэта невялікая вытрымка з успамінаў Сільвы Капуцікян "Талент грамадзяніна".

Пра А.Адамовіча піша і ўдзельнік работ па ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, інвалід II групы, кандыдат тэхнічных навук, член Лігі незалежных вучоных Расіі Аляксандр Глушчанка ("Чорная быль"). Асаблівую ўвагу ён звяртае на тое, як Алесь Міхайлавіч, "адным з першых... пачаў шукаць прычыны гэтай страшнай трагедыі і прыйшоў да вываду: Чарнобыль — дзіця Савецкай сістэмы. Ён пачаў гаварыць праўду, што само па сабе было грамадзянскім подзвігам на фоне той масіраванай хлусні, якая патокамі была запушчана ў абарот — адразу пасля катастрофы, як, урэшце, і да яе..."

"Без страху і дакору" — скарочаны варыянт мемуараў Лазара Лазарава, цалкам з якім можна пазнаёміцца ў часопісе "Знамя". Таксама згадкі пра Адамовіча-чалавека, Адамовіча-грамадзяніна, але, безумоўна, нямала і разваг пра яго творчасць. Л.Лазараў жа, не будзем забываць, неаднаразова пісаў пра А.Адамовіча, прытым сябраваў з ім. Таму і ўдаецца яму адчуць і ў жыцці Алеся Міхайлавіча і ў яго творчасці, грамадскай дзейнасці многае з таго, што іншымі незаўважана, а гэта надае сведчанням яшчэ большую праўдзівасць і пераканаўчасць.

Як нельга да месца падборка "З запісных кніжак розных гадоў" А.Адамовіча (публікацыя Н.Адамовіч), а таксама вытрымкі з перапіскі А.Адамовіча і Ігара Дзядкова з Вячаславам Кандрацьевым. Змешчана і колькі здымкаў, у тым ліку і з дачкой Наташай.

Усё гэта матэрыялы, якія наўрад ці пакінуць каго-небудзь абыякавым. Безумоўна, з тых, хто любіць творчасць А.Адамовіча і хоча болей пра яго ведаць. Адначасова згаданыя публікацыі падказка: неабходна парупіцца, каб сабраць кнігу ўспамінаў пра Алеся Міхайлавіча.

**А.М.**

Віктар СУПРУНЧУК

# ФАНТАМАС



АПАВЯДАННЕ

*— Сяджу на нарах, як кароль*
*на імянінах,*
*І пачак "Северу" спрабую дакурыць.*
*А мой нахабны смех*
*Мае заўсёды поспех...*

Гэта гарланіць, з размаху ляпаючы ўсімі пальцамі рукі па струнах гітары, Пецька Касцюк. Рыжанькі, з крывым носам і ў рабацінні. На твары месца жывога няма ад скулявак. Ён лічыць сябе музыкаю, хоць гітару трымае ў руках усяго другі тыдзень. У адрозненне ад астатніх палескіх хлопцаў размаўляе толькі па-беларуску. Чыста, як настаўніца ў школе. Пецька родам з Міншчыны. Відаць, маніць, што ў ягонай вёсцы ва ўсіх гэткая прыгожая мова.

На электрычнай плітцы ў чорнай мурзатай каструлі кіпіць-варыцца суп. Смачны пах раздражняе, не дае спакою. У суп паклалі, акрамя бульбы, лыжак колькі падсмажанага з цыбуляю сала, якое прывёз ад бацькоў з Драгічына Яшка Нізок, трошкі самаробнай локшыны. Яе з ладную жменю ўкраў Касцюк у суседнім пакоі. Там жывуць жмінды, ніколі не дадуць ні скарынкі хлеба, ні цыбуліны. Застаецца ўкрасці, толькі не надта многа, бо заўважаць і будзе гвалт.

Суп варыцца, і праз хвілін дзесяць, нарэшце, надыдзе свята для жывата. Пецька Касцюк брынчыць, а Яшка Нізок і Мікола Ангедровіч, а працей Ангідрыд, лежачы на ложках, вачэй не зводзяць з каструлі. Якая там вучоба, калі такі цудоўны пах ахутвае галаву і тлуміць мазгі? Ці хлопцам зараз да нейкіх трансфарматараў, электрастанцый, да ўсяго зрэшты гэтага фабзайскага вучылішча, калі чакаецца свята жывата?

— Мо ўжо гатова? — не вытрымлівае Пецька, адкідвае ад сябе гітару і — да каструлі.

— Куды, куды! Назад! — Яго спыняе Ангідрыд. — Сёння кухар я. Я камандую! Не гатова!

Ангідрыд — здаровы мардаты хлопец, вельмі спакойны і любіць кухарыць. Кажа, што дарэмна пайшоў вучыцца на электрыка. Але д'ябал з ім, у арміі перавучыцца на кухара. Які сэнс у электрыцы, лепш за ўсё сталоўка, кафэ ці рэстаран. Ніколі галодны не будзеш. Ён ажно прыцмоквае сваімі тоўстымі вуснамі. Усе рагочуць, бо надта ж смешна ўявіць Ангідрыда ў белым халаце і з вялікім апалонікам. Мусіць, не мужчынская справа кухарыць, варыць суп ці таўканіцу.

— Ну, хлопцы, яшчэ трошкі і будзем есці, — кажа Ангідрыд, каштуючы гарачы суп. — З паўлыжкі солі...

Ён не паспеў пакласці накрыўку на каструлю, як пачуўся стук у дзверы. Усе сціхлі, затаіліся. Калі хто з суседніх пакояў, дык нічога страшнага, а як нехта з адміністрацыі інтэрната? Месяц назад дырэктар вучылішча сваім загадам забараніў гатаваць ежу на электраплітках у пакоях. Маўляў, негігіенічна і небяспечна: можа быць пажар. Варыць суп і смажыць сала толькі на агульнай кухні. У некалькіх пакоях пасля гэтага загаду ў хлопцаў забралі пліткі. І яшчэ абяцалі выгнаць з інтэрната.

— Ціха і спакойна, — Яшка Нізок бярэ свой ручнік і каструлю з супам разам з электраплиткай хавае пад ложак. — Адчыняй!

Дзверы адчыняе Ангідрыд. Калі хто з хлопцаў вырашыў парушыць святы час абеду, дык ён не пераступіць парог. Аднак Ангідрыд ветліва ўсміхаецца і шырока расчыняе дзверы.

— Ого! — здзіўлена вымаўляе Пецька Касцюк, і схапіўшы гітару, прытанцоўвае і спявае: "Эх, сяджу на нарах, як кароль на імянінах!.."

У пакой уваходзіць Аршынаў-Мураўёў, пра якога хлопцы зусім забыліся. Ён ад выкладчыкаў дзяжурыць па інтэрнаце. Дый урэшце ніхто яго не баіцца. Аршынаў-Мураўёў сам жыве ў інтэрнаце на другім паверсе, мае там пакойчык разам з іншымі бескватэрнымі выкладчыкамі і майстрамі. Нібыта ў Мінску ў яго шыкоўная кватэра і сям'я. А тут у інтэрнаце ён адзін, толькі праз тыдзень у суботу цягнецца з вялікім карычневым чамаданам на аўтавакзал, а вяртаецца пасля абеду ў панядзелак.

Аршынаў-Мураўёў сталага ўжо ўзросту чалавек. Як толькі ён з'явіўся ў вучылішчы, яму адразу прыляпілі мянушку Фантамас. У яго лысая, як калена, галава, шырокая амаль квадратная барада. Заўсёды на ім цёмны ў ледзь прыкметную шэрую пасачку касцюм, зялёная, відаць, ваенная кашуля і такі ж зялёны гальштук. Іншага адзення на Аршынаве-Мураўёве ніхто не бачыў. На сваіх занятках ён расказвае пра электрастанцыі і падстанцыі. І ведае гэтую навуку вельмі добра. Кажуць, Аршынаў-Мураўёў да вучылішча працаваў больш дваццаці гадоў галоўным інжынерам энергетычнай сістэмы Беларусі. На занятках ён амаль не глядзіць на схемы. Ягоная памяць усіх здзіўляе, бо ў гэтых схемах, здаецца, і сам чорт ногу зломіць. Аднак на занятках такі кавардак і гвалт, што, мо хто і хацеў бы нешта запомніць, дык не здолее. Адны, не хаваючыся, гуляюць у карты, іншыя баяць анекдоты, трэція чытаюць кніжкі. Ён жа, не звяртаючы ні на кога ўвагі, бадзёрым і ўпэўненым голасам расказвае пра электрычныя ўстройствы. Ходзіць па вучылішчы плётка, што ён прыехаў сюды выкладаць, каб зарабіць сабе колькі гадоў педагагічнага стажу. Быццам будзе тады большая пенсія. Не слухаюць Аршынава-Мураўёва на занятках, потым шкадуюць; прымаючы экзамен, ён бязлітасна ставіць двойкі.

— Заходзьце, заходзьце, паважаны Леў Аляксандравіч! — кланяецца, прытанцоўваючы, Пецька Касцюк.

— Чего юродствуешь? — трохі раздражнёна гаворыць Аршынаў-Мураўёў, які ў прыцемках неасветленага пакоя сапраўды нечым нагадвае хлопцам Фантамаса з французскага фільма, які яны не так даўно бачылі. — Я тебе не паважаны, а уважаемый. Пора, чай-то, и русскому языку научиться. Кстати, самому богатому языку в мире! А то пойдешь в армию и все с тебя смеяться будут. Темный ты человек, Костюк!

Аднак гэтая вымова не спыняе Пецьку і ён усё роўна скача перад незадаволеным Фантамасам. Ажно пакуль Мікола Ангідрыд не цягне яго за каўнер убок.

— Прабачце, Леў Аляксандравіч, гэта ён жартуе, — падсоўвае Фантамасу Яшка Нізок табурэтку. — Сядайце, рады вас бачыць. Няйнакш дзяжурыце сёння?..

— Дзяжуру, дзяжуру, — хітае галавой выкладчык. — Прыдумалі нейкае глупства. Калі які падшыванец захоча нешта выварыць, дык што я зраблю? — разводзіць Фантамас рукамі. — Анічога. Адзін у полі не воін. Каб хто мне дапамагаў...

— Давайце мы будзем дапамагаць, — кажа Ангідрыд.

— У якім сэнсе? — насцярожваецца Фантамас.

— У прамым. Як хто не будзе вас слухацца, мы яго па вуху, па вуху...

— Ну, ты і прыдумаеш. Доўга думаў, як гэта па вуху, па вуху? Вы ж не якія спартсмены, барцы ці баксёры, — аглядвае Фантамас хлопцаў. — Хаця ў вашай прапанове нешта ёсць разумнае... Як гэта кажуць, сіла салому ломіць. Трэба было б таму-сяму і па вуху... Учора раніцай выходжу з пакоя, а на дзвярах мелам нашкрабалі: Фантамас. Хто такі Фантамас? Я такога не ведаю, чаму напісалі на маіх дзвярах, а не, напрыклад, на вашых?

— А ў нашым пакоі Фантамас не жыве, — рагоча Пецька Касцюк. — Навошта на нашых дзвярах пісаць?

— Ты, во! — стукае сагнутым пальцам па стале Аршынаў-Мураўёў. — Дурань! А дзе ў інтэрнаце Фантамас? Няма! Галавой думаць трэба...

Ён сядае больш зручна за стол, расшпіляе пінжак і, мабыць, пакуль не збіраецца пакідаць пакой. У Яшкі Нізка дзень нараджэння. Якраз пад суп хлопцы і хацелі выпіць за Яшкаў дзень віна. Дый есці ўжо час, кішкі ў жываце марш іграюць.

— Так, так... — задумліва азіраецца Фантамас. І раптам усе заўважаюць, што ён, нібы кот, прынюхваецца сваім азызлым тоўстым носам. — У вас нечым смачна пахне. Ці не ўключылі тут электрычную плітку? Ведаеце пра загад дырэктара вучылішча?

Ангідрыд падыходзіць да ложка, пад якім схаваны суп, і, нібы фокуснік, імгненна выцягвае адтуль каструлю і ставіць на стол. Здымае накрыўку, і смачны пах смажанага сала, цыбулі, бульбы, кропу і лаўровага лісту, здаецца, проста напаўняе ўвесь пакой. Ён не дае дыхаць, ён такі ж моцны, як у добрага віна...

Здзіўлены Фантамас хвіліну-другую моўчкі глядзіць на каструлю, з якой узнімаецца гэткая пахуткая пара. Пасля разводзіць рукамі і вымаўляе лагодным голасам:

— Ну, кухары!!! Пахне смачна, — нахіляе над каструляй шырокі нос і нюхае, нюхае.

— Глядзі, каб не ашпарыўся, — ціха смяецца Касцюк і штурхае ўбок Яшку. — Запрашай, не будзь дурнем. Мо пяцёрачку атрымаеш па спецтэхналогіі.

Але Касцюка апярэджвае Ангідрыд. Не пытаючыся, налівае ў міску два паўнюткія апалонікі супу. І больш гушчы, чым рэдкага:

— Пакаштуйце, Леў Аляксандравіч, нашага булёну.

— А што, а што, можна, — Фантамас бярэ вялікую драўляную лыжку Яшкі, якую той прывёз з дому, і пачынае сёрбаць. Тады Ангідрыд налівае суп усім астатнім. З хвіліну ядуць моўчкі. Потым Яшка не вытрымлівае і кажа, штурхаючы нагою Ангідрыда:

— А ў мяне дзень нараджэння... Сягоння дзень нараджэння... Вось толькі сягоння...

— Ну і што? — ажно прыцмоквае Фантамас. Мусіць, таксама ўгаладаў. Вядома ж, харчуецца калі ў сталоўцы, а калі і сам мо гэтак жа гатуе на плітцы. Жонка аладак не напячэ. — Дзень нараджэння. Віншую. Будзь здароў і вучыся добра. — Яго лысая галава заблішчэла ад поту і ён, паклаўшы лыжку, старанна выцірае галаву насоўкай.

— А ў мяне віно, — Яшка дастае з-пад падушкі паўлітэркі і гучна пляскае на стол. — Вось!

— Віно навучэнцам піць забаронена, — бурчыць Фантамас, аднак бярэ бутэльку ў рукі і чытае ўслых этыкетку, паглядваючы на Нізка: — Аг-да-м! Фу, гадасць! Хто п'е гэткае віно? Грузчыкі, электрыкі... Якія піў я кан'які, віны! Вам не снілася і не прысніцца. Дый не ўбачыце ніколі. У мяне і зараз дома стаяць брэндзі, шрэндзі. Чулі пра такое? Хэ, адкуль, цемната вясковая... Ладна, колькі табе? Васемнаццаць? Мяркую, і бог не будзе супраць. Налівайце. Надта ж суп смачны. Хто варыў? Ты, ты, ты? — па чарзе паказвае ён пальцам на хлопцаў.

— Я варыў, — з гонарам адказвае Ангідрыд і разлівае віно па шклянках. Нехта стукае ў дзверы, але з-за стала ніхто не ўстае, усе глядзяць на Фантамаса. Ён здымае з сябе пінжак, вешае яго на біла ложка і, ужо стоячы, прамаўляе:

— Ну, каб вырас ты добрым хлопцам і электрыкам! На здароўе...

Пасля віна хлопцы адчуваюць сябе адважнымі і дасціпнымі. Не спяшаючыся ядуць суп і нібы разам з імі сядзіць за сталом не шасцідзесяцігадовы дзед, а іх раўня, з якім можна жартаваць, размаўляць пра ўсё.

— Леў Аляксандравіч, Леў Аляксандравіч, — пытаецца ў Фантамаса Пецька Касцюк. — Чаму гэта ў вас такое прозвішча: Аршынаў-Мураўёў? Нейкае надта дзіўнае. Пра Мураўёва ў школе я нешта чытаў. Быў такі на Беларусі, якога называлі Мураўёў-вешацель...

— Ну, ну... — усё прыцмоквае Фантамас, надта ж упадабаў суп. — Вешацель, шмешацель. Які яшчэ вешацель? Быў Мураўёў дзекабрыст. Ніякага вешацеля не ведаю. Ці мала што ў вашай школе казалі. Мой прадзед быў пецярбургскі інжынер Аршынаў, а бабуліна лінія — Мураўёвы. Вось і атрымліваецца Аршынаў-Мураўёў. Што тут не ясна? Гэта толькі ты, абалдуй, не разумееш.

Дзіўна, але чамусьці Фантамас пачынае злавацца. Ён пагардліва пазірае на хлопцаў, крывіць вусны, нібы з'еўшы нешта горкае.

— Цемра вясковая, — ляпае ён па плячы Ангідрыда. — Думаеце, заўсёды я вучыў такіх абалдуяў, як вы? Я ж да мінулага года быў галоўным інжынерам энергетычнай сістэмы Беларусі. — Ён узнімае ўверх палец. — Гэта вам не абы-што!

Мабыць, ён у іхнім пакоі прыпыніўся надоўга. Забыў і пра сваё дзяжурства. А што, пад'еў, выпіў, хоць і не самага лепшага віна. Можна яму і ў сталоўку не ісці, думае Яшка, з сумам разглядваючы пустыя паўлітэркі. Вось табе і дзень нараджэння, мо лыжку віна якую і пакаштаваў. Але злосці ў яго да Фантамаса няма, толькі чамусьці пачынае адольваць нейкі дурны смех. І ён, схіліўшы галаву над сталом, пачынае хіхікаць у кулак. Кожнае слова Фантамаса выклікае ў ім смех, нібы слухаючы якога Райкіна. Ён разумее, што гэта непрыгожа, але нічога зрабіць з сабою не можа.

— Вы ж, мусіць, Леў Аляксандравіч, доўга вучыліся? — пытаецца Ангідрыд.

— А як жа ж! — радасна адгукаецца Фантамас. — Такім ёлупнем, як вы, не быў. Бачце, вы пасля школы не здолелі нават у інстытут паступіць, у вучылішча пайшлі. Я ж адразу паступіў... Я ж карэнны ленінградзец, з інтэлігентнай сям'і. Мама мая іграла на піяніна, папа быў інжынер. Мы мелі добрую дачу. І я вырашыў ісці па бацькавай дарозе. Скончыў караблебудаўнічы інстытут, па электрычным абсталяванні. Гэта было перад самай вайною. Мяне накіравалі на працу ў арганізацыю, якая займалася ўзвядзеннем абаронных збудаванняў вакол Ленінграда. Я хадзіў у такой прыгожай ваеннай форме і сам быў прыгожы. Вы што, думаеце, я ўвесь час быў такі лысы?! — узвысіў голас Фантамас. — Налі яшчэ супу! — загадаў ён Ангідрыду.

— Усё з'елі ўжо, — пацісну ў той плячыма і, заглядваючы выкладчыку ў вочы, з непрыхаванай іроніяй спытаўся: — Дык вы былі вельмі прыгожы?

(Працяг на стар. 11)

драматызацыі свайго твора, таму звяртаўся, як і Жан-Жак Русо, да празаічных дыялогаў і кароткіх маналогаў, дэкламаваных на фоне музыкі. Іх спалучэнне з сентыментальнымі арыямі і ўрачыстымі хорамі павінна было ўзмацняць драматызм гучання тэмы свабоды і кахання.

Усходняя сітуацыя давала Агінскаму кантрасты варыянтаў у стасунках між людзьмі, і ўчынкі Зэліс, гатовай з годнасцю пастаяць за сябе і сваё пачуццё, пайсці на ахвяру дзеля кахання і каханага, ён падсвечвае фатальна-бестурботным жаночым хорам. Партыя рабыні гарэма ў гэтым хоры ("Імітуйце ў каханні Зефіра, які лятае ад кветкі да кветкі") вельмі нагадвае сваёй вобразнасцю адну з арыяў оперы "Тры султаны" Эрнста Ванжуры, чэха з паходжання, які ў 1780 годзе працаваў у шклоўскім прыдворным тэатры былога фаварыта Кацярыны II С.Г.Зорыча, а затым быў паддырэктарам імперскіх тэатраў у Пецярбурзе, дзе ў 1785—1794 гадах выдаваў на французскай мове "Музычны часопіс для дам". У ім якраз і друкаваліся фрагменты "Трох султанаў". Агінскі, відочна, чытаў гэты часопіс, і матывы гарэмнага кахання трапілі ў оперу "Зэліс і Валькур" з яго старонак.

Зыходзячы з агульначалавечых крытэрыяў свабоды і разумення кахання як свабоды выбару асобы, кампазітар выводзіў у сваім творы не міфічных герояў, як гэта было прынята, а рэальна існуючых, пры іх жыцці (Напалеон і яго ад'ютанта, напрыклад). Гэта было нечакана і нязвычна. Аднак, прывязаная да жывой рэчаіснасці, опера Агінскага "Зэліс і Валькур, або Банапарт у Каіры" не была гэтай рэчаіснасцю ўспрынята. Яна паўстала як нейкае выключэнне ў творчасці Агінскага, а ў музычным мастацтве засталася як з'ява арыгінальная, неўвасобленая на сцэне і да гэтага часу неацэненая.

Непараўнана большай увагаю лёс надзяліў паланезы Агінскага. Яны неаднойчы выдаваліся, нават без згоды на тое аўтара, а здаралася, і ў суправаджэнні неверагодных звестак пра яго трагічны канец. Гэта, вядома, магло прыцягваць увагу да выданняў, але папулярнымі станавіліся не яны, а змешчаныя ў іх творы кампазітара.

Агінскі адкрываў новыя магчымасці жанру паланеза, пераводзячы яго з бытавога танца ў канцэртную п'есу праз драматызацыю рытму двума настраёвымі пачаткамі — мінорным і мажорным. Напісаныя ў класіцыстычнай манеры, паланезы Агінскага вырываліся сваёй змястоўнасцю на эмацыянальную прастору новай эпохі. Яны неслі ў сабе рамантычнае светаўспрыманне. Нездарма выдатная польская піяністка Марыя Шыманоўская ў кожны свой канцэрт абавязкова ўключала творы Агінскага. "Паланезы Пана, — пісала яна кампазітару ў часе еўрапейскіх гастроляў, — зачароўваюць усё мясцовае грамадства, іграць іх мяне ўпрошваюць усюды, дзе б я ні знаходзілася".

Музыку Міхал Клеафас Агінскі пісаў, дзе надарыцца, дзе дазваляла яго вандроўнае жыццё. Пазней кампазітар прыгадваў: "Калі я, пакінуўшы радзіму, у часе маіх вандровак выпадкова натрапляў у дарозе на фартэпіяна, то садзіўся да яго механічна і здабываў з яго гукі сумныя, жахлівыя, часам нечаканыя, нібы натхнёныя нейкім трызненнем, але праз пару гадзін ваджэння пальцамі па клавіятуры вельмі дрэннага звычайна інструмента я ў здзіўленні заўважаў, што імправізаваў тэмы, фантазіі і мелодыі глыбока меланхалічныя... Трэба было апынуцца на маім месцы, каб ацаніць вартасць тых імправізацый, якія пасля зніклі з мае памяці і ніякіх запісаных слядоў не пакінулі. Пра іх можна меркаваць толькі па некалькіх паланезах змрочнага настрою, якія я запісаў у свабодныя хвіліны ў Неапалі, Канстанцінопалі, а пазней у Парыжы і Берліне".

Але самай плённай яго творчасць была ў Залессі. У гэтым маёнтку пад Смаргонню кампазітар пражыў амаль дваццаць гадоў, пасяліўшыся ў 1802 годзе, пасля таго як вярнуўся з эміграцыі і атрымаў яго ў падарунак ад маладзечанскага родзіча, графа Францішка Ксаверыя Агінскага.

Узяўшыся за рэканструкцыю сядзібы ў Залессі і пабудаваўшы новы палац, заклаўшы побач з французскім паркам англійскі, батанічны сад і аранжарэю, адрамантаваўшы дарогі, Агінскі, здаецца, не тое каб абсталёўваў сваё жыццё і толькі, а рэалізоўваў у мініяцюры сваю мару пра адноўленае жыццё радзімы, за свабоду якой змагаўся. Менавіта таму нададзены Залессю адраджэнскі патэнцыял сваё найвышэйшае выяўленне знаходзіў у музыцы — і ў той, якую выконвалі тут знакаміты іспанскі скрыпач Эскудэра і былы настаўнік Агінскага Казлоўскі ці італьянскі спявак Паліяні, і ў той, якую пісаў гаспадар.

У Залессі туга па радзіме была ўжо як быццам пераадолена, але яна працягвала жыць у душы кампазітара ўспамінальна. Таму і нараджалася тужліва-пяшчотная мелодыя пад такія радкі:

**Склікаюць званы люд у кола,**
**Ветру ласкавы павеў,**
**Вярнуцца зноў і жыць вясёла**
**У вёсцы той між ціхіх дрэў.**

Гэта словы рамапса "Родная вёска", ды аўтара тэксту мы не ведаем: кампазітар не пазначыў яго імя. Калі ж улічыць, што з семнаццаці рамансаў Агінскага толькі тры маюць названага аўтара верша — Антон Гарэцкі, Жан Эцьен Эсменар, Жыавані Батыста Перучыні — і што кампазітар сам мог пісаць і з ахвотаю пісаў тэксты, то можна з вялікай верагоднасцю сказаць, што словы астатніх чатырнаццаці рамансаў належаць Міхалу Клеафасу Агінскаму. Усе яны (акрамя хіба тых, што напісаны пад уплывам дзядзькавых рамансаў — "Часам драбноцце" і "Цудзяўчына") — творы біяграфічныя. Гэта глыбока асабістыя балючыя асколкі спачувальнай і мудрай душы.

Выказваючыся ад імя ўчарашняга перад сваёй сучаснасцю, Агінскі адкрываў сваёй творчасцю кантакты з заўтрашняй наступнасцю, угадваў будучыню. Але рэальнае быццё, і не так асабістае, як усяго краю, было ўведзена ў рэчышча, якое, здавалася, пазбаўляла гэтай будучыні. Тым болей, што праект сенатара Агінскага пра ўзнаўленне Вялікага Княства Літоўскага (у складзе Расіі) расійскі манарх у 1811 годзе адхіліў... Заставалася эміграцыя, апошняя, на гэты раз у Фларэнцыю. Заставалася падвядзенне жыццёвых і творчых вынікаў у "Мемуарах" і "Лістах пра музыку" і пакутлівае асэнсаванне няспраўджаных надзей.

**Уладзімір МАРХЕЛЬ**

скрыпачом. Можна меркаваць, што Габрыэль таксама ўдзельнічаў у хатніх канцэртах Агінскага. Сам кампазітар вельмі цікавіўся скрыпічнай музыкай, а з некаторымі буйнымі скрыпачамі свайго часу (такімі, як Жарновік, Эскудэра, Байё) сябраваў і браў у іх урокі ігры на скрыпцы. Дарэчы, менавіта лекцыі Байё паўплывалі на тое, што Міхал Клеафас пасля дзесяці гадоў перапынку зноў пачаў займацца на скрыпцы (а Байё, між іншым, прысвяціў Агінскаму варыяцыі ўласнага сачынення). Такім чынам, ці магчыма, што Агінскі, які напісаў больш як 30 паланезаў для фартэпіяна (на маю думку, іх яшчэ больш, бо мне здаецца, што нават пры падрыхтоўцы італьянскіх выданняў сваіх твораў кампазітар не меў усіх уласных рукапісаў), абышоў увагай адзін з улюбёных сваіх інструментаў, якім, несумненна, добра валодаў? Мне здаецца, такога быць не магло. Чаму скрыпічныя паланезы не ўвайшлі ў прыжыццёвыя яго выданні ў Рыкордзі? Гэта тлумачыцца, я мяркую, тым, што ў першую чаргу ім рыхтаваліся фартэпіянныя творы, якія дагэтуль выходзілі з друку ў нядбайным выглядзе, і кампазітар хацеў пакінуць выверанае аўтарскае выданне. Па-другое, скрыпічныя паланезы, хутчэй за ўсё, ён пісаў у Залессі і ў Фларэнцыі — тады, калі яго фартэпіянныя паланезы ўжо заваявалі Еўропу. Таму і сам кампазітар мог надаваць ім другараднае значэнне...

Што ж да паланезаў, якія знаходзяцца ў Расійскай Нацыянальнай бібліятэцы, то я мяркую, што яны былі напісаны напрыканцы 1820-х гадоў і нейкім чынам апынуліся ва ўласным архіве кагосьці з арфістаў, добрых знаёмых Агінскага — магчыма, гэта была Аліна Бертранд ці кавалер Марын, якога Агінскі таксама згадвае ў "Лістах пра музыку". Як гэты архіў апынуўся ў Маскве — невядома, але там гэтыя паасобныя рукапісныя старонкі былі пераплецены разам з выдадзенымі нотамі і доўгі час захоўваліся незапатрабаванымі. Даследчыкам Агінскага не магло й на розум прыйсці шукаць яго рукапісы ў гэткай "кампаніі", а той, хто выпадкова натрапляў на зялёны фаліянт, не звяртаў увагі на паланезы невядомага кампазітара.

Зразумела, я дапускаю, што аўтарам гэтых скрыпічных паланезаў можа і не быць Міхал Клеафас Агінскі. Але гэтыя творы, якія, безумоўна, належаць пяру прафесійнага і вельмі тэхнічнага кампазітара (паланез соль мажор нават набліжаецца па стылі да мініяцюр Шапэна), выяўляюць вельмі значны стылістычны ўплыў музыкі Агінскага, што сведчыць пра вельмі моцнае ўздзеянне творчасці беларускага кампазітара на сучасных яму еўрапейскіх творцаў.

Пошукі працягваюцца. Зараз я шукаю магчымасць доступу да арыгінальных рукапісаў паланезаў Агінскага, і ў першую чаргу мяне цікавіць рукапіс знакамітага "Развітання". І ўжо тады прафесійна праведзеная графалагічная экспертыза дасць адказ на пытанне пра аўтарства гэтых твораў.

**Наталля СОБАЛЕВА,**
**музычны рэдактар**
**"Беларускай Капэлы"**

# ФАНТАМАС

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

— Ого, яшчэ які! Калі б не вайна, невядома кім бы я быў. Але і так дзякуй богу. Галоўнае, трэба мець на плячах разумную галаву. Інакш, — зноў ён з крываватай усмешкай агледзеў хлопцаў, — будзеце ўсё жыццё электрыкамі... Калі пачалася вайна, я адразу зразумеў, трэба варушыць мазгамі. Інакш... Вы ж ведаеце, што Ленінград доўга быў у блакадзе. О, гэта вельмі страшна, жудасна. Аднак у мяне ўсё было нармальна. У канцы сорак першага года з дапамогаю сябра я звольніўся з ранейшай працы, а там я ўжо быў начальнікам участка, і ўладкаваўся простым электрыкам на хлебакамбінат. Здабыў браню...

— Былі начальнікам участка, а пайшлі простым электрыкам? — здзівіўся Яшка. — Навошта?

— Во, я ж кажу, што ў вас трохі, — Фантамас паляпаў пальцам па стале. — Таму вам і не быць інжынерамі... Усю блакаду я жыў, як сыр у масле. Вакол тысячамі паміралі людзі, — павысіў голас, — тысячамі! Мёртвыя ляжалі на вуліцах, у дварах, у кватэрах. Выміралі цэлыя сем'і. За кавалак хлеба можна было ўзяць, што душа жадала. Найпрыгажэйшая жанчына за сухар... — Фантамас аблізнуў абвіслыя з фіялетавым адценнем вусны. — Я ж бяды не ведаў. У мяне быў хлеб і да хлеба. Вось як важна мець на плячах разумную галаву...

— І што далей? — ціха вымавіў Пецька Касцюк, бо, як замоўк Фантамас, стала нават чуваць дыханне хлопцаў, што сядзелі ў гэтым пакоі.

— Ну, калі прарвалі блакаду, я звольніўся з хлебакамбіната. Памаглі таварышы. Каго, думаеце, першымі вывозілі з Ленінграда? Спецыялістаў! Яны патрэбны былі на заводах у Сібіры. Ішла вайна. Зброі давай ды давай. А хто яе дасць? Спецыялісты!!! І вось я помню, — уздыхнуў Фантамас, прыплюшчыўшы вочы, — збіраюся садзіцца на карабель, на якім адплывала першая партыя спецыялістаў з Ленінграда пасля прарыву блакады, і падыходзіць да мяне жанчына прыгожая-прыгожая, гадоў, мабыць, трыццаці пяці, а за ёй, пэўна, дачка гадоў шаснаццаці. Таксама прыгожая-прыгожая. Маці кажа мне: дайце бохан хлеба і я аддам вам сваю дачку. Забярыце яе з сабою, будзе вам, як сабака, служыць...

— І што вы? — пытаецца Пецька.

— Нічога. Хто яе пусціў бы на карабель са мною... Ой, што там рабілася... Ніякімі словамі не перадаць... Людзі паміралі, як мухі. Нават хутчэй, чым мухі. Былі ж і людаеды... Пра гэта, праўда, ужо не раз пісалі і ў газетах, і ў кніжках... А вы ці хоць кніжкі чытаеце? — Нечакана на зусім іншую тэму пераходзіць Фантамас. — Так і будзеце цемнатой вясковай. Вось у мяне дочкі. Гэта ж як яны ведаюць літаратуру, музыку, — твар у яго робіцца радасна-шчаслівым. — Яны ў мяне вельмі таленавітыя, інтэлігентныя...

— Пазнаёмце мяне з якой, — гаворыць Ангідрыд, — пазнаёмце, Леў Аляксандравіч. Паглядзіце, які я здаровы. — Ён сціскае кулакі і размахвае імі перад тварам Фантамаса.

— Цябе пазнаёміць з маімі дочкамі?!. З маёй Каценькай і Мілачкай?!. — амаль шэпча стары і, паступова ўзвышаючы голас, ледзь не крычыць. — Ты паглядзі на сябе, хто ты ёсць! Цемра ты вясковая! Ты хоць чытаў калі Пушкіна, Байрана, Шэкспіра? Ці чуў пра гэтых вялікіх паэтаў? Як мог ты сказаць такое! — па расчырванелай шчацэ коціцца буйная сляза і, здаецца, што Фантамас і папраўдзе заплача. Але, пэўна, гнеў перасільвае ў ім гэтае жаданне, і стары лаецца, лаецца... Потым пачынае расказваць, як незвычайна іграе Каценька на піяніна. Яна магла б зараз саліраваць у Маскве і Варшаве, у Вене і Берліне. А Мілачка!.. Як яна ведае мастацтва, літаратуру...

— Дык, можа, усё-ткі ўзялі б мяне да сябе зяцем? — не супакойваецца Ангідрыд і яшчэ больш распаляе Фантамаса.

— Ты — нікчэмнасць! Ты няварты ногця ніводнай з маіх дачок! — крычыць стары і плюецца. Каб Ангідрыд не адхіліўся, патрапіў бы яму ў лоб. Хлопцы ва ўсе вочы глядзяць на Фантамаса, здзіўляючыся ягонай метамарфозе. Куды знік карыкатурны, дзівакаваты стары, такі, здавалася, добры і спакойны, хоць, як кажуць, да раны прыкладзі.

— Не злуйцеся, Леў Аляксандравіч. Прабачце нам, дурным, — казаў, як і раней, з іроніяй Ангідрыд. — Але як вы апынуліся ў Мінску?

— Як, як! — злосна перадражніў яго Фантамас. — Беларусія была цёмная, спецыялістаў не было. Вось нас з Расіі пасля вайны і накіравалі сюды. Адны пайшлі кіраваць райкомамі ды райвыканкомамі, іншыя заводамі, фабрыкамі. Лавілі ў Заходняй па лясах вашых дэзерціраў, якія не хацелі служыць савецкай уладзе... Узнімалі сяло, вучылі беларуса па-новаму жыць, працаваць на зямлі. Каб не мы, расійскія хлопцы, і цяпер Мінск не стаяў бы. Бачыце, я стаў якім начальнікам! Дый не толькі я. Колькі хлопцаў былі і міністрамі... Калі б не мы, рускія рабяты, вы б і цяпер хадзілі б у лапцях і жылі б пры карасінавай лямпе. Вы ж да вайны пры лучыне жылі. Ай, што вам казаць, цемра! Цемната яна і ёсць цемната! — Ён устаў з-за стала, соладка пазяхнуў, далікатна прыкрываючы рот далонню. — Пайду, гляну, што на двары робіцца. Вучыцеся, бо хутка экзамен...

Калі ён выйшаў, усе доўга маўчалі. Чуваць было, як у суседнім пакоі зайграў гармонік. Потым нехта пратупаў па калідоры. Ад Фантамаса застаўся ў пакоі саладжавы пах адэкалону. Здавалася, што ён яшчэ сядзіць з імі за гэтым сталом і настойліва паўтарае: цемра, цемната...

— А мой родны дзядзька Кастусь, матчын брат, памёр у блакаду ў Ленінградзе. Паехаў туды вучыцца і не вярнуўся, — сказаў Яшка Нізок. — Мама яго вельмі любіла...

— Цемра ты, вясковая... — прамармытаў Пецька Касцюк.

— А мы хто? — Ангідрыд нібы пытаўся ў іх, нібы сцвярджаў. — Прыдуркі! Пушкіна і Байрана не чыталі. На піяніна не іграем. А яны інтэлігентныя і не хочуць мяне ў зяці. — Ён падышоў да акна, расчыніў яго. — Гляньце, гляньце, што гэта наш Лёва робіць!

З трэцяга паверха выразна была відаць бліскучая Фантамасава лысіна. Ён стаяў проста пад імі, узіраючыся ў нейчае акно. Хто ведае, якое ўжо парушэнне там заўважыў.

— Хлопцы, давайце мы яго трохі памыем, — сказаў Ангідрыд. — Надта ён нейкі неахайны і брудны, га?

І, не дачакаўшыся адказу, умомант набраў паўвядра цёплай вады. Не паспелі хлопцы спыніць яго, як ён лінуў уніз на гладка паголеную галаву Фантамаса.

Ну, што ты возьмеш з вясковай цемры...

# ПАТОМНЫ МАЙСТАР ІВЯНЕЦКАЙ ШКОЛЫ

У Івянецкім музеі адбылася выстава твораў народнага майстра, сябра Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, патомнага ганчара Пракаповіча Антона Вікенцьевіча, прысвечаная 60-годдзю з дня нараджэння.

У экспазіцыі прадстаўлены вырабы майстра, зробленыя па заказе музея: збанкі, гладышы, церніцы, гаршкі, спарышы, траякі, глякі, вазы, міскі, падсвечнікі, наборы для напояў.

Традыцыйны па форме бытавы посуд выкананы віртуозна, дэкаратыўнае аздабленне вырабаў нагадвае філігрань ювеліраў. У творах майстра акумулірующа найлепшыя здабыткі старадаўняй івянецкай школы керамікі.

Свеціцца, зіхаціць, пераліваецца мноствам сонцаў цудоўная івянецкая фляндроўка, зачароўвае фарбамі роднага краю, выпраменьваючы святло душы майстра.

**Алег РАМАНОЎСКІ**

*г. Івянец*

# ШТО ЁСЦЬ КАШТОЎНАСЦЬ?

**4 жніўня ў наваколлі Астрашыцкага Гарадка прайшла заключная частка творчага дзеяння "Pup Sjamli". Удзельнікамі гэтага маладзёжнага праекта сталі мінчукі Дзмітрый Локіць, Павел Татарнікаў, Андрэй Басалыга, Вольга Нікішына і студэнт Мастацкай акадэміі Мюнстэра (Паўночны Рэйн-Вестфалія) Райнхард Кляйст.**



**Паступова мастацтва акцый становіцца неад'емнай часткай творчай прасторы рэспублікі. Ёсць тут ужо і прызнаныя спецыялістамі лідэры, пэўныя традыцыі і асаблівасці. Між тым, час адкрывае ўсё новыя і новыя падыходы, пакідаючы непахісным апанентам да гэтага віду мастацтва толькі гісторыю забароны перформансаў і, сапраўды, слабыя прыклады.**

**Калі шэраговыя культурныя абмены, кшталту звычайнага наведвання нашымі мастакамі замежжа, тутэйшых міжнародных пленэраў і рэгулярных прэзентацый малых перасоўных выстаў замежнага мастацтва (з вялікіх выстаў прыгадалася толькі выстава ў Мінску Лёніка Тарасэвіча), не выклікаюць здзіўлення, то сумесныя праекты моладзі не тое, што з'ява новая, але шырока не распаўсюджаная. Сведкам дзеяння прыемна было назіраць сапраўдныя партнёрскія адносіны мастакоў, раўнапраўнасць, дзе ніхто не павучаў адзін аднаго, не выступаў у ролі дасведчанага "мэтра".**

**Нягледзячы на розны эканамічны стан краін, нацыянальныя асаблівасці ў культуры, мастацтва адлюстроўвае шмат агульных і вялікіх праблем чалавечага існавання, імкнецца звярнуць на іх важкасць пры любых умовах. Сённяшні час з вялікім арсеналам сродкаў дазваляе актывізаваць філасофскі пошук мастаком, дае магчымасць супольна назіраць за зменлівасцю мастацкіх тэндэнцый, трансфармацыяй творчых кантэкстаў.**



**Наша рэчаіснасць вымушае мастака выносіць частку свайго творчага акта ў наваколле, за межы памяшкання (не канфліктуючы з традыцыяй пісання змілаваных эцюдаў), дэманструючы адкрыта сваю нязгоду з пануючым абывацельскім цынізмам. "Што ёсць каштоўнасць?" — падсвядома гучала гэта пытанне падчас складанага дзеяння на лясной паляне. Аб'екты творчай увагі знаходзіліся побач, адкрываліся з-пад слою зямлі, сімвалічна пераадольвалі прастору, набывалі нечаканыя якасці, станавіліся часткай наступных мяркуемых акцый. Магчыма, не ўсё так добра было ў акцыі "падагнана", але тут не магло быць рэпетыцый. Галоўнае, што рабілі разам мастакі на працягу жнівеньскага тыдня было для іх саміх сур'ёзнай справай і хацелася, каб гэта станавілася такім і для астатніх.**

**МІХАЛ БАРАЗНА**

*На здымках: акцыя "Pup Sjamli"*

# ДЫК ЦІ АДБЫЎСЯ РЭФЕРЭНДУМ?...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

10 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" просім даць канкрэтнае і адназначнае заключэнне аб тым, могуць ці не могуць быць зарэгістраваны прапанаваныя ініцыятыўнай групай пытанні на рэферэндум менавіта ў такой іх рэдакцыі, як яны сфармуляваны ў заяве дадзенай групы".

Камісіі далі адназначнае заключэнне: "Не могуць быць зарэгістраваны". Свой адказ Камісія па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека матывавала наступным чынам: "Камісія прыйшла да аднадушнага рашэння, што прапанаваныя ініцыятыўнай групай пытанні для вынясення на рэферэндум сфармуляваны некарэктна ў юрыдычна-прававых адносінах, груба супярэчаць як Закону аб народным галасаванні (рэферэндуме), у прыватнасці артыкулу 3 Закона, так і шэрагу палажэнняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, у прыватнасці артыкулам 1, 2, 5, 9, 13 Асноўнага Закона".

Атрымаўшы ўсе заключэнні і зрабіўшы аналіз іх, Цэнтральная камісія па выбарах і правядзенні рэферэндумаў адмовілася рэгістраваць прапануемыя пытанні. Адпаведнае паведамленне было перададзена ў сродках масавай інфармацыі, і шмат хто ўздыхнуў з палёгкай: "Слава Табе, Госпадзі, слава Табе!".

Першы пробны шар быў адбіты. За ім пайшоў другі. Ці, лепш сказаць, пайшла другая разведка боем, другая атака на чале з кіраўніком новай ініцыятыўнай групы генералам А.І.Баранкевічам. Старшыня групы, небезвядомы "патриот Отечества" (невядома, праўда, якога) напорыста атакаваў Цэнтрвыбаркам заявай аб рэгістрацыі пытанняў для вынясення іх на рэферэндум. Пытанні былі ўсё тыя ж... Тры з іх, як потым высветлілася, поўнасцю супадалі з фармулёўкамі пытанняў, прапанаваных Прэзідэнтам.

Ну, а потым ужо — па ўсіх правілах ваеннага майстэрства — пайшла ў ход "цяжкая артылерыя" на чале з самім Галоўнакамандуючым.

Паказальны штрых: падчас абмеркавання пытання на сесіі па зале хадзіла лістоўка, выпушчаная так званым "Народным движением Беларуси" (з подпісам у канцы: "Верно. Председатель КК НДБ С.Гайдукевич". Так, так, той самы...). Подпісы і пячаткі на зваротным баку лістоўкі красамоўна сведчылі, хто стаіць за спіной у Прэзідэнта, якія сілы з'яўляюцца сапраўдным ініцыятарам рэферэндуму, якія групоўкі асабліва зацікаўлены ў тым, каб любой цаной выйграць, каб збітыя спанталыку, абалваненыя людзі адказалі на пытанні "так".

У сувязі з гэтым дазволю нагадаць тут сваё выступленне на сесіі 11 красавіка, у той дзень, калі адбылося першае галасаванне па пытанні аб рэферэндуме. (Тым больш, што прамая тэле- і радыётрансляцыя з залы пасяджэння не вялася: вырашаўся лёс будучага ўсенароднага галасавання, а праўду ад народа хавалі). Давёўшы да ведама дэпутатаў і ўсіх прысутных звароты-пратэсты супраць правядзення рэферэндуму выкладчыкаў і студэнтаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта і Саюза пісьменнікаў, я працягваў далей: "Можна толькі пашкадаваць, што дэмакратычна выбраны першы Прэзідэнт незалежнай Беларусі пайшоў на паваду тых антыбеларускіх, па-экстрэмісцку настроеных рэакцыйных сіл, якія наогул не маюць права гаварыць ад імя беларускага народа, ва ўяўленні якіх народ — гэта толькі насельніцтва ды яшчэ рабсіла, для якой, маўляў, няважна, на якой мове гаварыць, якім сімвалам пакланяцца. І тут я хачу звярнуць увагу на наступны прынцыпова важны момант. Паколькі задума правесці рэферэндум ініцыіруецца палітычнымі сіламі пэўнай арыентацыі, мае несумненна адпаведную ідэалагічную афарбоўку, то гэта ўяўляе сабой яшчэ адно парушэнне Канстытуцыі. Частка другая артыкула 4 нашага Асноўнага Закона гаворыць: "Ідэалогія палітычных партый, рэлігійных або іншых грамадскіх аб'яднанняў, сацыяльных груп не можа ўстанаўлівацца ў якасці абавязковай для грамадзян". Я звяртаюся да Прэзідэнта з заклікам у гэты адказны, крытычны для краіны момант усвядоміць усю адказнасць перад ёй, быць Прэзідэнтам усіх беларусаў, усёй Беларусі, а не пэўных палітычных сіл".

Я спасылаўся ў сваім выступленні не артыкул 4 Канстытуцыі. А зараз вось прыгадаў, што ў ёй ёсць яшчэ артыкул 102, згодна з якім "Прэзідэнт прыпыняе членства ў палітычных партыях і іншых грамадскіх аб'яднаннях, якія дамагаюцца палітычных мэтаў, на ўвесь тэрмін паўнамоцтваў". Ёсць аналагічны і яшчэ нават больш выразны запіс у Законе "Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь". Артыкул 4 гаворыць: "У мэтах ажыццяўлення дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь на аснове разнастайнасці палітычных інстытутаў, ідэалогій і поглядаў, забеспячэння грамадзянскай згоды, Прэзідэнт прыпыняе сваё членства ў палітычных партыях і іншых грамадскіх аб'яднаннях, якія дамагаюцца палітычных мэт, на ўвесь тэрмін паўнамоцтваў з абвяшчэннем адпаведнай заявы ў друку".

У дачыненні да сітуацыі з рэферэндумам гэта азначае, што Прэзідэнт — як гарант грамадзянскай згоды — не меў маральна-палітычнага і юрыдычнага права ініцыіраваць і праводзіць рэферэндум з пазіцый пэўных палітычных груповак, тым больш выконваць, па сутнасці, заказ антыбеларускіх сіл. Ды ён гэта зрабіў, і сёння, постфактум, можна толькі канстатаваць, што травеньскі рэферэндум быў не столькі праявай сапраўднага калектыўнага волевыяўлення, колькі загадзя спланаванай і адпаведным чынам арганізаванай палітычнай акцыяй (калі не сказаць: авантурай), рычагом маніпуліравання разгубленай грамадскай думкай у кан'юнктурна-палітычных мэтах. (Глядзі вышэй: падобнае ў гісторыі правядзення рэферэндумаў ужо было, мы тут не першыя).

## З ПУНКТУ ГЛЕДЖАННЯ ЗАКОНА

Вышэй заходзіла размова аб прававым рэгуляванні такога інстытута непасрэднай дэмакратыі, як рэферэндум.

І трэба сказаць, што ў дачыненні да нашай сітуацыі паэт крыху спазніўся са сваім сцверджаннем, што

**по причинам органическим**
**мы совсем не снабжены**
**здравым смыслом юридическим...**

Пэўным юрыдычным сэнсам і заканадаўчым вопытам мы ўсё ж валодаем. Прыняты і дзейнічае Закон "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" (праўда, у яго трэба ўносіць адпаведныя змяненні). У новай Канстытуцыі змешчаны спецыяльны раздзел "Выбарчая сістэма. Рэферэндум".

У выпадках са зваротамі ініцыятыўных груп па правядзенні рэферэндуму Цэнтрвыбаркам кіраваўся, як мы бачылі, законам, на законнай падставе разглядаў фармулёўкі прапануемых пытанняў і прымаў рашэнні. На закон спасылаліся ў сваіх заключэннях і дэпутацкія камісіі. Ну, а як абстаяла справа з ініцыятывай Прэзідэнта? З прапанаванымі ім для вынясення на рэферэндум пытаннямі? Некаторыя з якіх, дарэчы, або перакліkaліся або зусім супадалі з фармулёўкамі пытанняў ініцыятыўных груп грамадзян? Яны праходзілі якую-небудзь папярэднюю экспертызу, разглядаліся "для вызначэння іх канстытуцыйнасці і законнасці"? (гл. вышэй). Ці не? Ці тут дзейнічала іншая працэдура?

Па-свойму інтэрпрэтуючы канстытуцыйнае права ініцыіраваць рэферэндум і выкарыстаўшы некаторую няўзгодненасць прынятага раней, яшчэ чатыры гады таму назад, Закона аб народным галасаванні (рэферэндуме) з артыкуламі главы 2 Канстытуцыі, дзе размова ідзе аб рэферэндуме, А.Р.Лукашэнка як ініцыятар праігнараваў Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэферэндумаў. Ён выйшаў непасрэдна на Вярхоўны Савет і выйшаў, як потым стала зразумела, не з тым, каб тут фармулёўкі яго пытанняў былі разгледжаны на прадмет іх адпаведнасці існуючаму заканадаўству і, у прыватнасці Канстытуцыі, а з тым, каб яго прапанова была ўключана ў парадак дня і каб шляхам галасавання на пленарным пасяджэнні было прынята рашэнне аб правядзенні рэферэндуму. Ініцыятыва нагадвала форс-мажор.

Між тым, разгляд праекта прапановы ў некаторых камісіях Вярхоўнага Савета, у прыватнасці ў Камісіях па адукацыі і культуры і па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, прыводзіў да высновы, што праводзіць рэферэндум немэтазгодна і непраўамерна па наступных прычынах:

1. Артыкулы 74 і 78 Канстытуцыі, якія вельмі вольна трактуе Прэзідэнт, недвухсэнсоўна гавораць аб тым, што прапановы аб правядзенні рэферэндуму ўносяцца "ў адпаведнасці з законам" і што "парадак правядзення рэспубліканскіх і мясцовых рэферэндумаў, а таксама пералік пытанняў, якія не могуць быць вынесены на рэферэндум, вызначаюцца законам Рэспублікі Беларусь". Гэта значыць: Законам "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" ад 13 чэрвеня 1991 г. Фармулёўкі трох першых пытанняў, прапанаваных Прэзідэнтам, супярэчаць яўна часткі 3 артыкула 3 гэтага Закона, дзе сказана: "На рэспубліканскі рэферэндум не выносяцца пытанні, якія парушаюць неад'емныя правы народа Рэспублікі Беларусь на суверэнную нацыянальную дзяржаўнасць, дзяржаўныя гарантыі існавання беларускай нацыянальнай культуры і мовы; пытанні, якія могуць выклікаць парушэнне тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь".

2. Акрамя таго, пытанні аб статусе рускай мовы і аб праве Прэзідэнта распускаць датэрмінова Вярхоўны Савет вымагаюць унясення змяненняў у Канстытуцыю. Што на сучасны момант немагчыма, бо згодна з артыкулам 148 Асноўнага закона Вярхоўны Савет не можа ўносіць ў яго змяненні і дапаўненні ў апошнія шэсць месяцаў сваіх паўнамоцтваў.

3. У выпадку правядзення рэферэндуму і прыняцця на ім станоўчага рашэння, узнікне неабходнасць унясення змяненняў у Канстытуцыю, у законы "Аб мовах", "Аб адукацыі", "Аб культуры" і інш., адмены законаў "Аб дзяржаўным гербе" і "Аб дзяржаўным сцягу".

4. Маральна-палітычны аспект: а) правядзенне рэферэндуму па пытаннях нацыянальна-дзяржаўнага ўладкавання, па пытаннях мовы і дзяржаўнай сімволікі адмоўна адаб'ецца на справе станаўлення Беларусі як унітарнай дэмакратычнай прававой дзяржавы, на яе міжнародным аўтарытэце; б) барацьба вакол рэферэндуму ўзмацніць нацыянальную і сацыяльную напружанасць у грамадстве, будзе правакаваць непажаданыя праявы ў сферы міжнацыянальных адносін.

Прынцыповую пазіцыю заняў на сесіі адзін з дакладчыкаў па пытанні "Аб правядзенні рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню", старшыня Камісіі па заканадаўстве Дзмітрый Булахаў. "Мы, — зазначыў ён, — разглядалі пытанне па-за кантэкстам палітыкі, з пункту гледжання чыстай юрыспрудэнцыі". Прадставіўшы ўсе ў сукупнасці законы, нарматыўныя акты, якія неабходна было ўлічыць пры прыняцці рашэння, Д.Булахаў рабіў вывад, што адны пытанні патрабуюць змянення канстытуцыйных нормаў, другія — удакладнення іх фармулёвак і таму толькі два з іх — аб змене дзяржаўнай сімволікі і аб ухваленні курсу на эканамічную інтэграцыю з Расіяй — могуць быць вынесены на рэферэндум, але не на абавязковы, а толькі на дарадчы.

Аб "юрыдычнай недасканаласці выносімых на рэферэндум пытанняў" гаварыў Станіслаў Шушкевіч.

Важкія, неабвержныя, як прававога, так і палітычнага, проста жыццёвага плана, аргументы супраць рэферэндуму былі выказаны падчас дыскусіі ў выступленнях Ніла Гілевіча, Міколы Крыжаноўскага, Зянона Пазьняка, Лявона Зданевіча, Генадзя Майсеева, Лявона Баршчэўскага, Генадзя Карпенкі, Віктара Какоўкі, Аляксандра Пракопава, Алега Трусава, Леаніда Зверава, Аляксандра Шута, Віктара Аламліева, Сяргея Навумчыка і інш. "Гэты флаг, што знаходзіцца ў зале, — гаварыў дэпутат Генадзь Фёдаравіч Майсееў, рабочы-электраманцёр з Наваполацка, — назаўсёды застанецца і ў маім доме, маёй кватэры. Ён заўсёды будзе са мной, на мітынгу, усюды. І запэўніваю вас, даю стопрацэнтную гарантыю, што перадам сваю любоў да яго сваім патомкам, дзецям, унукам". Саркастычна дзякуючы тым, хто супрацьстаіць нацыянальным сімвалам, лагойскі дэпутат, урач па прафесіі Аляксандр Шут гаварыў: "Ёсць трэці закон Ньютана: сіла супрацьдзеяння роўная сіле дзеяння. Дык вось дзякуй вам. Я зараз ведаю сваю сімволіку, свой флаг, ведаю, за што маліцца. Я буду маліцца за сваю Бацькаўшчыну. І мы будзем яшчэ больш шанаваць і культуру, і мову, і герб тады, калі ёсць перашкоды, каб іх, гэтыя перашкоды, пераадолець". Запомнілася яшчэ ціхае вонкава, але пранікнёнае выступленне дэпутата з Магілёва, таксама медыка па спецыяльнасці Леаніда Зверава. "Я скажу толькі пару слоў, — звяртаўся ён да залы, — таму што ўсё ўжо сказана. Прэзідэнт сказаў: я не баюся выносіць гэтыя пытанні на абмеркаванне, не баюся выносіць іх на рэферэндум. Калі сумленна прызнацца, то я баюся. І таму галасаваў супраць уключэння гэтага пытання ў парадак дня... Рэферэндум па нацыянальным пытанні — гэта небяспечна. Гэта самае "гарачае" пытанне, якое толькі можа быць". (Гл. адпаведны момант у прыведзеным вышэй экскурсе).

Большасць прамоўцаў зазначалі, што рэферэндум прынясе толькі шкоду грамадству, стане фактарам яго дэстабілізацыі, расколу і раз'яднання, і заклікалі Прэзідэнта адмовіцца ад намеру праводзіць рэферэндум.

Дыскусія стварыла адпаведную атмасферу ў зале. Стрэлка барометра хілілася да адзнакі "Здаровы сэнс". Першае галасаванне, якое адбылося на ранішнім пасяджэнні 11 красавіка і мела на мэце зацвердзіць пытанні, сфармуляваныя Прэзідэнтам, не дало жаданага для яго выніку. Больш таго: па трох пытаннях з чатырох было прынята адмоўнае рашэнне, г.зн. яны не рэкамендаваліся для вынясення на рэферэндум. (Станоўчае рашэнне было прынята толькі па пытанні аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй).

Але... Ні важкія аргументы, ні пераканаўчыя меркаванні, ні цвярозыя прагнозы, выказаныя як у Авальнай зале Дома ўрада, так і па-за яе сценамі (шматлікія калектыўныя звароты, выступленні ў друку асобных грамадзян), ні галадоўка дэпутатаў апазіцыі БНФ як акт адчаю, акт пратэсту (яна, нагадаю, была аб'яўлена падчас ранішняга пасяджэння 11 красавіка і паўплывала, відаць, на выніkі галасавання), ні адмоўнае рашэнне Вярхоўнага Савета ніяк не падзейнічалі, не былі пачуты, не пахіснулі галоўнага ініцыятара рэферэндуму. Атрымоўваўся дзіўны парадокс: Прэзідэнт планаваў народнае галасаванне, народнае волевыяўленне, катэгарычна сцвярджаў, што трэба параіцца з народам па найбольш важных, з яго пункту гледжання, пытаннях дзяржаўнага і грамадскага жыцця, што трэба абавязкова паслухаць народ, але ў той жа час адмаўляўся слухаць голас найбольш свядомых выказнікаў волі і дум народных. Больш таго — усіх тых дэпутатаў, напрыклад, якія не падтрымалі падчас першага галасавання праект пастановы аб рэферэндуме, прэзідэнт тут жа абвінаваціў у... парушэнні Канстытуцыі, у тым (цытую па стэнаграме), што "вся политика Верховного Совета, кроме вот, я не хочу их обидеть, 124 голоса, направлена на дискредитацию власти, на дискредитацию нас как государства". Вось так. Ні менш, ні больш.

13 красавіка, у той дзень, калі ініцыятыву на сесіі перахапілі ветэраны і ў форс-мажорнай абстаноўцы ганебнае рашэнне аб правядзенні рэферэндуму было, нарэшце, прынята, А.Р.Лукашэнка некалькі разоў браў слова. Ён непахісна стаяў на сваім. І складвалася ўражанне, што, акрамя той клятвы-прысягі, якую ён даваў падчас інаугурацыі ("Заступаючы на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, урачыста клянуся служыць народу Рэспублікі Беларусь..."), ён даў некаму яшчэ адну клятву, якая для яго мацнейшая за першую... Так, з такой упартасцю і, я б сказаў, нават, самаадданасцю ён дабіваўся сваёй мэты — правядзення рэферэндуму. Рэферэндум — любой цаной! Рэферэндум — нягледзячы ні на што і ні на кога!

Адпаведным чынам рэферэндум і праводзіўся.

Пад акампанемент прапагандысцкай катрынкі. Пры павышанай зацікаўленасці ў адпаведных паказчыках з боку прадстаўнікоў усіх узроўняў "вертыкалі". З парушэннямі закона. Замежныя назіральнікі; дэпутаты Еўрапарламента са здзіўленнем адзначалі той факт, што рэферэндуму аддавалася больш увагі, чым выбарам у Вярхоўны Савет, і што на выбарчых участках побач з іншымі агітацыйнымі матэрыяламі можна было бачыць узоры бюлетэняў, якія падказвалі, як галасаваць "за".

Назіральнікі, магчыма, не здагадваліся, што ў дадзеным выпадку не надавалася асаблівага значэння законнасці, сацыяльнай этыцы і што арганізатары рэферэндуму зацікаўлены не столькі ў сапраўдным волевыяўленні народа, у сапраўдных, рэальных выніках галасавання, колькі ў здабытых любой цаной "працэнтах". (Гл. вышэй, у якіх выпадках немагчыма практычна вызначыць, наколькі вынік адпавядае сапраўднасці).

## ВЫНІКІ РЭФЕРЭНДУМУ... ЯКІЯ ЯНЫ?

"— Шаноўны спадар Вітка, сёлета ў маі вы адзначылі 84-ю вясну. Якім стаўся для вас гэты месяц, так насычаны падзеямі? — з такім пытаннем звярнулася да аднаго са старэйшын нашай літаратуры карэспандэнт "Звязды" Таццяна Антонава. Мудры казачнік, славуты паэт і педагог, лаўрэат Міжнароднай прэміі імя Х.-К.Андэрсена Цімох Васільевіч Вітка адказаў: "Гэта быў нешчаслівы май майго жыцця. Здарылася неверагоднае — на рэферэндуме народ адмовіўся ад сваёй гістарычнай спадчыны, герба і сцяга. У гэтыя чорныя дні ўсе мае знаёмыя быццам анямелі ці разгубіліся. Мне нават ніхто не званіў. Гэта быў шок... Толькі праз нейкі час мы змаглі сазваньвацца, абмяркоўваць падзеі".

Прайшоў час. Мінула лета. Мінулі ўсе тры Спасы. І разам з іншымі пладамі народ пажынае горкія плады рэферэндуму. "Рэха амбіцыйна праведзенага рэферэндуму пачынае адгукацца на народным дабрабыце", — чытаю ў адной газеце. "Да гэтага ўсё ішло. Пасля рэферэндуму стала зразумелым, што беларускую мову чакае цяпер самы трагічны лёс", — чытаю ў другой. "У любым выпадку, — піша супрацоўнік трэцяга выдання, — даводзіцца канстатаваць, што дзяржаўныя сімвалы ў нашай маладой і нявопытнай краіне з лёгкай рукі такіх жа маладых палітыкаў з фактара, які згуртоўвае, кансалідуе нацыю, ператварыліся ў інструмент расколу і ідэалагічнага размежавання. Праявы гэтага, я мяркую, з'явяцца ўжо ў самым блізкім часе". (Заўважу ў дужках, што яны ўжо з'явіліся. Пра гэта гавораць падзеі, якія адбыліся на вуліцах і плошчах Мінска падчас святкавання Дня незалежнасці, пра гэта гавораць настроі балельшчыкаў, пераважная большасць якіх прыходзіць на стадыён з бел-чырвона-белымі сцягамі, пра гэта гавораць факты падпольнага ўзняцця бел-чырвона-белага палотнішча то над будынкам гарадскога савета, то на трубе саракаметровай вышыні). "Беларусь зноў стала палігонам для сумнеўных палітычных і эканамічных эксперыментаў, — зазначае чацвёрты друкаваны орган. — 10 мільёнаў грамадзян аказаліся на пагранічнай паласе паміж старым і новым, гулагам і свабодай, адміністрацыйна-размеркавальным спажываннем і заможным жыццём". А вось выснова, якую зрабіла Прадстаўніцтва ААН у Беларусі ў сваёй так званай Нацыянальнай справаздачы аб чалавечым развіцці: "Традыцыйнае ігнараванне працэсаў нацыянальнага развіцця ў краіне не пераадолена і да гэтага часу. Няма пакуль што і ўсведамлення значэння мовы і культуры для паўнакроўнага існавання беларускага народа. Больш таго, апошнім часам, небеспадстаўна разлічваючы на падтрымку вышэйшых асоб улады, значна актывізавалі сваю дзейнасць розныя антыбеларускія сілы, якія паставілі сабе за мэту спыніць працэс беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення незалежнай дзяржавы Рэспублікі Беларусь".

... Дык ці адбыўся ўсё-ткі рэферэндум?

Мы мелі магчымасць прасачыць, як і кім ён ініцыіраваўся, як прымалася пастанова аб яго правядзенні ў вышэйшым заканадаўчым органе рэспублікі, як, у якіх абставінах ён праводзіўся, якія яго рэальныя вынікі і магчымыя наступствы. І ўсё гэта разам узятае дае падставы сказаць: не!

Не, рэферэндум як сапраўды народнае галасаванне, выклікане да жыцця надзённай, пільнай патрэбаю, як сапраўды дэмакратычнае, добраахвотнае, свабоднае волевыяўленне народа, як канструктыўны палітычны акт, — такі рэферэндум 14 траўня ў Рэспубліцы Беларусь не адбыўся. Меў месца яго сурагат.

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, намеснік старшыні Камісіі ВС па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека**

Віншуем!

# Алесю ТРАЯНОЎСКАМУ — 70

Алесь Траяноўскі — родам з такой багатай на таленты Случчыны. Нарадзіўся Аляксандр Пятровіч 22 верасня 1925 года ва ўрочышчы Уздымач цяперашняга Слуцкага раёна ў сям'і лесніка. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанам, затым ваяваў на 3-м Беларускім і 3-м Украінскім франтах, дзе быў цяжка паранены. З 1946 года працаваў на розных пасадах у Мінску, у 1959 годзе скончыў Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут. Быў літаратурным супрацоўнікам шматтыражнай газеты "Западная траса" (Беларускае ўпраўленне грамадзянскай авіяцыі), літсупрацоўнікам, загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва "Звязды", а з 1983 па 1986 год — намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва Беларусі".



Творчую дзейнасць А. Траяноўскі пачаў у 1957 годзе з артыкулаў. У 1960 годзе працуе ў галіне перакладу. Па-беларуску пераўвасабляе творы верхнялужыцкіх, ніжнелужыцкіх, кашубскіх, польскіх і ўкраінскіх аўтараў. Адзін з укладальнікаў і перакладчыкаў, а таксама аўтар прадмовы і каментарыяў да анталогіі паэзіі лужыцкіх сербаў "Там, дзе Шпрэвя шуміць" (1969). Дзякуючы яму па-беларуску пабачылі свет анталогія кашубскай паэзіі "За даглядам край Сталемаў" (1980), аповесць Ю. Брэзана "Чорны млын" (1984), а таксама шэраг твораў І. Франка, П. Тычыны, Я. Барта-Цішынскага і іншых пісьменнікаў.

З днём нараджэння, паважаны Аляксандр Пятровіч! Няхай і надалей вам хораша жывецца і плённа працуецца!

# Валерыю НЯФЁДАВУ — 50

Доктар філалагічных навук Валерый Няфёдаў з'яўляецца прафесарам кафедры сусветнай літаратуры Беларускага універсітэта культуры. У 1980-ыя гады быў экспертам па савецкай літаратуры Цэнтра рускіх даследаванняў вядучага універсітэта Індыі імя Неру. У Дэлі выйшла складзеная Валерыем Васільевічам і з яго прадмовай "Анталогія беларускай сучаснай паэзіі". В. Няфёдаў арганізаваў альманах "Беларуская літаратура" і семінар аматараў рускай і беларускай славеснасці, які працаваў пры універсітэце імя Неру. Работа гэтага семінара рэгулярна асвятлялася на англійскай мове і хіндзі газетай "Маладзёжны агляд". Пазней многія знакамітыя індыйскія пісьменнікі, якія прымалі ўдзел у семінары, прызналіся, што іх далучэнне да беларускай літаратуры пачалося менавіта з лекцый і даклада В. Няфёдава пра творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Цяпер В. Няфёдаў рэдагуе часопіс "Беларусь—Індыя", адрасаваны чытачам гэтай далёкай краіны, з якой наша дзяржава падтрымлівае сяброўскія сувязі, па-ранейшаму плённа займаецца літаратурна-даследчыцкай работай. У яго выйшлі кнігі "Паэзія Івана Буніна", "Творчасці — усё жыццё", "Чытаючы Ясеніна", "Гутаркі з мітрапалітам Філарэтам" і іншыя. На падыходзе — зборнік "Індыйскія дыялогі".

Памкненні В. Няфёдава на ніве беларуска-індыйскага пабрацімства, творчых кантактаў і ўзаемасувязяў высока ацэнены. Ён удастоены звання "Ганаровы сябра Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў", узнагароджаны Дыпломам Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны.

З поўднем веку, шаноўны Валерый Васільевіч! Здароўя Вам і плёну!

Выставы

# ШАЎКАГРАФІЯ. БУДУЧЫНЯ ГРАФІКІ?

***Нацыянальны мастацкі музей прадставіў выставу Творчай майстэрні шаўкаграфіі (Маскоўскай студыі). Выстава досыць сціплая і невялікая, што натуральна, зважаючы на два гады існавання самой студыі. Тэхналогія шаўкаграфіі ў яе сучасным складана-камбінаваным выглядзе распаўсюдзілася ў свеце таксама не больш як пяць-шэсць год таму. Яна ўвабрала ў адзінае магчымасці камп'ютэра, фотаматэрыялаў, калажа, ксеракса, ручнога малявання. І ўрэшце атрымаліся літаграфскія лісты, якія вымагаюць экалагічна чыстых фарбаў (дарэчы, у свеце на гэта звяртаецца намнога больш увагі, чым у нас) і далёка не танных машын. Працней кажучы, вялізных грашовых выдаткаў, якія ў наш час толькі адна дзяржава не пацягне. Але вынік работы ў новай тэхніцы настолькі яскравы, што становіцца зразумелай усё большая перавага шаўкаграфіі над іншымі графічнымі тэхнікамі. Згадайма хаця б неабмежаваную магчымасць здзяйсняць якія заўгодна творчыя фантазіі ў дыяпазоне ад дакладных па-літаграфску мазкоў да разнастайнасці празрыстых, матавых, глянцавых альбо металізаваных колераў.***

***Два гады таму Расійская Акадэмія мастацтваў і "Hand Print Workshop" у Вашынгтоне пры фінансавай падтрымцы фонду Ю. С. И. А. (праграма "Art Amerika"), разнастайных расійскіх і амерыканскіх арганізацый, прыватных асобаў сумесна зарэгістравалі першую ў Расіі, ды і ў межах СНД студыю шаўкаграфіі. Яна адразу прапанавала сябе сумежным дзяржавам як навучальны і каардынацыйны цэнтр. Зрэшты, Грузія, Украіна, Латвія, а таксама Германія, ЗША ужо наладзілі з Маскоўскай студыяй трывалае супрацоўніцтва. Абяцаюць прыехаць прадстаўнікі Францыі і Шатландыі. Распачынаем знаёмства з новай тэхналогіяй і мы. Дзякуючы сп. Вользе Каваленцы, якая з'яўляецца сябрам Міжнароднай асацыяцыі мастацтвазнаўцаў (менавіта пры гэтай асацыяцыі афіцыйна існуе студыя), некалькі месяцаў таму першымі гасцямі Творчай майстэрні сталі двое маладых беларускіх мастакоў Таццяна Радзівілка і Канстанцін Селіханаў. Іх работы прадстаўлены на выставе ў Нацыянальным мастацкім музеі. Можна спадзявацца, што такое супрацоўніцтва стане пастаянным пры фінансавай падтрымцы Фонду Сораса, які возьме на сябе асноўныя выдаткі.***

На адкрыцці выставы шаўкаграфіі прысутнічаў судырэктар Маскоўскай студыі з расійскага боку Барыс Бельскі. У фае перад экспазіцыяй з ім адбылася гутарка.

— Выстава, якая прывезена вамі ў Мінск, хутчэй азнаямляльная. Тут многа работ вядучых маскоўскіх мастакоў, і не графікаў па асноўнай творчасці, амерыканскіх, грузінскіх, творцаў іншых краін. Само сабой напрошваецца пытанне; што прыцягвае іх да новай тэхнікі?

— Шаўкаграфія — надзвычай падзвіжная, жывая тэхніка. Яна дае мастакам, незалежна ад арыентацыі, магчымасць прадставіць свае ідэі ў дэмакратычнай тэхніцы эстампа. Восемдзесят працэнтаў працуючых у нашай студыі — жывапісцы, скульптары, мастакі прыкладных відаў творчасці. Многіх прыцягвае магчымасць новага выяўлення ў класічнай тэхніцы. Вось, напрыклад, адна з работ выставы — А. Сямёнава з серыі паштовак "Рака". Ідэю спарадзілі паштоўкі пяцідзесятых, паштоўкі дзяцінства мастака. Работа гэта цалкам зроблена з дапамогай камп'ютэра. Паштоўка сканіруецца, адбываецца падзяленне на дванаццаць колераў і друк. Камп'ютэр як зручны і сучасны сродак даў мастаку магчымасць трансфармавання ўжо зробленай формы і вывад у тыражную тэхніку.

— Дарэчы, неспецыялісту складана зразумець тонкасці тэхналогіі шаўкаграфіі, яе магчымасці.

— Шаўкаграфія ўзнікла ў Кітаі ў XI ст., адзіна, што выраблялася яна на натуральным шоўку. І цяпер замест паперы можна выкарыстоўваць шоўк, калі, вядома, не зважаць на ягоны кошт. Сённяшняя тэхналогія шаўкаграфіі — гэта складаны варыянт трафарэта, зробленага з дапамогай фотаспосабу. Праз яго ўручную праціскваецца фарба, прычым з вялікімі фізічнымі намаганнямі. Натуральна, гэта саматужны спосаб, які не далёка адышоў ад кітайскага сярэднявечча, спалучанага, праўда, з сучаснасцю ў выглядзе камп'ютэраў (з намі супрацоўнічае і з'яўляецца адным са спонсараў фірма "Макінтош"). Дарэчы, паперу мы выкарыстоўваем таксама зробленую ўручную ў Японіі. Яна — з дадаткам з пялёсткаў руж, без цэлюлозы, суцэльная бавоўна. Такая папера выдатна ўспрымае фарбу і ніколі не жаўцее. Сучасны спосаб шаўкаграфіі ўзнік у свеце з вынаходніцтвам фарбаў на вадзяной аснове, што дазволіла наладзіць нетаксічную вытворчасць. Найперш такімі фарбамі зацікавіліся будаўнікі. Некалькі год таму яны спарадзілі мастакоўскі бум вакол шаўкаграфіі.

Дзякуючы стварэнню нашай студыі шаўкаграфіяй зацікавіліся многія мастакі. Перад імі адкрыліся новыя мажлівасці — выдатная папера, экалагічна чыстая вытворчасць, сучасная тэхналогія, зрэшты, выкарыстанне замалёвак са сваіх запісных кніжак, якія раней былі толькі дапаможным матэрыялам. Што датычыць прынцыпаў і ўмоваў, на якіх мы прымаем мастакоў на так бы мовіць стажыроўку, то ён надзвычай просты. Мастак пакідае студыі палову аўтарскага тыража (звычайна мы друкуем трыццаць адбіткаў). Але яму прадастаўляецца (і бясплатна) папера, фарбы, друкар.

— Варта спадзявацца, што супрацоўніцтва Маскоўскай студыі з беларускімі мастакамі працягнецца і з часам узнікне падобная вытворчая структура ў Мінску. Праўда, у вас тады з'явяцца канкурэнты. Не баіцеся?

— Справа ў тым, што калі канкурэнцыя ў бліжэйшы час не з'явіцца сама па сабе, мы мусім яе насаджаць. Наколькі мне вядома, студыя шаўкаграфіі ў межах бліжэйшых дзяржаваў існуе толькі ў Літве, але яна нашмат ніжэйшага ўзроўню па тэхналагічных магчымасцях, чым наша. Таму мы, хоць і з'яўляемся клубнай адзінкай, імкнёмся максімальна пашырацца. За два гады існавання мы налічваем пяцьдзесят аўтараў і спадзёемся ў наступным годзе дадаць яшчэ дваццаць. Мы здолелі аб'яднаць пад нашым дахам мастакоў розных накірункаў і патэнцыяльных магчымасцяў, розных школ і краін. З самага пачатку студыя задумвалася як міжнародная. І я вельмі рады, што цяпер да нас далучылася і Беларусь, таму што беларуская літаграфская школа даўно і добра вядомая ў нас і ў свеце. Ідэі яе вучняў, думаю, будуць цікавымі. І, магчыма, праз пару год Нацыянальны мастацкі музей адкрые выставу беларускай шаўкаграфіі.

**Гутарыла Н. ШАРАНГОВІЧ**

насельніцтва. У XIX стагоддзі жыццё і дзейнасць шмат каго з выхадцаў з Навагрудчыны ўсё больш пачынаюць быць звязанымі з цэнтральнай часткай Расіі. Сярод іх найперш варта прыгадаць прафесара Санкт-Пецярбургскага універсітэта Антона Мухлінскага. Накшталт многіх сваіх землякоў, ён арганічна не прымаў і як толькі мог змагаўся (зразумела, на тэарэтычным фронце) з велікарускімі шавіністычнымі поглядамі. Сваімі грунтоўнымі даследаваннямі ў галіне арабістыкі ён здабыў сабе шырокую вядомасць і за межамі Расіі. Працуючы прафесарам Санкт-Пецярбургскага універсітэта, А. Мухлінскі ніколі не парываў сувязяў з Бацькаўшчынай, цікавіўся яе жыццём. Калі ў кастрычніку 1849 г. кіраўніцтва гэтай самай прэстыжнай у Расійскай імперыі вышэйшай навучальнай установы прыняло архірэакцыйную пастанову, у адпаведнасці з якой прадугледжвалася, "каб казённыя выхаванцы, або выхаванцы з ураджэнцаў заходніх губерняў (г. зн. пераважна беларускіх. — **Л. Л.**), прызначаны былі на працу ва ўнутраныя рускія губерні, а казённакоштныя студэнты універсітэта з прыродных рускіх губерняў на настаўніцкія пасады ў Беларускай навучальнай акрузе", наш зямляк у знак пратэсту пакінуў працу ва універсітэце. Шкада, што такому выдатнаму вучонаму-інтэрнацыяналісту ў найлепшым значэнні гэтага слова і шчыраму патрыёту Беларусі не знайшлося месца ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

Не ўяўляла б асаблівай цяжкасці адшукаць пераканаўчыя прыклады самааддананга змагання жыхароў Навагрудчыны за беларускія інтарэсы ў час складаных і супярэчлівых падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі, грамадзянскай вайны, панавання на іх зямлі несправядлівага, антынацыянальнага рэжыму, усталяванага пасля 1921 г. польскім урадам. Праз усё жыццё сумленна пранёс незалежніцкую ідэю ўраджэнец Навагрудчыны Антоні Мартос (нарадз. у 1904 г.). Пасля заканчэння ў 1925 г. Нясвіжскай гімназіі ён пакідае сваю малую радзіму геаграфічна, але не духоўна, бо працягвае служыць яе інтарэсам. У Варшаўскім універсітэце здольны да вучобы наваградскі юнак здабывае навуковую ступень магістра багаслоўя і ў дадатак да гэтага яшчэ скончыў тут у 1936 г. і педагагічную студыю. У тым жа годзе ён атрымаў сан ігумена, а праз два гады — архімандрыта, прыняўшы імя Афанасій. З усталяваннем на Беларусі нямецкага акупацыйнага рэжыму ўладыку Афанасія пацягнула на радзіму, дзе ён хутка быў заўважаны высокімі духоўнымі асобамі. 8 сакавіка 1942 года ў Свята-Праабражэнскай царкве Мінска адбылося пасвячэнне архімандрыта Афанасія ў епіскапа Віцебскага і Полацкага. З гэтай нагоды ў "Беларускай газеце" ад 11 сакавіка таго ж года змешчаны пад крыптанімам Ул. К. артыкул "Новы беларускі епіскап", у якім ёсць такія радкі: "Складаючы пажаданні новаму беларускаму епіскапу, мы адначасна прыпамінаем яму і просім, як найхутчэй узяць увагу на поўную беларусізацыю царквы". З такім пажаданнем аўтара артыкула заўжды лічыўся новы беларускі епіскап Афанасій.

Усё жыццё прысвяціў беларускай нацыянальнай ідэі выдатны сын Навагрудчыны Аляксандр Орса (1896, мяст. Нягневічы). Сродкам правядзення гэтай высакароднай ідэі ў жыццё ён выбраў адукацыю. І не памыліўся, бо ад настаўніка вельмі многае залежыць, кім стане маладое пакаленне. Яго прасякнутая нацыянальнай ідэяй праца ў Беларускай гімназіі Навагрудка выклікала незадаволенасць з боку мясцовых польскіх улад. Іншага выйсця, як выслаць у 1934 г. Аляксандра Орсу за беларускую этнічную тэрыторыю Польшчы, яны не знайшлі. Цяпер даводзілася не па сваёй волі працаваць зусім не з тым нацыянальным складам навучэнцаў. Вярнуцца на родную Навагрудчыну ўдалося ў нялёгкі для яе час, калі разбушавалася полымя Другой сусветнай вайны. У гады нямецкай акупацыі Аляксандр Орса спачатку працаваў дырэктарам Навагрудскай настаўніцкай семінарыі. а затым знаходзіўся на пасадзе школьнага інспектара навагрудскай акругі, што дазваляла яму ўсяляк уплываць на ўмацаванне беларускасці ў дзейнасці ўсіх тыпаў навучальных устаноў. Яна ж была на першым месцы і тады, калі Аляксандр Орса займаўся ў эміграцыі стварэннем Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы і працаваў яе дырэктарам. Многія яе выпускнікі і па сёння з'яўляюцца актыўнымі прыхільнікамі і змагарамі за ідэю дзяржаўнай суверэннасці Беларусі.

У згаданай вышэй Навагрудскай настаўніцкай семінарыі многае рабіла, каб яе навучэнцы ўзгадоўваліся сапраўднымі беларускімі патрыётамі, выпускніца гістарычнага факультэта БДУ Іна Рытар. Пазней, ужо знаходзячыся ў вымушанай эміграцыі, яна стане жонкай вядомага грамадска-палітычнага дзеяча беларускай дыяспары, вучонага гісторыка Аўгена Калубовіча і будзе сумесна з ім актыўна працаваць на карысць дарагой Бацькаўшчыны.

З вялікай рызыкай для ўласнага жыцця шукаў нялёгкія шляхі да нацыянальнай незалежнасці беларускага народа ў перыяд фашысцкай акупацыі доктар медыцыны, пісьменнік і грамадскі дзеяч, аўтар розных публікацый і кніжак Станіслаў Грынкевіч. Арыентацыю на бальшавікоў ён не мог трымаць, бо ў 1941 годзе быў арыштаваны імі і толькі цудам выратаваўся ў час этапіравання на ўсход. Лічыў, што з немцамі і бальшавікамі трэба змагацца, абапіраючыся на палякаў, дзеля чаго меў кантакты з польскім эміграцыйным урадам у Лондане. С. Грынкевіч не зусім падзяляў пазіцыю старшыні Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага і таму не прыняў прапановы апошняга стаць яе сябрам. Па невядомых прычынах С. Грынкевічу не ўдалося напярэдадні прыходу ў Навагрудак Чырвонай Арміі эмігрываваць на Захад, ён трапіў у рукі савецкіх спецслужбаў і быў закатаваны ў 1945 г.

Трагічна і парадаксальна, але факт, што многія з навагрудчан, хто і ў час суровых ваенных выпрабаванняў, жорсткіх умоў акупацыі выношваў і змагаўся за ідэю незалежнасці Беларусі, вымушаны быў улетку 1944 г. пакінуць яе з тым, каб не стаць бязвіннай ахвярай савецкай Феміды. Але і на чужыне нацыянальна свядомых навагрудцаў не пакідала думка, што некалі ўсё ж надыдзе час і Беларусь стане незалежнай дзяржавай. Шмат зрабіў дзеля сцвярджэння ў беларускіх эмігрантаў веры ў рэальнасць гэтай ідэі ўраджэнец вёскі Дзетамля, што за 24 км ад Навагрудка, Кастусь Мерляк. Асабліва гэта праявілася ў час, калі ён узначаліў з 1959 г. Галоўную ўправу Беларуска-амерыканскага задзіночання. У лютым наступнага года гэтай управай была выдадзена ў англійскай мове брашура "За свабоду і незалежнасць Беларусі". Салідна прагучала беларуская незалежніцкая ідэя з вуснаў К. Мерляка ў час яго выступлення 24 сакавіка 1963 года ў Нью-Йорку на акадэміі Галоўнай управы Беларуска-амерыканскага задзіночання, прысвечанай 45-ым угодкам ад моманту абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Ён заклікаў прысутных адкінуць усё, што падзяляе эміграцыю, і ўзяць усё, што як лучыць з тым, "каб стварыць адзіны моцны палітычны рух на эміграцыі, які б апраўдаў нашае эміграцыйнае існаванне дзе стаўся фактарам у ажыццяўленні воляўлюбных імкненняў нашага народу ў адбудаванні ягонае дзяржаўнасці, што гэта споўніцца — мы моцна верым".

Нельга абмінуць таго, што рабіў і робіць дзеля здзяйснення беларускай незалежніцкай ідэі навуковец з Навагрудчыны Янка Запруднік, жыццё якога з лета 1944 г. звязана з эміграцыяй. У далёкім замежжы яго цікавілі пытанні фармавання нацыянальна-дзяржаўнай ідэі ў нашым краі, якая свядома тут абыходзілася многімі даследчыкамі. Гэтаму пытанню быў прысвечаны і ягоны даклад на навуковай канферэнцыі, што праходзіла ў чэрвені 1966 г. у Нью-Йорку ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва. Параўнальна малады яшчэ на той час навуковец (меў 40 гадоў) справядліва ставіць у дакор гісторыкам БССР, што яны пасур'ёзнаму не займаюцца пытаннем зараджэння беларускай незалежніцкай ідэі, а калі хто і піша пра гэта, дык "па-дагматычнаму спрошчана і па-агітатарску заезджана", памылкова сцвярджаючы, што "дзяржаўнасць беларускаму народу дала Кастрычніцкая рэвалюцыя!.." Паводле ж цвёрдага пераканання Я. Запрудніка, радавод "беларускае незалежніцкае ідэі й беларускае дзяржаўнасці... трэба шукаць у дзесяцігоддзях, што ідуць далёка глыбей за Кастрычніцкую рэвалюцыю".

Добра ведаючы цану незалежніцкай ідэі і шмат карыснага робяць зараз для яе перамогі навагрудцы далёкага і блізкага замежжа старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп Сажыч (Дэтройт, ЗША), акадэмік Барыс Кіт (Франкфурт-на-Майне), кіраўнік беларускага радыё і беларускага зямляцтва ў Аўстраліі Міхась Раецкі, кіраўнік фальклорна-этнаграфічнага гурта "Васількі", прафесар хіміі Ала Орса-Рамана (Нью-Йорк), навуковец Нацыянальнай бібліятэкі Расіі ў Санкт-Пецярбурзе Мікола Нікалаеў і іншыя.

У сябе на радзіме сёння беларускую незалежніцкую ідэю цалкам падзяляюць і з зайздроснай паслядоўнасцю праводзяць у жыццё праз свае творы пісьменнікі, навукоўцы і публіцысты з Навагрудчыны Міхась Касцюк, Уладзімір Конан, Яўген Лецка, Леў Мірачыцкі, Аляксей Рагуля, Вячаслаў Чамярыцкі... Знаёмячыся з іх творамі, чытач пачынае яшчэ глыбей разумець, якой складанай і супярэчлівай была гісторыя нашай Бацькаўшчыны, у тым ліку і Навагрудчыны, і якія невераготныя цяжкасці чакаюць яе на шляху сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. Як не балюча прызнаць, але яно як след не прынята самой дзяржаўнай уладай Рэспублікі Беларусь, многімі грамадскімі рухамі, хоць яны называюць сябе народнымі, патрыятычнымі, славянскімі... Усе яны разам з вярхоўнай дзяржаўнай уладай канцэнтруюцца ў сталіцы Беларусі горадзе Мінску. Па гэтай прычыне Мінск у бліжэйшы час не можа стаць сапраўдным цэнтрам нацыянальна-культурнага Адраджэння. Такі цэнтр трэба шукаць дзесьці на перыферыі. Глыбока перакананы, што яго функцыю найлепш можа выканаць Навагрудчына як мясціна з найбагацейшымі гістарычнымі, дзяржаўна-незалежніцкімі, нацыянальна-культурнымі традыцыямі. Каб рэальна стаць такім цэнтрам, ёй не трэба, як у сярэднявеччы, ладзіць ваенныя паходы на летапісную Літву, Галіцка-Валынскае княства. Усё выглядае нашмат лягчэй: трэба проста пачаць паступова і паслядоўна перабудоўваць, не чакаючы дырэктываў зверху, сваё жыццё на нацыянальна-беларускі лад. Навагрудчына — гэта не зрусіфікаваны дашчэнту Мінск, дзе беларускага баяцца больш за ўсё на свеце. Першыя ж яе практычныя крокі па нацыянальна-культурным Адраджэнні, несумненна, падтрымаюць абсалютная большасць мясцовага насельніцтва, а таксама землякі, што жывуць у розных кутках нашай Бацькаўшчыны і за яе межамі. Упэўнены, што новае і наступныя эаім стагоддзі ў жыцці Навагрудчыны будуць ва ўсіх сваіх вымярэннях выразна беларускімі.

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

Архіварыус

# ЗА ДВА МЕСЯЦЫ ДА ВАЙНЫ

## ДАКУМЕНТЫ ПРА ДОМ-МУЗЕЙ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца цікавыя дакументы, звязаныя з імем вядомай польскай пісьменніцы, нашай землячкі Элізы Ажэшкі. Гаворка ідзе пра рашэнні Гродзенскага гаркама партыі (ад 13 снежня 1940 года), Беластоцкага абкама партыі (ад 21 студзеня і 5 лютага 1941 года) і Бюро ЦК КП Беларусі (ад 16 красавіка 1941 года) і іншых дакументах, што тычацца арганізацыі ў г. Гродна літаратурнага музея пісьменніцы. Прывядзём вытрымкі з гэтых, нядаўна знойдзеных, дакументаў.

Сакратар Беластоцкага абкама партыі Эльман у дакладной запісцы на імя сакратара ЦК КП(б) Беларусі П. Панамарэнкі пісаў: "Бюро Беластоцкага абкама КП(б) Беларусі 5.II.41 года прыняло рашэнне аб стварэнні ў г. Гродна літаратурнага музея імя польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі".

Прымаючы гэта рашэнне, мы зыходзілі з палітычнай мэтазгоднасці. Пісьменніца нарадзілася за 20 кіламетраў ад горада Гродна, у маёнтку Мелькаўшчызна. Усё жыццё з 5-гадовага ўзросту яна правяла ў Гродне і з гэтым горадам непарыўна звязана яе творчасць. У горадзе Гродна захаваўся дамок, у якім Э. Ажэшка жыла і працавала, і маёмасць, якая належала ёй асабіста і частка якой яшчэ польскімі ўладамі перададзена ў Гродзенскі гістарычны музей, а частка знаходзіцца на захаванні ў прыватнай асобы.

Абкам партыі звярнуўся з пісьмом да Наркама асветы БССР тав. Уралавай, у якім просіць аб выдаткаванні сродкаў на арганізацыю і ўтрыманне дадзенага музея.

Беластоцкі абкам КП(б)Б просіць ЦК КП(б)Б зацвердзіць рашэнне абкама аб стварэнні ў г. Гродна літаратурнага музея імя Э. Ажэшкі і прапанаваць Дзяржплану ўключыць музей у план фінансавання на 1941 год".

Да рашэнняў Гродзенскага гаркама партыі і Беластоцкага абкама партыі прыкладзены два акты: адзін ад 10.IV.1940 пра вопіс маёмасці і рэчаў, што належалі пісьменніцы Э. Ажэшцы і знаходзіліся ў яе былой кватэры, і другі (без даты) пра вопіс маёмасці і рэчаў пісьменніцы, што знаходзяцца ў гістарычным музеі ў г. Гродна.

Вось пералік рэчаў па першым акце, падпісаным загадчыкам гарана Шапірам, дырэктарам музычнай школы (знаходзілася спачатку ў доме Ажэшкі. — **А. Х.**) Коган і вартаўніком гэтага дома Якапцэвічам: канапа, пісьмовы стол, 2 шафы, 2 люстэркі, вісячая лямпа, 7 старых парваных крэслаў, буфет, канапа і 10 партрэтаў з рамкамі.

Па другім акце, падпісаным тым жа Шапірам і старшым навуковым работнікам музея Карэлінай, пазначаны наступныя рэчы: партрэтаў Э. Ажэшкі — 4 шт., партрэтаў яе бацькоў — 2 шт., фота яе дома (унутраны выгляд і звонку) — 2 шт., бюсты Э. Ажэшкі — 2 шт., крэсла з вышыўкай яе работы — 2 шт., хустка, вышытая ёю, — 1 шт., гербарый у асобных лістах — 1 шт., гербарый раслін, альбом — 4 шт., пацеркі — 1 экз., рукапісы яе твора "Над Нёманам" — 3 экз., пісьмы — 8 шт., друкаваны зборнік пісьмаў — 1 экз., медальён з акварэллю яе партрэта — 1 шт., барэльеф Т. Касцюшкі — 1 шт.

У заўвазе да акта напісана: "Вышэйуказаныя рэчы былі ўзяты з дому Э. Ажэшкавай яшчэ пры польскіх уладах. Пасля прыходу Чырвонай Арміі (у верасні 1939 года. — **А. Х.**) узята (не ўказана, кім і для чаго. — **А. Х.**) з дому Ажэшкавай 2 партрэты і друкаваны зборнік яе пісьмаў".

Не меншую цікавасць уяўляе і даведка аб стане былога музея Ажэшкі ў Гродне, што захоўваецца ў архіўнай справе (без даты), падпісаная начальнікам упраўлення паліт-асветработы Наркамасветы БССР Мыслівец і метадыстам па музеях НКА БССР Дзяшко. У ёй гаворыцца, што дамок Ажэшкі (знаходзіцца на адной з вуліц Гродна) у поўнай спраўнасці, да яго прымыкае сад, у садзе захавалася альтанка, дзе яна працавала летам.

Да лета 1940 года ў доме ўсё было не кранута (мэбля, фота, партрэты, бюсты і інш.). У 1940 г. у ім месцілася навучальная ўстанова (музычная школа. — **А. Х.**), маёмасць апынулася без нагляду. Большая частка рэчаў і навуковых прац Э. Ажэшкі, гаворыцца далей у даведцы, разышлася па руках прыватных асоб (г. зн. раскрадзена. — **А. Х.**), частку прадметаў удалося захаваць і перадаць Гродзенскаму музею (каля 30 вялікіх фота ў рамках, бюсты і сёе-тое з мэблі і асабістых рэчаў Ажэшкі).

У гэтым доме, падкрэсліваюць аўтары даведкі, за 1940 г. пабывалі дзве ўстановы: спачатку — музычная школа, а пазней — фізкультурны тэхнікум, нейкі матэрыял пра Ажэшку маецца і ў іх.

Паводле неправерáных дадзеных, шмат рэчаў вывезена з дому Ажэшкі польскімі ўладамі ў г. Вільню.

У заключэнне аўтары пішуць: "Зыходзячы з вышэйвыкладзенага, Наркамасветы лічыць магчымым арганізаваць літаратурны музей Ажэшкі, сабраўшы ўсе матэрыялы пра яе як у Гродне, так і ў Вільні".

Такое сумнае стаўленне першых савецкіх уладаў у Гродне (Часовага Упраўлення, потым гарвыканкама і гаркама партыі, а таксама і Наркамасветы БССР) да арганізацыі справы па захаванні рэчаў і дакументаў знакамітай пісьменніцы. многія з іх, відавочна, зніклі назаўсёды.

На падставе ўсіх гэтых матэрыялаў Бюро ЦК КП(б) Беларусі 16 красавіка 1941 года пастанавіла: "Задаволіць хадайніцтвы Беластоцкага абкама КП(б) Беларусі і Гродзенскага гаркама КП(б) Беларусі аб арганізацыі ў г.Гродна літаратурнага музея імя польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі".

Наўрад ці ўдалося што зрабіць па выкананні гэтага рашэння за два месяцы да пачатку вайны. Шэраг рэчаў, відаць, знік з дома-музея Э. Ажэшкі ў час фашысцкай акупацыі Гродна.

У 1947 годзе мне давялося каля месяца жыць у Гродне, знаходзячыся на рэспубліканскіх курсах прапагандысцкіх работнікаў, якія арганізаваў аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. Помню, некаторыя мясцовыя жыхары, партработнікі і выкладчыкі педінстытута расказвалі пра даваенны дом-музей Э. Ажэшкі, пра тое, што гітлераўцы вывезлі за горад на сметнік яе бюст і забралі шмат рэчаў, што частку з іх выратавалі мясцовыя жыхары. У 1947 годзе ні музей, ні бюст пісьменніцы яшчэ не былі адноўлены. Гэта было зроблена пазней.

На заканчэнне нагадаю, што ў чэрвені гэтага года споўнілася 154 гады з дня нараджэння Э. Ажэшкі, а ў маі г. г. — 85 гадоў з дня яе смерці.

**Аляксандр ХАЦКЕВІЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар, заслужаны работнік вышэйшай школы Беларусі**

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Івану ПТАШНІКАВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці жонкі.**

**Калектыў рэдакцыі і рэдкалегія часопіса "Полымя" выказваюць глыбокае спачуванне ПТАШНІКАВУ Івану Мікалаевічу ў сувязі са смерцю жонкі Валянціны Іванаўны.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса "Тэатральная Беларусь" выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела, вядомаму беларускаму пісьменніку Івану ПТАШНІКАВУ ў сувязі з заўчаснай смерцю жонкі Валянціны Іванаўны.**

*"Магчыма, так званага шчасця ўвогуле не існуе ў свеце. Бываюць толькі яго праблёскі."*
Айседора ДУНКАН

# "КАХАННЕ З МАСТАЦТВАМ НЕ ЎЖЫВАЮЦЦА...."

Што мы ведаем пра Айседору Дункан? Што яна была славутай танцоркай, што "на старасці гадоў" захапілася паэтам Сяргеем Ясеніным і што трагічна загінула праз свой доўгі шалік.

Усё жыццё яе суправаджаў шлейф абывацельскіх чутак — такі ж доўгі, як той злашчасны шалік. Калі б не гісторыя яе позняга замужжа (маладой яна прынцыпова не выходзіла замуж), не выключана: мы ўвогуле не ведалі б пра гэтую выдатную, таленавіцейшую асобу.

У прыватнай і пазажыццёвай вядомасці ёсць адзін нюанс, пра які не прынята разважаць публічна. Ён звязаны з менталітэтам і ўплывовасцю адной не шараговай нацыі, ад стаўлення якой у многіх выпадках залежыць і месца творчага чалавека на шкале каштоўнасцей, і грамадскі розгалас, і многае іншае. Айседора, па ўсёй бачнасці, не мела адпаведных кантактаў, і яе імя пасля смерці не было каму "прыўзняць" і ачысціць ад непазбежнага накіпу.

Жыццё і духоўны свет Айседоры Дункан раскрывае кніга яе ўспамінаў "Мая споведзь" (на рускай мове), выдадзеная выдавецтвам "Універсітэцкае" (1994).

Айседора Дункан — амерыканка ірландскага паходжання, якая гадавалася без бацькі ў немалой сям'і. Не без гумару апісвае яна, як яе пасылалі ў краму ўзяць хлеба напавер, з чым яна паспяхова спраўлялася.

Дзяўчынка рана адчула сваё артыстычнае прызванне: у 11 год разам з сястрой бралася вучыць дзяцей танцам — першая спроба стварэння школы. Пазней былі іншыя: то прывязе з Грэцыі хор хлопчыкаў для адраджэння грэчаскай трагедыі, то набярэ 40 здольных дзяцей і будзе іх утрымліваць і навучаць за свой кошт.

Айседоры пашанцавала з маці. Тая, па-першае, іграла на раялі і любіла паэзію; па-другое, прымала як належнае ўсе матэрыяльныя цяжкасці, што выпадалі на іх долю; па-трэцяе, не зацікала прыродных схільнасцей дзяцей і не мучыла іх празмернай дысцыплінай, і па-чацвёртае (што самае галоўнае), была лёгкай на пад'ём і гатова была ехаць за дачкой хоць на край свету. Мабыць, толькі вера ў талент дачкі кіравала ёю, калі яна пакідала абжытае месца, каб падарожнічаць з горада ў горад спачатку па Амерыцы, а потым па краінах Еўропы.

Сямейны тэатр карыстаўся папулярнасцю, але звароты да тэатральных антрэпрэнёраў поспеху не мелі: танец дзяўчынкі быў занадта нязвыклым для таго часу. У кожным горадзе паўтаралася адно і тое ж — безграшоўе, адсутнасць жытла і нешанцунак з "працаўладкаваннем". Кіраўнік тэатральнай трупы Айседора неяк адрэкамендавалася наступным чынам: "Я павінна вам адкрыць вялікую рэч. (...) Я адрадзіла танец. Я адкрыла мастацтва, страчанае на працягу дзвюх тысяч гадоў".

Згадзіцеся, "не слаба" для худзенькага падлетка, якой яна тады была. Але ў тэатры яна так і не прыжылася. І пантаміму, і тагачасны балет Айседора ненавідзела ўсёй душой. Яна не магла зразумець, што агульнага з мастацтвам у гэтых завучаных рухах і штучных ненатуральных жэстах. Візіт у Імператарскае балетнае вучылішча (падчас першай паездкі ў Расію) непрыемна ўразіў яе. Навучэнкі на пуантах здаваліся ёй ахвярамі інквізіцыі, а голыя і пустыя танцавальныя залы — камерамі для катаванняў. Насіллем над прыродай лічыла яна гэтае "лжывае і абуральнае" мастацтва, а сама нязменна выступала ў лёгкай туніцы і не ў ружовым трыко, як было прынята, а з голымі і босымі нагамі. Чым, вядома, шакіравала публіку.

Нельга думаць, што яе танец зыходзіў выключна "з прыроды". Айседора самастойна вывучала тэорыю танца, вывярала і гадзінамі абдумвала кожны свой рух і жэст. Ацаніць яе талент у належнай меры змагла толькі Англія, дзе артыстка адчувала сябе, "як рыба ў роднай стыхіі". Шлях да вядомасці палягаў не праз прафесійную сцэну, а праз выступленні ў багатых дамах, праз увагу герцагінь, графінь і нават каранаваных асоб.

Усе славутасці Еўропы сталі з часам яе знаёмымі або блізкімі сябрамі. Аддадзім належнае: у сваіх успамінах яна шчыра захапляецца кожным адметным талентам свайго часу і не шкадуе ўзвышаных слоў, пішучы пра Мунэ-Сюлі, Элеанору Дузэ, Радэна, Гордана Крэга, вядомых музыкантаў і паэтаў Англіі, Францыі, Германіі. Ёю самою не проста захапляліся гледачы — яе абагаўлялі. У турнэ па Венгрыі яна ехала ў калясцы, запрэжанай белымі конямі, і ўся засыпаная белымі кветкамі. Нямецкія студэнты літаральна насілі яе на руках.

Былі выпадкі, калі на яе выступленні на калясках прыносілі хворых; лічылася, што яе ўздзеянне лечыць.

Аднак што цікава: змоладу Айседора Дункан не прызнавала так званай "залатой моладзі", што вілася вакол. Яе прываблівалі толькі рэспектабельнасць і інтэлект, невыпадкова ёй спрыялі звычайна немаладыя, салідныя мужчыны. Пасталеўшы, яна здрадзіла свайму правілу і стала менш пераборлівай. Гэта здарылася пасля некалькіх палкіх захапленняў, калі Айседора прыйшла да высновы, што "каханне не толькі трагедыя, але і баўленне часу".

Яна ў такой ступені прывыкла супрацьстаяць грамадскай думцы, што нараджала пазашлюбных дзяцей, адмаўлялася хрысціць іх і не апранулася ў чорнае, калі яны загінулі (аўтамабіль сыграў у яе жыцці фатальную ролю). Адначасная гібель двух бязвінных анёлкаў як бы падзяліла жыццё Айседоры Дункан напалам. Ад бесклапотнасці, асалоды і раскошы яна ступіла ў цень, дзе былі душэўны надлом, кіданні, непатрэбныя сувязі, ганьба. Спроба ўратавацца чарговымі родамі абярнулася новай бядой — смерцю нованароджанага. "Не шукайце, не шукайце болей шчасця, — казала ёй Элеанора Дузэ. — На вашым чале пячатка зямнога няшчасця. Тое, што з вамі адбылося, толькі пралог".

Словы "музы трагедыі" аказаліся прарочымі. Паездка ў Савецкую Расію стала лагічным працягам жыццёвай драмы Айседоры Дункан. У яе мемуарах гэты перыяд не адлюстраваны, ён вядомы па сведчаннях іншых людзей, прыведзеных у заключным раздзеле кнігі.

Усялякія мемуары каштоўныя не столькі расповядам пра жыццёвыя падзеі, колькі канкрэтнымі дэталямі, міжвольнымі і свядомымі прызнаннямі, самааццэнкай аўтара-героя, мерай адлюстравання яго асобы. Пра некаторыя далікатныя рэчы вялікая артыстка піша досыць бясхітрасна: як яна спрабавала спакусіць Станіслаўскага, як лёгка кідалася ў любоўныя авантуры, як раўнавала і пакутавала ад здрад. І такое вось — вельмі жаночае — прызнанне: па ўласнай волі яна не пакінула б ніводнага са сваіх каханкаў.

Тут ёй можна не паверыць. У яе пачуццёвасці быў сур'ёзны сапернік — мастацтва, і пры неабходнасці выбару Айседора аддавала перавагу менавіта яму. Яна не пастулалася галоўным — не дазваляла прытаптаць, прыглушыць сваю індывідуальнасць, не стала рабой чужых прызванняў. Яна не толькі ўдасканальвала цела, яна вытанчала — да яснабачання — душу. Яна танцавала пад музыку Шапэна, Шуберта, Моцарта, Бетховена. І не проста чытала — вывучала працы Шапенгаўэра, Ніцшэ, Канта. У яе ўспамінах ёсць радкі, пазначаныя не абыякімі здагадкамі. "Я считаю, что в человеческой жизни есть духовная черта, поднимающаяся ввысь линия и что нашей истинной жизнью является только то, что примыкает к этой линии и углубляет ее. Все остальное — только налет, изчезающий по мере того, как совершенствуется душа. Мое искусство и есть эта духовная черта. (...) Любовь и искусство никогда не уживаются, а всегда воюют".

Кніга чытаецца на адным, як кажуць, дыханні. Пры такой багатай фактуры неяк не выпадае разважаць пра асаблівасці стылю. А вось пра культуру паліграфіі варта было б пагаварыць. Восем старонак у кнізе засталіся спрэс бялюткімі. Гэты відавочны друкарскі брак, які, тым не менш, трапіў у кнігарні, не дадасць аўтарытэту выдавецтву. Айседоры зноў не пашанцавала...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Марцін Коўзкі

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Вада не можа плаваць у паветры без парушынак ад радзімых нетраў. З санетамі звяртаешся да неба, а ёсць у іх хоць штосьці ад роднай глебы?

●

Час такі, настрой такі, пара. Горшага не пажадаеш ворагу. Месцачковы дурань з Мазыра едзе ў Піцер "нарабіці шораху". Піцер выстаўляе супраць блазна ці не цэлы батальён спецназа і паведамляе ўрачыста: важнага злавілі тэрарыста. Плача дурань, кашляе, смаркаецца, і Мазыр брыдліва ўсміхаецца.

●

Клікала на мітынгах не плаціць за кватэру, бо ўлады і так патрабуюць без меры. Апладзіравала галечу, лёс наш горкі, адыходзіла і хуталася ў манто з норкі.

●

Калі гаварыць пра сучасныя арыенціры, пра эпохі адметныя рысы, дык няма гары ў беларускай сатыры вышэй за гародную "Лысую".

●

Абрыдлі траскатня, бясконцыя прамовы, без дыспутаў — ні дня, баляць ад іх галовы. Пара памеркавац аб моўнай галадоўцы, як нам далей трываць... Ні слова, брат, ні слоўца!

●

Не кожны, хто адмаўляецца пабіць мазахіста, — садыст.



Малюнак Л. Разладава

**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| Х. Дунец | (1932-35) |
| І. Гурскі | (1935-41) |
| А. Куляшоў | (1945-46) |
| М. Горцаў | (1947-49) |
| П. Кавалёў | (1949-50) |
| В. Вітка | (1951-57) |
| М. Ткачоў | (1957-59) |
| Я. Шарахоўскі | (1959-61) |
| Н. Пашкевіч | (1961-69) |
| Л. Прокша | (1969-72) |
| Х. Жычка | (1972-76) |
| А. Асіпенка | (1976-80) |
| А. Жук | (1980-86) |
| А. Вярцінскі | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП —** *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 332-525, 331-985
аддзелы:
публіцыстыкі — 332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 331-985
літаратурнага жыцця — 332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 332-204
паэзіі і прозы — 332-204
музыкі — 332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 332-153
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 332-462
навін — 332-462
мастацкага афармлення — 332-204
фотакарэспандэнт — 332-462
бухгалтэрыя — 268-640

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра "ЛіМ"**
**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма "Дайнова"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7235.
Нумар падпісаны 21.09.1995 г.
Заказ 3917

П123456789101112
М123456789101112